# ПОЛАЦАК

ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА КУЛЬТУРНА-
АСЬВЕТНІЦКАГА ЦЭНТРУ
КЛІЎЛЕНД
ЗША

ПОЛАЦАК

ТЫСЯЧА ГОД ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ НА БЕЛАРУСІ

992

№7(17), 1992



*Рэдакцыя часопіса «Полацак»*
*віншуе старшыню Рады БНР др.Язэпа Сажыча*
***з 75-годзьдзем зь дня нараджэньня!***
*Зычым юбіляру ўсяго самага найлепшага ў жыцьці,*
*добрага здароўя, памыснай дзейнасьці на карысьць Бацькаўшчыны!*

# Polacak

Published with the financial support of the parish
Mother of God of Zyrovicy,
Cleveland, Ohio, USA.



Прозьвішчы падпішчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя
будзе публікаваць у часопісе.

All correspondence should be addressed to:
S.Belaia or M.Bielamuk,
10915 Lake Rd., Cleveland, Oh. 44102, USA.
Tel. (216) 651-3451

# Зьмест

*Зѣцало житиѧ*



*Нашая гісторыя*



*З архіваў КДБ*



*Згукі Бацькаўшчыны*



*Пад бел-чырвона-белым сьцягам*



**Андрэй Карпук**. Распрацоўка макета вокладкі, шрыфтоў і заставак рубрык
**На развароце**. Хрэсны ход у Полацку
**На чацьвёртай бачынцы вокладкі**. Манашкі Спаса-Еўфрасіньнеўскага манастыра.

# Вячэрняя малітва

Сяргей Грахоўскі

Да поўначы, укленчыўшы хрышчуся,
У неба, у зорак і ў Бога малю,
Даць волю і долю маёй Беларусі
Вярнуць нашу мову, душу і зямлю.

Даўно мы зьнямелі, аглухлі, асьлеплі,
Зайшоўся ад болю і голас, і зык.
Нас прыхадні гналі пад кулі і ў петлі
І вырвалі ў нашага Бога язык.

А Бог уваскрос, і жывы, і нязводны,
Расьпяты ня раз без адходнай імшы,
У памяці нашай, у долі народнай,
У кожнай жывой акрыялай душы.

Зацятыя прыхадні енку ня чуюць.
Бо ведаюць толькі: «крышы!» і «карай!»
Пагардай і лютай зьнявагай лінчуюць
І мараць пра «Северо-Западный край».

Яго нашы продкі і мы паспыталі,
Але не здаліся пякельнай бядзе:
Прарока нам Бог дараваў на Купальле,
І ён запытаўся: «А хто там ідзе?»

О, Божа магутны, малю і малюся:
Спрадвечныя нашы пакуты згадай,
Хоць Ты заступіся за лёс Беларусі
І згінуць не дай!

Ліпень 1992 г.

# Загадка царквы-пахавальні

Міхась Белямук

Паводля летапісаў, першым полацкім япіскапам быў Міна, яго хіратанізаваў мітрапаліт Нікіфар 13 сьнежня 1105 г. Памёр яп. Міна 20 чэрвеня 1116 г. Наступным полацкім япіскапам, хіратонія якога адзначаная ў летапісах пад 1143 г. ёсьць Кузьма. Аднак, дзякуючы «Жыцію блажэнныя Еўфрасіньні...» мы атрымоўваем інфармацыю, што ў 1116-1128 гг. полацкаю япіскапскую кафэдру ўзначальваў яп. Ільля.

У «Жыціі...» апісаны такі эпізод. Аднойчы ў келію Еўфрасіньні, якая занходзілася ў саборы Полацкай Сафіі, прыйшоў яп. Ільля з парадай: «*Дачка! Хачу слова сказаці табе, ты-ж прымі зь любоўю яго. Ці ведаш, дзіця, што царква, дзе ты жывеш, саборная, тут усе людзі зьбіраюцца, і табе нядобра быці тут. Але ёсьць царква сьвятога Спаса ў Сяльцы, дзе брація наша ляжыць — япіскапы, што былі да нас. Калі Бог дапаможа, то малітвамі іх і працай тваёй праславіцца гэтае месца*». Прапанову гэтую зрабіў яп. Ільля Еўфрасіньні, бо пасьля начных малітваў задрамаў ды пачуў голас ангела: «*Увядзі рабу божаю Еўфрасіньню ў царкву сьв. Спаса, што ў называем Сяльцы. Места гэтае ёсьць сьвятое*». Іннакінія Еўфрасіньня, выслухаўшы япіскапа, адказала: «*Хай дапаможа мне Бог тваімі сьвятымі малітвамі*».

Прайшоў нейкі час, яп. Ільля паклікаў дзяцьку Еўфрасіньні кн. Барыса (+1128 г.), яе бацькоў, пачэсных мужоў палачан, зрабіўшы іх сьведкамі, мовіў: «*Вось гэтае сьвятое места сьвятога Спаса аддаю пры Вас Еўфрасіньні. Пасьля маёй сьмерці, каб ніхто не падума ў адмяніць мой дарунак*». Гэтак у Сяльцы паўстаў жаночы манастыр, які стаў вядомы як Спаса—Еўфрасіньнеўскі. (1, 73—74, 2, 40).

Так, мы ізноў атрымалі, дзякуючы «Жыцію Еўфрасіньні», каштоўнную інфармацыю ня толькі аб гісторыі паўстаньня манастыра, але і аб тым , што ў царкве сьвятога Спаса былі пахаваныя япіскапы. Яны былі на полацкай кафэдры да хіратоніі Міны на япіскапа Полацкага. Калі-б сталася так, што яп.Міна быў першы полацкі япіскап, яп.Ільля не гаварыў-бы ў множным ліку: «*брація наша, япіскапы*».

В.Тацішчаў (+1750 г.), рыхтуючыся да написаньня сваёй «Гісторыі», стараўся расшукаць летапісы мясцовага паходжаньня. Ён пазычыў на кароткі тэрмін ад П. Яропкіна Полацкі летапіс, у якім аказаліся «*вельмі цікавыя весткі аб полацкіх, віцебскіх і другіх літоўскіх князях. Толькі часу не было ўсё выпісаць*», — жаліцца В.Тацішчаў, бо рукапіс прыйшлося тэрмінова зьвярнуць П.Яропкіну, якога пазьней арыштавалі і рукапіс прапаў (3. 261) У «Гісторыі» В.Тацішчава знаходзім паведамленьне, што ў «*1096 г. преставися Ефрем, митраполит руски. На его место князь велики избрал Никифора, епископа полоцкого, и велел его поставити епископом руским*» (4,109).

Некаторыя гісторыкі праваслаўнай царквы дакараюць В.Тацішчава, што ён бескрытычна выпісаў з Патрыяршага або Ніканаўскага зводу вестку аб полацкім япіскапу Нікіфару ды зрабіў яго мітрапалітам кіеўскім. Калі мы параўнаем запіс В.Тацішчава зь інфармацыяй Патрыяршага зводу, то пабачым: яны маюць свае асаблівасьці. У Патрыяршым зводзе няма паведамленьня пра сьмерць мітрапаліта Ефрэма, брак інфармацыі, што мітрапаліт Нікіфар быў полацкім япіскапам. Бяссумніўна, што В. Тацішчаў пачарпнуў вестку зь іншай кры-

ніцы. Ён, апрача полацкага летапісу Яропкіна, атрымаў ад Хрушчова летапіс пісаны ў Смаленску, ад кн.Галіцына атрымаў летапіс, напісаны на Валыні. Таксама атрымаў ад няведамай асобы Раскольнічы летапіс, напісаны на пэргамэньце зь вялікім юсам. (Гэта паслужыла повадам для Ціхамірава выказаць прыпушчэньне, што Раскольнічы летапіс з ХУ ст., а мажліва і старэйшы). Такім чанам, западазраваць Тацішчава ў спісываньні ды ў фабрыкацыі вестак было-б непаваженым мэтадам крытыкі.

Калі возьмем «Аповесьць мінулых часоў», то, пачынаючы з А.Шахматава, даследчыкі пагаджаюцца, што яна найменш як тры разы пераапрацоўвалася, скарачалася, дапаўнялася, каб адказываць вымогам княжага палітычнага сьветапогляду. Канчаткова «Аповесьць» была адрэдагаваная пры вялікім кіеўскім князі Уладзімеру Ўсеваладавічу ( Манамаху) ў 1119 г. Падчас гэтай трэцяй рэдакцыі шэраг артыкулаў 1094-1115 гг. былі пераапрацаваныя або зьнятыя (5, 15-27). У «Аповесьці» маецца інфармацыя, што не Нікіфар быў кіеўскім мітрапалітам, а Мікалай займаў мітрапалічы пасад у 1097-1103 гг.

Акадэмік Б.Рыбакоў кажа:«Зь лёгкай рукі Н.Карамзіна запанавала скэптычнае адношаньне да Тацішчава. Надыходзіць пара зьмяніць погляд, зьмяніць адношаньне. Трэба пачынаць уважліва вывучаць багатую спадчыну гісторыка, як друкаваную, так і рукапісную. Крытычны падыход Тацішчава да крыніцаў, такая-ж дакладнасьць перадачы вестак... дазваляе адносіцца з даверам да ягоных дадзеных» (6, 341).

Гістрыкі прынцыпова не аспрэчваюць Нікіфара як полацкага япіскапа, сумнівы існуюць ці ёсьць полацкі япіскап Нікіфар і мітрапаліт Нікіфар адна асоба, ці яны розныя асобы на адно імя. Адсутнасьць інфармацыяў і пісьмовых крыніцаў, калі выключыць інфармацыю В.Тацішчава, забавязывае нас скарыстаць археалягічныя крыніцы з надзеяй, што яны дапамогуць часткова ў пошуках гістарычнай спадчыны і разуменьні, чаму загубіўся Нікіфар япіскап полацкі.

Акадэмік М. Каргер праводзіў у Спаса—Еўфрасіньнеўскім манастыры археалягічныя раскопкі ў 1961—1964гг., каб расшукаць тую Спаскую царкву, аб якой напісана ў«Жыціі», што ў ёй *«братия наша лежать, прежде нас бывшая япископы»*. Ён адкапаў **старадаўнюю будоўлю з абсыдамі** ва ўсходняй сьцяне. Гэта **азначала, што** раскопаная будоўля ёсьць царквой. М.Каргер, аналізуючы плінфу і будаўляную тэхніку кладкі у падмурку і сьценах, прыйшоў да высновы, што царква, пабудаваная ў самым пачатку XII ст. Прыпадкова захаваліся сьцены ў некаторых мейсцах болей мэтра ў вышыню. Царква была трохнэфнай з трыма абсыдамі, цэнтральная абсыда выступала навонкі, а бакавыя былі схаваныя ў сьценах. Пакольні з трох старон акружалі царкву галярэі, шырыня якіх была больш 4-х метраў і знаходзіліся ў іх цагляныя саркафагі.Каргер не сумняваўся, што ён адшукаў царкву-пахавальню полацкіх япіскапаў.



Падчас раскопкаў царквы М.Каргерам і П.Рапапортам у 1976 г. устаноўлена, што галярэі не былі прыбудоўкамі, яны будаваліся аднaчасова з будовай царквы. Царква і галярэі мелі мазайкавую падлогу, таксама былі знойдзеныя керамічныя паліўныя пліткі квадратовыя, трохкутныя, фігурныя жоўтага, зялёнага, карычневага, чорнага колераў, якія сьведчаць, што падлога царквы і галярэяў мела багаты ўзор. Малюнкі падлогі выкладаліся керамічнымі каляровымі пліткамі й аздабляліся мазайкай. Заўважаныя ўзоры квадратаў, палосак, трох кутнікаў, іншых гэамэтрычных фігураў.

М.Каргер кажа: «*Полацкий храм-усыпальница был усключителен по богатству декора интерьера. Стены основного храма и его галерей были покрыты фресковой росписью, от которой in situ сохранились лишь декоративные панели мраморировок на нижних частях стен*». (7, 244, 8, 96)

Асноўныя кавалкі тынкоўкі, на якіх фрагмэнты жывапісу полацкай царквы-пахавальні, знаходзяцца ў музэі старажытнарускай архітэктуры ў Ноўгарадзе. А.Сяліцкі часткова агледзеў гэтыя фрагмэнты і даў апісаньне. Асаблівую ўвагу зьвярнуў на выяву галавы юнака-анёла. Уся манэра выкананьня малюнка сьведчыць «пра блізкасьць да стылю кіеўскіх жывапісцаў пачатку XII ст. Галава юнака-анёла нагадвае галаву анёла з мазаічнай кампазыцыі «Еўхарысьція», што ў царкве архангела Міхаіла ў Кіеве з 1112 г. Малюнак падобны і фізіянамічна, і манэраю пісьма».

А.Сяліцкі піша, што мастак, які намаляваў галаву полацкага анёла, умеў надзвычай дакладна перадаць душэўны настрой пэрсанажа. Выраз твару перадае духоўнае напружаньне, вялікую ўнутраную сілу. Адметная асаблівасьць полацкага жывапісу—вострая дынамічнасьць вобразаў.



Другі фрагмэнт — галава сьвятога —захаваўся горш. Няма верхняй часткі твару. Малюнак больш востры, выразны і ўмоўны. Трэці фрагмэнт — частка твару невядомага сьвятога. Захавалася верхняя частка твару. Манэра выкананьня жывапісі ідэнтычная папярэдняму малюнку і можна прыпушчаць, што гэтая частка малюнка складала нейкую кампазыцыю. Аднак, як ў папярэдніх фрагмэнтах, мастак дасягнуў яскравай выразнасьці вобразаў, піша А.Сяліцкі.

Наступныя тры фрагмэнты ёсьць меншага памеру і маюць толькі часткі твараў, на іх таксама можна пабачыць тонкія лініі вачэй, нос, намаляваныя з дапамогаю найтанчэйшай сьветаценявой градацыі таноў. На адным фрагмэньце бачым частку твару маладой жанчыны, яе далікатны нос, невялікія вочы, частачку прыгожых вуснаў.

Кожны з разгледжаных тут вобразаў— піша А.Сяліцкі — ёсьць вельмі індывідуальны. Калі першы фрагмэнт анёл выяўляе імкненьне мастака да мазаічнай манумэнтальнасьці (уплыў кіеўскага жывапісу пачатку XII ст), то большасьць астатніх фрагмэнтаў аб'ядноўваюць іншыя рысы. У полацкіх фрагмэнтах фрэскі з царквы-пахавальні спалучаліся ў адзін прыём, што набліжаецца да рэалістычных, і аднaчасна да

ўмоўных. Умоўнай падачай некаторых дэталяў твару мастак быццам стараўся прыглушаць рэалістычныя прыёмы, прыхаваць тыя чалавечыя пачуцьці, што адбіваліся на твары пэрсанажа.

На падставе рэштак дэкору, мазаікі і фрэсак бачым, што царква-пахавальня займала выключнае месца сярод іншых полацкіх цэркваў. Магчыма, адукаванасьць і высокая патрабавальнасьць полацкіх япіскапаў, як заказчыкаў, паўплывалі на выбар мастацкіх мэтадаў і жывапіснай формы росьпісаў (9, 25-27).

Галярэіі, што акружалі царкву, паўночная і паўдзённая ад усходу, мелі капліцы з алтарамі, іхнія абсыды выступалі навонкі. Падлога была мазайкавая, а пад падлогай былі склепы для пахаваньня нябожчыкаў. У царкве ў паўдзенна-захаднім куце ў аркасоліях былі тры саркафагі, над імі сьценная мазаіка. Прыкоўвае ўвагу паўночная галярэя, у якой быў крыпт (склеп) прыблізна 1,7 м глыбіні, 2,5 м шырыні, 5,2 м даўжыні. Крыпт меў багаты мазаічны дэкор падлогі і сьценаў,сьведчаньне, што прызначаны ён быў для пахаваньня вельмі выдатнай асобы (7, 243). Для каго ён быў прызначаны?

Паколькі М.Каргер адносіць пабудову царквы-пахавальні «*к самому началу XII в.*», то можна выказаць меркаваньне, што будову яе пачаў яп. Міна. Ён быў хіратанізаваны мітрапалітам Нікіфарам у 1105 г. А.Попэ прыйшоў да высновы, што ён інак Пячэрскага манастыру. (10, 173). Пячэрскі манастыр спачувальна адносіўся да полацкага кн. Усяслава Чарадзея, і выдатны манах Антоній быў прымушаны ўцякаць ад прасьледу кіеўскага князя Ізяслва. Летапісаньне з Пячэрскага манастыра было перанесена ў Выдубіцкі манастыр, пазьней у Андрэеўскі.

Русь за часоў Міны мела ўжо два культавых асяродкі—Пячэрскі манастыр, у якім рыхтаваліся да кананізацыі Фэадосія, і Вышгарад, дзе спачывалі мошчы сьвятых Барыса і Глеба. У Полацку пакуль што ня было культавага цэнтру. Усяслаў Чарадзей пабудаваў сабор сьв. Сафіі, каб зрэваншавацца зь Кіевам і Ноўгарадам, але гэта было ў сярэдзіне XI стагодзьдзя. Сучаснасьць патрабавала стварэньня спірытуальнага асяродку, які-б узьдзеяваў на жыхараў полацкага княства, якое Усяслаў Чардзей падзяліў паміж сваімі сынамі.

Можна прыпушчаць, што япіскап Міна мог быць выхадцам з полацкага княства, таму ён праняўся ідэяй стварэньня культавага цэнтру для Полаччыны праз пабудову царквы-пахавальні полацкім япіскапам. Праўдападобна, што паміж япіскапам Мінай і мітрапалітам Нікіфарам, былым полацкім япіскапам, наступіла дамоўленасьць аб пахаваньні мітрапаліта ў Полацку. Згодна гэтай дамоўленасьці, будуючы царкву-пахавальню, у паўночнай галярэі збудавалі багата аздоблены мазайкамі крыпт.

Япіскап Міна, мяркуем, склікаў полацкіх князёў Усяславічаў і пачэсных полацкіх мужоў, бо пабудова царквы-пахавальні з такім багатым дэкорам патрабавала вялікіх фінансавых сродкаў. Сабраныя князі і мужы полацкія зразумелі патрэбу, што неабходна зрэваншавацца Кіеву, як гэта зрабіў бацька і дзед, непакорны, ганарысты, уладарны і грозны суседзям Усяслаў Брачыславіч, пабудаваўшы сабор сьв.Сафіі ў Полацку.

Царкву-пахавальню сьв.Спаса збудавалі. Саркафагі, што ў паўдзённа-захаднім куце царквы стаяць, у адзін зь іх паклалі астанкі першага полацкага япіскапа, які ўзначальваў кафэдру ў 992 г. У другім спачываў ініцыятар будовы царквы-пахавальні япіс-

кап Міна. Іншых япіскапаў паклалі ў спэцыяльна-змураваныя склепы пад падлогаю галярэяў. М.Каргер раскапаў 29 склепаў. У некаторых склепах былі астанкі мужчынскія вельмі сталага, старога ўзросту. Большасьць склепаў аказалася пустымі, гэта не зьдзівіла М.Каргера. Яго зьдзівіла, што пры астанках не было сьлядоў аблачэньняў, архіпастырскіх інсыгніяў ды іншых культавых рэчаў. Гэта сьведчыла-б, што хтосьці даўным-даўно абрабаваў полацкіх япіскапаў і архіяпіскапаў.

Крыпт таксама быў пустым. Калі ў 1096 г. вялікі князь кіеўскі Сьвятаполк Ізяславіч пагадзіўся з кандыдатурай япіскапа полацкага ў мітрапаліты ўсяе Русі, то праўдападобна, што гэтае пагадненьне Сьвятаполка з Усяславам Чарадзеям паказалася Уладзімеру Ўсеваладавічу Манамаху падазорным. Сьвятаполк заняў кіеўскі вялікакняжы пасад па ласцы Манамаха. Манамах быў пранырлівай асобай, яму не да ўпадобы было, каб полацкі япіскап стаў мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Русі. Ён з падазрэньнем азіраўся на Ўсяслава, баяўся яго. Ягоны бацька і ён ваявалі з Усяславам, хацелі падпарадкаваць Полацкае княства Русі, але ім не пашанцавала. Сьвятаполк быў прымушаны да патрабаваньняў Манамаха, калі хацеў быць вялікім князем кіеўскім. Сытуацыя зьмянілася пасьля сьмерці Ўсяслава Чарадзея. Пагроза Манамаху з стараны Полацку значна зьменшылася. Полацкае княства падзялілася на ўдзелы і Манамаху кандыдатура Нікіфара на мітрапалічую кафэдру не стварыла пагрозы.

Аднак, калі мітрапаліт Нікіфар памёр у красавіку 1121 г., Манамах ня мог пагадзіцца, каб цела Нікіфара было пахаванае ў Полацку, так як і не дазволіў князя менскага Глеба Ўсеслававіча пахаваць у Менску. Манамах зырка сачыў за Полацкам і чакаў нагоды расправіцца з полацкімі князямі, што было зроблена ягоным сынам Мсьціславам.

Такім чынам, дзякуючы аднойдзенай М.Каргерам царквы-пахвальні «Жыціе блажэнныя Еўфрасіньні...» стала ня толькі яго агіаграфічным творам, але гістарычнай крыніцай. Крыпт у царкве сьв. Спаса паслужыў для пацьверджаньня інфармацыі В.Тацішчава, што полацкі япіскап Нікіфар заняў мітрапалічую кафэдру. Знаходка М.Каргера царквы-пахавальні, якая называлася царквой сьв.Спаса, дала мажлівасьць зразумець дзейнасьць полацкага япіскапа Міны.

## Бібліяграфія


1.Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Скл. А.Ф. Каршунаў, Мн. 1959.

2. Жыціе Еўфрасінні Полацкай. Пераклаў А.Мельнікаў, «Спадчына», 1989, №1.

3. В.Н. Татищев. История российская. М., 1964, т. 3.

4. В.Н. Татищев. История российская. М., 1963, т. 2.

5. М.Х.Алешковский. Первая редакция «Повести верменных лет». Археографический ежегодник за 1967 г. М., 1969.

6. Б.А. Рыбаков, Древняя Русь, М. 1963.

7. М.К.Каргер, Храм-усыпальница ў Ефросинневском монастыре в Полоцке, Сов. археология, М.,1977, № 1.

8. П.А. Раппопорт. Русская архитектура X—XIII вв. Свод арх. источников, вып. Е1—47, Л. 1982.

9. А.А. Сяліцкі, Фрэскі храма-магільні Ефрасіннеўскага манастыра. Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. Мн., 1979, №4.

10. A. Poppe. Państwo i Kościół na Rusi w XI w. War. 1968

# НАША ГІСТОРЫЯ

# Кароткі нарыс па гісторыі дзяржавы і права ў Беларусі

Язэп Юхо

## *Грамадзкі лад*

Клясавая структура грамадзтва ў старажытнасьці да IX ст. характарызавалася наяўнасьцю трох асноўных груп: рабаўладальнікаў, свабодных гарадзкіх жыхароў, сялян-даньнікаў і рабоў (халопы, чэлядзь нявольная). Сяляне-даньнікі не знаходзіліся ў залежнасьці, але выконвалі пэўныя павіннасьці, уносілі фэўдальную рэнту непасрэдна на карысьць дзяржавы. З IX ст. пачынаецца разьвіцьцё фэўдальных грамадзкіх адносінаў.

Кляс фэўдалаў, які вырас з рабаўладальнікаў і разбагацелых гараджан, а таксама былых свабодных сялян, меў значныя зямельныя ўгодзьдзі, якія апрацоўваліся залежнымі ад іх людзьмі і рабамі (халопамі і чэлядзьдзю нявольнай). Аб значнасьці маёмаснага расслаеньня насельніцтва сьведчаць знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі грашовыя скарбы манэт VIII—X стст. Так, напрыклад, толькі ў адным скарбе, знойдзеным каля Полацку ў 1973 г., было выяўлена каля 8 тысяч арабскіх срэбраных манэт VIII—IX стст., сума па тых часах каласальная. Вядома, сабраць такую колькасьць грошаў можна было толькі шляхам эксплуатацыі сотняў, а можа быць і тысяч людзей. Само сабой зразумела, што ўласьнік, які схаваў гэты скарб, валодаў яшчэ й іншай, ня менш каштоўнай, маёмасьцю ў выглядзе зямельных угодзьдзяў, жывёлы, прылад вытворчасьці, а таксама меў рабоў і залежных ад сябе людзей. Аб значным багацьці лепшых «людзей», «мужоў», мясцовых князёў сьведчаць і пісьмовыя помнікі. Так, у Іпацьеўскім летапісе гаворыцца, што Ізяслаў Мсьціславіч, захапіўшы ў 1146 г. г. Пуціўль, узяў там 500 беркоўскаў мёду, 80 карчаг віна і 700 чэлядзі. У тымжа летапісе пад 1158 г. гаворыцца аб менскай княгіні, якая запісала Пячэрскаму манастыру 5 сёл з чэлядзьдзю й усю сваю маёмасьць. У царкоўным жыцьцёапісаньні Еўфрасіньні Полацкай расказваецца аб дарэньні ў карысьць царквы і манастыроў значных зямельных угодзьдзяў і даходаў, што паступілі з насельніцтва. Багацьці клясу фэўдалаў папаўняліся за кошт эксплуатацыі бяднейшых слаёў мясцовага насельніцтва, а таксама за кошт гандлю з замежнымі краінамі й у выніку адкрытых ваенных рабаўніцтваў суседніх народаў. Напрыклад, летапісец, расказваючы пра паход кіеўскага князя Уладзімера Манамаха на Менск, пісаў, што Менск быў поўнасьцю разрабаваны й у ім не засталося ні людзей, ні жывёлы. Вайна і разбойныя напады як сродак абагачэньня пануючага кляса ў эксплуататарскім грамадзтве адыгрывалі не апошняе месца. Эканамічная магутнасьць клясу фэўдалаў дазволіла ім заняць пануючае становішча ў апалітычным жыцьці грамадзтва, захапіць у свае рукі ўсе ключавыя пасады ў дзяржаўным апараце. У летапісным паведамленьні аб органах кіраваньня ў Полацкім княстве ў сярэдзіне XII

*Пачатак у №*

стст. гаворыцца, што кіраваньне ажыцьцяўлялі 30 мужоў, якія выконвалі ўсе адміністрацыйныя і судовыя функцыі.

Кляс фэўдальна залежных людзей утварыўся зь некалькіх крыніц: а) за кошт асаджваньня халопаў і іншых несвабодных людзей на зямлі, бо для фэўдалаў значна важней станавілася права распараджэньня павіннасьцямі сялян, чым іх асобаю;

б) за кошт гвалтоўнага пазаэканамічнага прымусу былых свабодных абшчыньнікаў уносіць пэўныя даніны і выконваць павіннасьці ў карысьць асобных фэўдалаў або дзяржавы ў цэлым;

в) за кошт маёмаснага расслаеньня свабодных сялян, якія, зьбяднеўшы, трапілі ў даўгавую кабалу.

У пачатковы пэрыяд разьвіцьця фэўдальных адносін працягвалі яшчэ захоўвацца на тэрыторыі Беларусі свабодныя сяляне-даньнікі, якія вялі сваю ўласную гаспадарку й абавязаны былі ўносіць у карысьць цэнтральных і мясцовых органаў кіраваньня пэўную даніну прадуктамі сваёй працы або грашыма, выконваць шэраг дзяржаўных павіннасьцей, такіх, як нясеньне вайсковай службы пры скліканьні апалчэньня, рамонт і будаўніцтва замкаў, мастоў, дарог. нясеньне ахоўнай службы.

Свабодныя сяляне-даньнікі захоўвалі сваю свабоду аж да ХУІІ ст. асабліва ў басэйнах рэк Дзьвіны, Дняпра, Сожа і Прыпяці. Напрыклад, у ХУІ ст. даньнікамі працягвалі заставацца сяляне валасьцей: Крычаўскай, Прапойскай, Чачэрскай, Горвальскай, Рэчыцкай, Брагінскай, Мазырскай, Бабруйскай, Сьвіслацкай, Любошанскай, Усьвяцкай, Азярышчанскай, Магілёўскай.

Халопы (рабы, чэлядзь нявольная) ў Беларусі адыгрывалі істотную ролю ў гаспадарках як асобных удзельнікаў князёў, так і ў вялікакняжацкіх і дзяжаўных маёнтках, і захоўваліся аж да ХУІІ ст. Халопства паступова замянялася прыгоннай залежнасьцю. Да IX— XII стст. адносіцца значны рост насельніцтва ў гарадах, дзе таксама ішоў працэс маёмаснага расслаеньня. Купцы і багатыя рамесьнікі, якія валодалі ўласнымі майстэрнямі, занялі пануючае становішча ў гарадах. Яны аказвалі значны ўплыў на ўсю палітыку дзяржавы. Багатыя гараджане валодалі і зямельнымі маёнткамі, работы ў якіх вяліся як залежнымі ад іх сялянамі, так і чэлядзьдзю нявольнай. Багатыя купцы і рамесьнікі займалі дастойнае месца пры вырашэньні пытаньняў, прапанаваных на амберкаваньне вечавых сходаў, дзе яны мелі значны ўплыў.



*Я.Салавянюк. З цыклю «Белавежская пушча»*



(Працяг у наступным нумары)

# Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў

Паўла Урбан

Магчыма, ад імя Вітаслава паходзіла імя вялікага князя Віценя. Аднак і для імя Віцень ёсьць тлумачэньне. Якраз адзін зь першых князёў абадрыдаў ці бодрычаў зваўся гэтым імем: Вітцан або Віцан. У найбольш старых заходняэўрапейскіх хроніках у лацінскай транскрыпцыі ягонае імя пісалася: Witzan, Witsan Witzin.

Першы раз князь абадрыдаў Віцан прыгадваўся пад 789 г., калі ён быў саюзьнікам франкскага караля Карла Вялікага й узяў тады ўдзел у паходзе франкскага войска супраць князя вільцаў Драгавіта. Загінуў Віцан у 795 г., таксама бяручы ўдзел у паходзе войска Карла Вялікага супраць саксаў [115] .

Дык няцяжка ўдакладніць, што той Віцан або Вітцан, колішні князь славянскага племя абадрыдаў-бодрычаў, называўся Віценем. Ён таксама меў двух сыноў на імя Драг, які зваўся яшчэ Дражкам, і Славамір. Цікава адзначыць, што ў дароўных граматах XIII стагодзьдзя яшчэ славянскіх князёў Мекленбургу, Памараніі і вострава Руген два разы згадваўся замак Віцень, ды яшчэ адзін раз пад назвай Вітэнборх[116] . Гэта мог быць сучасны гарадок Вітэнбург, які знаходзіцца недалёка ад Швэрыну, там, дзе яшчэ сёньня захаваліся гарадкі з назвамі Крывіч і Крэва (Criwitz, Greven).

Маючы на ўвазе кампанент **-ень**, імя князя Віценя можна параўнальна спалучыць зь імем вялікага князя Тройдзеня, які памёр або загінуў у 1282 г. А князь Тройдзень, бясспрэчна, меў чыста славянскае імя і сам быў славянскага, а не балцкага паходжаньня.

Для імя вялікага князя Гедыміна могуць быць гэткія германскія найменныя паралелі: Піпін (гэтым імем называліся бацька й адзін з сыноў Карла Вялікага), Адальвін, Альквін, Бальдвін, Валквін, Гунцэлін. Аднак для таго-ж імя Гедымін аднолькава можна адшукаць яшчэ славянскія найменныя паралелі. У XII—XIII стст. сярод славянскіх князёў Мекленбургу, якія маглі паходзіць ад люцічаў, і Памараніі называліся князі на імя Барвін, Барнім і Мяствін. Грынам называўся таксама адзін з князёў абадрыдаў XI ст. Дарэчы, няведамы бізантыйскі аўтар «Жыція Стэфана Суражскага» пісаў пра князя Браўліна з Ноўгараду, які, узначальваючы «рускую рацъ», дзесьці на пачатку IX ст. быў напаў на Крым, дзе заваяваў яго ад Херсанесу да Керчанскага паўвострава й абрадаваў там праваслаўныя цэрквы[117] .

Дык чаму й імя вялікага князя Гедыміна не магло быць славянскага паходжаньня?

Прускі храніст Пётра Дузбург, які быў сучасьнікам вялікіх князёў Віценя і Гедыміна, бацьку Віценя называў Пукуверам. Той князь Пукувер у адной з рукапісных копіяў Прускай хронікі ў Дузбурга зваўся яшчэ Лютуверам. Грунтуючыся на даступных яму крыніцах—нейкіх трактатах Антона Корсака (1488 г.) і Пётры, «япіскапа Камераценскага» (?)—ведамы гісторык Тэадор Нарбут таксама пісаў, што бацькам князя Віценя быў князь на імя *Лютавор*[118]. Дарэчы, аднекуль павінна была ўзяцца другая частка складовага імя гэткага магната: Івашка *Лютавор* Багданавіч Храптовіч. Гэты беларускі магнат ад 1482 г. займаў

пасады падскарбнага дворнага, намесьніка Слонімскага і Наваградзкага. Ён браў удзел у ведамай бітве 1500 г. над ракой Вядрошай і трапіў тады на шамт гадоў у маскоўскі палон.

Хто быў бацькам князёў-братоў Віценя, Войны і Гедыміна, пытаньне гэтае цяжка вырашыць. Бо, апрача прыгадванага цьверджаньня Пётры Дузбурга, адсутнічаюць верагодныя зьвесткі іншых аўтараў. Тым ня менш, ці зваўся ён Пукуверам, Лутуверам і Лютаворам або, як мяркуюць некаторыя гісторыкі, меў яшчэ імя Вудзівід і быў сынам вялікага князя Тройдзеня, — ягонае славянскае паходжаньне не павінна выклікаць ніякага сумніву. Мы ўжо прыгадвалі дыплямата часоў вялікага князя Гедыміна на імя Лесій. Гэткае імя —Лесій — меў таксама адзін з чатырох братоў вялікага князя Тройдзеня. Іншыя тры браты Тройдзеня зваліся: Борза, Сірпуцій і Сьвелькеній. Паводля аўтара Іпацьеўскага летапісу, гэтыя чатыры браты былі хрысьціянамі праваслаўнай веры. Трое зь іх загініулі ў войнах з Валынскім князем Васільком, а чацьвёрты гэтаксама памёр яшчэ пры жыцьці вялікага князя Тройдзеня.

Але вось чытаем дароўную грамату польскага караля Казіміра Вялікага, і там знаходзім пана на імя Лясота. Тая грамата Казіміра Вялікага датавалася 25 ліпеня 1361 г.,[119] а пан Лясота, які ў тым часе займаў пасаду Крэмянецкага ваяводы, называўся ў грамаце ў якасьці аднаго зь сьведкаў. Гэткім сьведкам быў яшчэ й ягоны брат пан Вярбота Ставішын.

У выніку войнаў Вялікага княства Літоўскага з Польшчай і Венгрыяй, якія пачаліся ў 1349 г. і закончыліся мірным пагадненьнем 1358 г., горад Крэмянец быў адыйшоў тады да Польшчы. Дык тыя паны Лясота і Вярбота належалі, напэўна, да ўкраінскіх баяраў.

Можна яшчэ спаслацца на прывілейную грамату Баляслава, князя Кракава і Сандаміру. Ягоная грамата, моцай якой давалася Магдэбургскае права для Кракава, была датаваная 5 чэрвеня 1257 г. Дык і ў той грамаце князя Баляслава ў якасьці аднаго зь сьведкаў быў названы Лясота — пробашч з Шкалмежу[120] .

Лесій і Лясота — адно і тое-ж імя, і яно, магчыма, адпавядала Алесю або Алексу. Імя Алекса сустракалася сярод баяраў Вялікага Ноўгараду.

Былі-ж яшчэ славянскія імёны накшталт: Базата, Вайдота, Вышата, Гюрата, Зьбялюта, Зядлюта, Няжата, Прандота, Пуцяга, Радзята, Ярота.

Адпаведным для імя Тройдзеневага брата Сьвелькеній можа быць імя Зьвінікe. Зьвінікем называўся сын князя абадрыдаў Сьвятаполка. Князь Сьвятаполк быў забіты здрадным чынам у 1128 г., а князь Зьвінікe таксама загініў у 1129 г. [121]

Ёсьць таксама аднайменны адпаведнік для імя Борза, якім зваўся яшчэ іншы брат вялікага князя Тройдзеня. У Чэхіі былі князі на імя Баржывой. Князь Баржывой І, які памёр каля 894 г., якраз быў ахрышчаны ў 873 г, славянскім асьветнікам архіяпіскапам Мяфодзіям.[122] У чэхаў былі яшчэ князі на імя Брачыслаў, але аднолькава быў Полацкі князь Брачыслаў— бацька князя Ўсяслава Чарадзея.

Для гэткіх імёнаў нашых князёў, як Вігунт, Жігімонт, Карыбут, Карыят, Кейстут, Яўнут можна знайсьці цэлы шэраг германскіх найменных паралеляў. Аднак назавём найбольш характэрныя: Вігунд, Дамарат, Друдмунт, Лютмунд, Сігімунд або Сігізмунд. Аднолькава для імёнаў Ягайла, Сьвідрыгайла і Скіргайла ёсьць тыя-ж германскія найменныя паралелі: Анула, Тасіла, Тацілa,

Вязіла, Віціла, Равіла, Турдзімула, Хадала.

Для названых тут імёнаў князёў ВКЛ аднолькава можна адшукаць славянскія найменныя паралелі. Напрыклад, сярод князёў абадрыдаў XI —XII стст. былі князі на імя Крут, Кнут і Ніколт. Пад 990 г. згадваўся князь стадаранаў на імя Балілют. У чэхаў быў князь Баржут, імя якога, як выглядае, высноўвалася ад поўнага імя Баржывой (параўнайце зь імем Борза). Сустракаліся яшчэ славянскія імёны: Барут, Блуд, Дабрыт, Палюд, Славут-Славуціч, Бядыгаст, Дабрагаст, Радагаст.

Што-ж тычылася імёнаў з кампанентам -л або-ла (у лацінскай транскрыпцыі пісаліся: Ягал-Ягел, Сьвідрыгал, Скіргал), дык гэтакіх імёнаў была безьліч: Багуміл, Багуфал, Гнязьдзіла, Гудзіла, Завіла, Куціла, Няжыла, Нязьдзіла, Пятрыла, Судзіла, Твардзіла. А там былі яшчэ Вайдзіла, Вайшыла, Сурвіла і гэтак далей.

У беларускіх летапісах XУІ ст. князь на імя Гольша называўся як заснавальнік Гальшанаў і роду ведамых Гальшанскіх князёў. Але, вось, пішучы пра гусіцкі рух у Чэхіі, польскі гісторык Ян Другаш прыгадаў пад 1420 г. чэшскага магната Гальша з Штэрнбэргу, які быў сынам Ольдржыха Ўладыслава і паходзіў з старога чэшскага княжага роду. У якасьці аднаго зь сьведкаў саноўнік на імя Голяш быў названы ў прывілейнай грамаце 1223 г. караля Чэхіі і Маравіі Пржэмысла Атакара І [123]. Вынікае, што і той князь Гольша, заснавальнік роду Гальшанскіх князёў, меў славянскае імя.

У Лаўрэнцьеўскім і Радзівілаўскім летапісах пад 1147 г. згадваўся кіеўскі ўплывовы баярын на імя Радзіла. Якраз Радзіл Осьцікавіч быў названы сярод прысутных сьведкаў у адной з дароўных граматаў вялікага князя Казіміра Ягайлавіча. Дар прызначаўся для аднаго з касьцёлаў Вільні, а грамата была датаваная 16 красавіком 1444 г. [124]

Гэты Радзіл Осьцікавіч быў заснавальнікам ведамага магнацкага роду Радзівілаў. У актах Гарадзельскай вуніі 1413 г., а таксама ў паручальнай грамаце 1401 г., выдадзенай для караля Польшчы Ўладыслава—Ягайлы, у якой князі, паны і баяры ВКЛ паручаліся за вялікага князя Вітаўта, згадваліся яшчэ паны на імя Радзьвіл і Радзьвіл, сын Вайшвіла. Сынамі гэтага Радзьвіла былі, напэўна, Юры і Станіслаў, якія ад 1439 г. зваліся ў дароўных граматах Радзьвілавічамі.

Цікава зьвярнуць увагу на дароўную грамату Кацярыны Мантушаўны, датаваную 15 лютым 1483 г. Дар запісваўся для манастыра францысканцаў у Вільні, і ў якасьці сьведкаў у грамаце згадваліся два браты Глеб і Радзьвіл, родным братам якіх называўся яшчэ Міцька—муж тае пані Кацярыны Мантушаўны. [125]

Радзівіл Осьцікавіч пазьней сваё імя пісаў: Радзівіл. Бацька гэтага Радзівіла Осьцік яшчэ ў 1401 г. згадваўся на пасадзе каштэляна Ашмянскага, пазьней дзесьці ад 1421 і да 1440 г. быў Віленскім каштэлянам. Дарэчы, быў князь на імя Асьцей або Осьцік — унук вялікага князя Альгерда, які чамусьці трапіў у Маскву і загінуў там у 1382 г., узначаліўшы абарону Масквы ад нападу на яе войска хана Залатой Арды Тахтамыша.

Роднаснымі для імя Радзівіл маглі быць імёны, напрыклад, Будзьвіл, Вайшвіл або Таўцьвіл. Таўцьвілам называўся адзін з братоў вялікага князя Вітаўта, а таксама колішні Полацкі князь Таўцьвіл, замардаваны ў 1263 г. Аднолькава імя Радзівіл (Радзіл) магло мець роднасную сувязь зь імёнамі Радзім, Радзівон і Радаслаў. Бо-ж і імя Будзьвіл магло паходзіць ад імя

Буйвід або Будзівой.

Перад тым, як спыніцца на іншых імёнаў, характэрных для ліцьвіноў, варта назваць шэраг стараславянскіх імёнаў, але пакідаючы збоку добра ведамыя і больш пашыраныя: Баляслаў, Баржывой, Барыслаў, Брачыслаў, Валадар, Дабраслаў, Ізяслаў, Казімір, Любамір, Мсьціслаў, Пшэмыслаў Рагвалод, Расьціслаў, Сабяслаў, Славамір, Сьвятаполк, Сьвятаслаў, Уладзімір, Уладыслаў, Усевалад, Усяслаў, Ярамір, Яраслаў.

Апрача згадваных ужо, у абадрыдаў-бодрычаў былі князі, якія зваліся Анадраг, Будзівой, Гастамысл, Дабрамысл, Жалібор, Мсьцідраг, Мсьцівой, Прыбіслаў, Рацібор, Ратша, Рохель, Чадра.

У тых славянскіх плямёнаў, якія перасяліліся на Балканскі паўвостраў, а таксама ў мараваў і чэхаў, у палякаў і памаранаў, сілезцаў, стадаранаў і люцічаў зноў-жа былі гэткія ўласныя імёны: Ардагаст, Багуслаў, Балілют, Барут, Барывой, Бластымір, Бодзін, Бузабут, Бурвід, Бутуй , Бядыгаст, Бястрым, Вайнамір, Валук, Ванімір, Вацлаў, Вацэлін , Віціслаў (Віцень?, Вітаслаў?), Воймір, Война, Веліслаў, Вукашын, Вышаслаў, Гадалюб, Гарывой, Гасьцівіт, Гаціслаў, Гедамір, Гнеў, Гойнік, Горазд, Госьцік, Дабамысл, Дабрагаст, Дабрагез, Дамагой, Дамаслаў, Даўрыд, Дзяржыкрай, Дзяржыслаў, Дзярван, Драгамір, Дражка, Думар, Душан, Званамір, Земавіт, Зьвяслаў, Зьдзіслаў, Зяміслаў, Лех, Лешка, Людавіт, Людамысл, Людзіслаў, Лютабор, Лютавід, Лютавой, Лютамір, Лютастрах, Лютагнеў, Моймір, Мешка, Мілагаст, Міласлаў, Міргнеў, Мішуй, Мойслаў, Мутымір, Нажыслаў, Недамір, Незымысл, Нінагнеў, Няклан, Нямір, Прадвой, Парагаст, Паржай, Прасігой, Прыбігнеў, Прыбіна, Прыбіслаў, Ракела, Рацібор, Рацімір, Раўлін, Росьціц, Сабебор, Самбор, Сьвятабор, Сьцібор, Сьпіцімір, Спіцігнеў, Стойгнеў, Страймір, Сялібор, Таліслаў, Таміслаў, Таціслаў, Твардаслаў, Тройдзень, Тугамір, Туцімір, Уладзівой, Усегард (Всегард), Хацібор, Хацімір, Хваламір, Цярпімір.

Мяркуем, што не для ўсіх гэтых славянскіх уласных імёнаў можна знайсьці тлумачэньне або акрэсьліць дакладна, што маглі азначаць іхныя паасобныя складовыя кампаненты..

Цяпер вернемся да імёнаў тых ліцьвіноў, якія, напрыклад, у ХУ ст.побач з прадстаўнікамі магнацкіх родаў Гаштоўтаў (Гаштольдаў), Кязгайлаў і Радзівілаў стаялі пры ўладзе, займалі пасады ваяводаў, дзяржаўцаў, каштэлянаў і намесьнікаў, уваходзілі таксама ў склад Дзяржаўнай рады Вялікага княства Літоўскага. Мы ўжо гаварылі, што ў родзе Кязгайлаў былі іхныя суродзічы на імя Шадзіборк і Дабяслаў. У прыгадваным ужо намі акце 1401 г. пана Гаштоўта называе Талівушам, а сам Гаштоўт у тым часе займеў пасаду каштэляна ў Крэве. Але-ж імя Талівуш, які як Завіш(а) сустракалася таксама ў палякаў. Дарэчы, адпаведнікамі для імя Гаштоўт маглі быць імёны згадваных князёў абадрыдаў Гастамысла і Готшалка або імя чэшскага князя Гасьцівіта (зноў параўнайце: Готшалк— Войшалк, Вітаслаў —Вітаўт).

Мы гаварылі і пра Альбэрта Монвіда й ягонага брата Юрку Гедыгольда, якія за часоў вялікага князя Вітаўта займалі высокія пасады. Для імя Монвід ёсьць пэўныя славянскія адпаведнікі: Будзівід або Буйвід. У дароўнай грамаце Памаранскага князя Казіміра, датаванаай 1174 г., сярод сьведкаў, дзе згадваўся таксама Дабяслаў, былі яшчэ Запаха і ягоны брат Гольдан [126]. Дык, магчыма, адсюль, ад імя таго Гольдана

пайшло таксама імя Гедыгольд.

(Працяг у наступным нумары).

## Бібліяграфія

115 Annales Regni Francorum, pp. 56-59, 64-65, Annales Laureshamenses &Enhardi Fuldensis annales. In: MGH, Scriptorum, T.1. Hannoverae, 1826, pp. 34, 350-351.

116 Urkunden und erzahlende Quellen zur deutschen Ostsiedlung im Mittelalter ,Bd. XXVIa, Nr, 73, 88, 107, s 294-297, 332-335, 400-405.

117 Откуда есть пошла Русская земля. Кн. II, М., 1986, с. 549-550.

118 Dzieje starozytne narodu Litewskego. Przez Teodora Narbutta, t.1. Wilno, 1835, S. 156-159, 386-391.

119 Грамоти XIУ ст. Упорядкування и коментарі М.М. Пещак, Київ, 1974, № 17, с.35 36.

120 Urkunden und erzahlende Quellen zur deutschen Ostsiedlung im Mittelalter ,Bd XXVIb, Nr, 77, pp 291-297.

121 Helmoldi presbyteri Bozoviensis Chronica Slavorum. In; Quellen (des Mittelalters), Bd. XIX, Darmstadt, 1963, pp. 184-187.

122 Богуслав Хроповский. Славяне. Историческое, политическое, культурное развитие и значение. Прага, 1988, с. 230-232.

123 Urkunden und erzahlende Quellen zur deutschen Ostsiedlung im Mittelalter ,Bd. XXVIb, Nr 103, pp. 390_393.

124 Codex Ecclesiae Vilnensis, Nr. 179, pp. 204_206.

125. Там-жа, № 339, с. 392—393.

126.Urkunden und erzahlende Quellen zur deutschen Ostsiedlung im Mittelalter ,Bd. XXVIa, Nr 71, s. 284-291.



*Я.Салавянюк. 3 цыклю «Белавежская пушча».*

# Выгнаньнік сваёй Радзімы.

*Урывак з гістарычнага нарыса «Язэп Лёсік: супярэчнасьці асобы»*

Анатоль Мясьнікоў



«Калі я праходжу па вуліцах Менску і чую беларускую мову, то слухаю яе, як музыку». Так сказаў аднаго разу Язэп Лёсік свайму брату Антону. Сказаў проста і шчыра — ад усяго сэрца. І, несумненна, так яно і было.

Выступаючы ў студзені 1949 году на юбілейнай сэсіі Акадэміі Навук з нагоды яе дваццацігодзьдзя, Якуб Колас, ацэньваючы той пэрыяд казаў: —На шляху новастворанай Акадэміі было шмат перашкод..

Беларускія нацыяналісты марна прабавалі адарваць спачатку дзейнасьць Інбелкульта. А пасьля і Акадэміі Навук ад надзённых задач сацыялістычнага будаўніцтва.

Тармазілася вывучэньне вытворчых сіл, прыродных багацьцяў Беларусі, вывучэньне пытаньняў разьвіцьця народнай гаспадаркі і культуры савецкай эпохі...

Прыпынім цытаваньне. Клясыкаў таксама неабходна іншы раз удакладняць. Асабліва калі яны, грэшныя, блытаюцца, сцьвярджаюць, мякка кажучы, штосьці ня тое...

Яго радавала і натхняла шырокая плынь нашай нацыянальнай культуры, мовы, літаратуры й асьветы, што сапраўднай хваляй усё больш і больш накатывалася на родную старонку.

Наданьне яму ў канцы 1928 г. годнасьці акадэміка Беларускай Акадэміі навук ён успрыняў з радасьцю і задавальненьнем, хоць разумеў: гэта і вялікі аванс на будучыню. Лёсік ведаў, што тут найперш спрацавала рэкамэндацыя Ўсевалада Ігнатоўскага. Шчыра парадаваўся і ён за Ўсевалада Макаравіча, калі той практычна аднагалосна быў абраны першым прэзыдэнтам Беларускай Акадэміі Навук.

Аднак, будучы перадавымі людзьмі часу, і Лёсік, і Ігнатоўскі, і многія іншыя іх сябры адчувалі: пачынаецца наступленьне цёмных тэрарыстычных сілаў на ўсё беларускае—навуку, культуру, асьвету...

Так, у 1927—1928 гг. , а яшчэ ў большай меры пазьней, у пачатку трыццатых, пайшла па белым сьвеце шырокая пагалоска аб беларускіх нацыяналістах». На хвалі міфічных, гэтак званых рэвалюцыйнага парыву, удзыму й энтузіязму, нацыяналістычнымі аб’яўляліся ўсе, нават самыя ня-

значныя спробы вылучыць з мноства асаблівасьцей у культуры, мове, асьвеце і плыняў у літаратуры нашыя, выключна беларускія характэрныя рысы й адрозьненьні: традыцыі і звычаі, схільнасьці і памкненьні народу. Тое-ж, што ўсё гэтае нашае, нацыянальнае, мала хто хацеў слухаць: да ўсяго клеіўся ярлык нацыяналізму.

Вывучэньне-ж пытаньняў разьвіцьця культуры савецкай эпохі, як гэта сцьвярджаў Якуб Колас, ніхто не тармазіў. Гэта клясыку таксама мроілася. Пакуль уладу ў рэспубліцы ўзначальвалі Аляксандр Чарвякоў, Язэп Адамовіч, усё ішло як мае быць. Але вось здалёк, з Масквы і Ленінграду, даносяцца першыя зьвесткі пра «ворагаў народу».

Сталін усяляк ганьбіць рэвалюцыянізм Троцкага. На першым этапе яго падтрымліваюць Каменеў і Зіноўеў. Усплывае надуманая «шахцёрская справа» «інжынеры і тэхнікі Данбаса, аказваецца, аб'ядналіся ў «контррэвалюцыйную арганізацыю». Далей —болей: выяўляецца «шкодніцкая дзейнасьць Прампартыі, працоўнай сялянскай партыі, Саюзнага бюро меншавікоў...і г.д. Адтуль-жа з Масквы, паступае катэгарычная й адназначная каманда: выяўляць і самым строгім чынам караць «саўдзельнікаў контррэвалюцыі і нацдэмаўшчыны», спачуваючых ім. Газэты, у тым ліку «Звязда», «Савецкая Беларусь», «Беларуская вёска» (папярэдніца «Сельскай газэты»), з нумара ў нумар кляймяць «шкодніцкае» ганьбай, заклікаюць шырокія масы працоўных да рашучай барацьбы зь імі.

—Партыя бальшавікоў,—з гонарам працягваў далей Якуб Колас, на юбілейнай сэсіі АН БССР,—выкрыла і разграміла нацыяналістычную контррэвалюцыю. У Акадэміі Навук было адноўлена (дакладчык, выдаць хацеў сказаць «абноўлена» —А.М.) кіраўніцтва, было праведзены давыбары новых правадзейных членаў і членаўкарэспандэнтаў, а таксама папоўнены склад навуковых супрацоўнікаў.

На пачатку 1931 г. была зьменена структура і ўмацавана арганізацыя кіраўніцтва Акадэміі.

Пад «адноўленым кіраўніцтвам» Колас меў на ўвазе зьняцьцё з пасады прэзыдэнта Акадэміі Навук і выключэньне з радоў партыі бальшавікоў Усевалада Ігнатоўскага , а сярод фактаў выкрыцьця «нацыяналістычнай контррэвалюцыі» арышт і ссылку многіх сумленных дзеячоў культуры, навукі, літаратуры, у тым ліку й ягонага роднага дзядзькі Язэпа Лёсіка.

Пакутнікамі сваёй Бацькаўшчыны, заложнікамі палітычных інтрыгаў станавіліся самыя высакародныя людзі, маральна чыстыя і праведныя перад сваім народам. І няўжо гэтага Колас не разумеў?!

Ганеньні на Лёсіка пачаліся раней, чым на іншых дзеяечоў. Яшчэ ў 1921 г. адразу-ж пасьля выхаду ў сьвет ягонай «Практычнай граматыкі беларускай мовы» «Звязда» назвала падручнік... котррэвалюцыйным. Вось адкуль зыходзіў пачатак наступных прасьледаваньняў і пакут беларускага вучонага-мовазнаўцы...

Але-ж што магло быць «контррэвалюцыйным» у тым вучэбным дапаможніку?

Для кіруючай бальшавіцкай манаполіі «контррэвалюцыйным» стаў сам факт выхаду для шырокіх народных мас першай у гісторыі Беларусі «Практычнай граматыкі»... нашай роднай мовы. Слава Богу, тады гэтае абвінавачваньне засталося без рэакцыі.

Язэп Лёсік у палітыку практычна ня лез. Сумленнаму і шчыраму чалавеку гэта ўвогуле даецца няпроста. Аднак беларускаму народу й ягонай нацыянальнай справе вучоны аддана служыў верай і праўдай.

Тым ня менш, ДПУ пачало турбаваць Лёсіка ў сярэдзіне 20-х гадоў. Людзі з чырвонымі пасьведчаньнямі зьяўляліся то на працы, то дома... Спачатку цікавіліся працай і жыцьцём наогул. Потым—спакваля— пачалі глыбей ўнікаць у лёс і біяграфію. А там «падставаў» для прычэпак і «сумненьняў» для дэпэушнікаў было больш чым дастаткова.

І вось першы арышт, хоць і чыста ўмоўны. Аб ім даведваецца брат Антон і шле ў Народны камісарыят асьветы тэлеграмы пратэсту. Ходзіць у інстанцыі і спрабуе даказаць усім, што з мінулым даўно пакончана жонка Лёсіка—Ванда Лявіцкая. Адны высокапастаўленыя чыноўнікі адказваюць, што «нічым дапамагчы ня могуць», іншыя разводзяць рукамі: значыцца, ня так проста арыштавалі, мабыць быць ёсьць за што. Рашучы й адназначны голас нязгоды падае Ўсевалад Ігнатоўскі:

—Калі ня вызваліце Лёсіка, дык саджайце тады і мяне,—гучна заяўляе ён кіраўнікам ДПУ. З Усеваладам Ігнатоўскім тады яшчэ лічыліся, а мабыць, і пабойваліся яго. І Язэпа адпусьцілі на волю....

— І што я рабіў-бы бяз гэтага разумнага і памяркоўнага чалавека, проста ня ведаю! — не адзін раз казаў Язэп жонцы. — Ён і на рабоце гарыць, і душу кожнага з нас адчувае ня горш, чым сваю...

Ванда Антонаўна была чалавекам адукаваным і дасьведчаным. Яна сама спрабавала сілы ў літаратурнай творчасьці, пісала неблагія апавяданьні, друкавалася яшчэ ў «Нашай ніве»... Характары людзей, іх шчырыя памкненьні жонка Лёсіка разумела вельмі добра. Посьпехам у справе адраджэньня беларускай нацыянальнай культуры, навукі й асьветы, дасягнутымі й Язэпам Лёсікам, і Усеваладам Ігнатоўскім, яна радавалася аднолькава.

Асабістая-ж дружба двух акадэмікаў, двух лепшых сыноў беларускага краю, іх паважлівыя адносіны адзін да аднаго паглыбляліся і пашыраліся з дня ў дзень. І Ігнатоўскі, і Лёсік надзвычай высока цанілі справу сябра.

У 1926 г. на пасадзе народнага камісара асьветы БССР Усевалада Ігнатоўскага зьмяніў Антон Баліцкі. Доўгі час, зьяўляючыся намесьнікам Усевалада Макаравіча, ён і надалей—праўда, усяго толькі тры гады—будзе прадаўжаць і ўдасканальваць справу свайго папярэдніка, рабіць усё, каб беларуская асьвета крочыла наперад, заваёўвала новыя далягляды й абшары. Лёс наркома Баліцкага складаецца, дарэчы, гэтак-жа як і лёсы многіх ягоных сяброў, і паплечнікаў: яго арыштуюць ужо ў першы «заход» масавага тэрору ў 1930-м. Праз пяць гадоў ён памрэ, ня вытрымаўшы нечалавечых выпрабаваньняў і катаваньняў у лягеры палітычных зьняволеных непадалёк ад станцыі Мядзьвежая Гара Мурманскай чыгункі, дзе рзам зь іншымі вязьнямі ГУЛАГа рыдлёўкай капаў Беламора-Балтыйскі канал імя Сталіна. Але гэта будзе потым. А тады Антон Баліцкі горача бярэцца за справу. У лістападзе 1926 г. сумесна з інстытутам беларускай культуры Народны камісарыят асьветы арганізоўвае Акадэмічную канфэрэнцыю па рэформе беларускага правапісу й азбукі. Гэтае мерапрыемства мела вялікае палітычнае значэньне, яно сьведчыла аб імкненьні беларускіх вучоных, і найперш мовазнаўцаў, заявіць аб сабе ў поўны голас, паказаць, што ў аснове роднай мовы ляжаць багатыя і слаўныя традыцыі, гістарычны прынцып фарміраваньня яе як роўнай сярод роўны ў сям'і славянскіх моваў.

Уласна кажучы, у аснове большасьці матэрыялаў і дакумэнтаў канфэрэнцыі ля-

жалі працы і распрацоўкі Язэпа Лёсіка. Ужо мелі вялікую прыхільнасьць і папулярнасьць ня толькі ў вучоным сьвеце, але і ў народзе ягоныя падручнікі і вучэбныя дапаможнікі «Беларускі правапіс», «Школьная граматыка беларускае мовы», «Сынтакс беларускае мовы», «Практычная граматыка беларускае мовы» й іншыя дасьледаваньні, у якіх вучоны найперш распрацаваў правілы беларускага правапісу. У аснову правапісу Язэп Лёсік клаў фанэтычны прынцып напісаньня слоў, асабліва—іншамоўных па паходжаньню. Граматычныя й арфаграфічныя зьмяньні ў наш правапіс, якія Лёсік пачаў уносіць у 1925 г. таксама знайшлі падтрымку вучоных-мовазнаўцаў.

Кампрамісную пазыцыю адносна Лёсікавых зьмяненьняў беларускага правапісу займаў нават такі бачны спэцыяліст мовы, як Сьцяпан Некрашэвіч. Пагадзіўшыся літаральна з усімі новаўвядзеньнямі Язэпа Лёсіка, ён настаяў толькі на двух зьмяненьнях у правапісе: прыназоўнік «бяз» і адмоўная часьціца «ня», што выкарыстоўваліся тады, набылі выгляд «без» і «не» якімі, як вядома, і карыстаюцца ў Беларусі да сёньняшняга дня.

Аднак сваімі вынікамі і ходам правядзеньня Акадэмічная канфэрэнцыя задаволіла далёка ня ўсіх. У прыватнасьці, вялікае незадавальненьне выклікала яна ў кіруючы колах рэспублікі. Па-першае, без узгадненьна ў «вярхах» зрабіў даклад аб стане асьветы ў Беларусі народны камісар Антон Баліцкі, а паколькі на канфэрэнцыі прысутнічалі прадстаўнікі замежных краін —Нямеччыны, Польшчы, Летувы, Латвіі—гэта, маўляў, нікуды ня варта... Па- другое, залю ўпрыгожылі выключна беларускай сымболікай. Ды і 3000 рублёў, патрачаных на прыём гасьцей і дэлегатаў канфэрэнцыі, мулілі некаторым вочы.

Але не гэта, несуменьна, галоўнае. З пазыцыяў сёньяшняга дня відавочна іншае: вынікі і ход Акадэмічнай канфэрэнцыі беларусаў не спадабаліся Маскве. Партыйныя лідэры Беларусі другой палавіны дваццатых гадоў—і найперш прысланыя з «цэнтру» першыя сакратары ЦК КП(б)Б—спачатку Ян Гамарнік, потым Канстанцін Гей—накіроўвалі ў Маскву трывожныя сыгналы аб «адраджэньні беларускага нацыяналізму», спробах беларусізацыі нацыянальнай культуры, навукі, асьветы... Так спакваля і назапашваліся факты, прыклады й аргумэнты для наклейваньня ярлыкоў «нацдэмаў» і «ворагаў народу», якое пачнецца ў масавым маштабе літаральна праз некалькі гадоў.

У ліпені 1930 г. акадэмік Лёсік паехаў на курорт ў Мацэсту, каб хоць крыху паправіць сваё кволае здароўе: ссылка ў 1911-м у Сібір не-не ды і давала аб сабе напамінкі. Аднак прайсьці поўнасьцю крус лячэньня яму не ўдалося. Аднойчы адвячоркам у ягоны нумар пастукаліся незнаёмыя людзі. Прад'явіўшы пасьведчаньні супрацоўнікаў ДПУ, яны прапанавалі яму сабраць рэчы і пайсьці разам зь імі...

З Каўказа ў Менск яны адбылі разам—арыштанты й арыштаваны. Прыбыўшы ў сталіцу Беларусі, першыя зь іх здалі Лёсіка турэмным уладам ДПУ. А ў доме акадэміка на Шпітальнай вуліцы пачаліся рупныя вобыскі.

Алеся Лёсік, дачка, ўспаміннала:

—За сьведку дэпэушнікі ўзялі дзядзьку Антона — ён жыў з намі ў адным доме. Гэта быў страшэнны малюнак. Ператрэсьлі літаральна ўсё. Асабліва пільна агенты ДПУ ўглядаліся ў татавыя рукапісы, газэты, часопісы —і найперш дарэвалюцыйных часоў выданьні. Большасьць з усяго гэтага бясьследна зьнікла.

Спачатку сям'ю перасялілі з чатырох пакояў у адзін, а потым наогул прапанавалі перабрацца ў якое-небудзь іншае месца. Маці знайшла кватэру на Даўгабродзкай — каля Залатой горкі. Новыя гаспадары, а неўзабаве і суседзі ўжо ставіліся да Лёсікаў насьцярожана: маўляў, ворагі народу.

Ванду Лявіцкую нікуды не бралі на працу. А сям'і-ж з пяці чалавек яна сама, яе маці — жонка Ядвігіна Ш. і трое малалетніх дзяцей—трэба было жыць... Уладкоўвалася часова, у тым ліку і на адну з выставаў ў Менску, дзе мыла посуд, прыбірала памяшканьні. Так працягвалася два гады.

Неўзабаве пачалі праводзіць пашпартарызацыю насельніцтва гарадоў. Кожнаму дарослаvalue выпісвалі пашпарт — асноўны дакумэнт чалавека. Вандзе Лявіцкай яго не далі і сказалі, што сям'я Лёсіка наогул павінна пакінуць Менск.

А сам Язэп Лёсік тым часам быў ужо далёка ад роднай старонкі. Паўгода чакаў ён ў менскай турме ДПУ «прысуду». Сьледчыя падрабязна вывучалі «дакумэнты». Судовы працэс над Лёсікам, іншымі дзеячамі плянаваўся на люты 1931 г. Аднак так і не сабраўшы дастатковую колькасьць матэрыялу для вынясеньня свайго агіднага вердыкту, іх вырашылі выслаць у парадку адміністрацыйнага пакараньня ў Паволжа. Язэп атрымаў 5 гадоў ссылкі ў Саратаўскую губэрню. За ім паехала жонка зь дзяцьмі.

Першапачатковы прытулак Лёсікі знайшлі ў паволжскім горадзе Камышын. Працаваць бацьку тут аднак не далі і сям'я перабралася ў суседні Нікалаеўск, дзе беларускаму акадэміку прапанавалі выкладаць расейскую мову і літаратуру ў мясцовым пэдагагічным тэхнікуме.

Тэрмін ссылкі заканчваўся ў 1936-м г. Трэба было думаць пра будучае жыцьцё. І Язэп ад саратаўскіх турэмных улад двойчы артымлівае дазвол зьезьдзіць ў Менск, каб пахадатайнічаць аб вяртаньні на Радзіму. Аднак першы раз яго ніхто не захацеў хоць-бы паслухаць. У другі прыезд Лёсік меў ужо на руках паперу за подпісам Калініна, у якой гаварылася, што ён і яго-ная сям'я могуць пераязджаць у любое месца. Аднак, дасканала вывучыўшы дакумент, у беларускай сталіцы Язэпу Лёсіку сказалі: ні ў Менску, ні ў іншых кутках Беларусі месца яму няма.

Толькі на невялічкай станцыі Злынка, непадалёку Навазыбкава, Лёсіка пагадзіліся прыняць выкладчыкам расейскай мовы ў мясцовую школу. Тут закончылі вучобу дзеці. Праца ў школе не задавальняла. Неўзабаве сям'я зноўку сабралася ў дарогу: у г. Аткарск Саратаўскай вобласьці, дзе былому акадэміку прапанавалі месца выкладчыка ў пэдагагічным тэхнікуме. Там і знайшлі яго ў чарговы раз арыштанты НКУС...

Алеся Язэпаўна ўспамінае:

—Быў даждлівы вечар, сумны, нудны. «Можа прыйсьці злодзей ці не праўда? — пажартавала я.

— І хто-небудзь яшчэ, — дадаў тата.

Ён ведаў, што зноў пачаліся арышты, у прыватнасьці, забралі дырэктара пэдтэхнікума.

Энкэвэдэшнікі зьявіліся нечакана й адразу-ж узяліся за справу. Вобыск быў павальны, перабралі літаральна кожную рэч, кожную татаву паперчыну. Зноў забралі шмат чаго, у тым ліку і рукапіс падручніка ў расейскай мове для вучылішчаў «Русский язык .Синтаксис» над якім тата працаваў апошнім часам. Прыхапілі нават бабулін малітоўнік, ён быў на польскай мове, і хоць маці настойліва даказвала, што гэта ніякая не палітычная кніга, на арыштантаў не дзейнічала нічога.

Два з палавінай гады прасядзеў на гэты раз тата ў турме. У 1940 г. праз добрых людзей ён перадаў нам паштоўку. «Жывіце без мяне... Ваш тата», — было напісана ў ёй. Як потым паведамілі нам улады, ён памёр ад тубэркулёзу ў саратаўскай турме ў №2».

9 ліпеня 1959 г. сям'я Язэп Лёсіка атрымала ягоную двухмесячную зарплату —1920 руб. «З выпадку рэабілітацыі вашага мужа» — сьведчыў запіс у самім пераводзе, што прыйшоў праз пошту невядома адкуль.

Ванда Антонаўна Лявіцкая паставіла перад сабой цяжкую мэту: дабіцца афіцыйнай рэабілітацыі мужа. Моцна прыгнятала яе жаданьне паехаць ў Менск, ва ўсім , нарэшце, разабрацца... І ўсё-ж яна прыбыла ў беларускую сталіцу амаль праз два з паловай дзесяцігодзьдзяў—горад, зь якім так многа было зьвязана ў жыцьці. Найперш яна пасьпяшалася ў Пракуратуру БССР. Ёй сказалі, што адказ дадуць пісьмова.

У тым-жа 1959 г. яна атрымала ліст: *«Ваша жалоба на неправильное осуждение в 1931 году Вашего мужа Лёсика Иосифа Юрьевича Прокуратурой БССР рассмотрена. Указанная жалоба оставлена без удовлетворения, так как проверкой в порядке прокурорского надзора дела по обвинению Вашего мужа установлено, что осужден он был правильно и оснований для реабилитации нет.*

*Заместитель прокурора БССР государственный советник юстиции В. Гончаров. 26 августа 1959 г.»*

Рэабілітацыі мужа Ванда Антонаўна не дачакалася: яна памерла роўна праз дзесяць гадоў — у 1969 г. Міне яшчэ амаль што два дзесяцігодзьдзі, і Язэп Лёсік, урэшце, будзе рэабілітаваны. Гэта здарыцца 10 чэрвеня 1988 г. А ў травені 1990 пастановай Савета міністраў БССР Я.Ю.Лёсік будзе адноўлены ў званьні акадэміка Акадэміі Навук Беларускай ССР.

«Жывіце без мяне...» З крыўдай і болем у сэрцы і на душы пісаў Язэп Лёсік гэтыя апошнія ў жыцьці словы. Усяго толькі тры словы, а які вялікі сэнс тоіцца ў іх. Ён зьвяртаецца ня толькі да сям'і , а і да ўсіх нас, беларусаў. Заклікае да галоўнага — жыць! На вялікі жаль — безь яго самога.

У сярэдзіне трыццатых, калі Язэп Лёсік пакутваў ужо ў ссылках і турме, Беларусь займала вядучае месца ў краіне ў галіне асьветы, навукі, культуры. У ёй выходзіла 175 рэспубліканскіх, абласных і раённых газэтаў — пераважна ў беларускай мове. Беларусь мела 1600 навуковых работнікаў, зь іх 150 прафэсароў. На дзесяць тысяч чалавек насельніцтва 30 вучылася ў ВНУ. (Для параўнаньня: у перадавых на той час заходніх краінах гэтая лічба не перавышала 17 чалавек).

Тое, што ўсяму гэтаму самым непасрэдным чынам спрыялі Лёсікавы падручнікі і вучэбныя дапаможнікі, ніхто, на вялікі жаль, не задумваўся.

А ён, сапраўдны Вялікі Асьветнік, пакутваў тым часам за Дабро.

# Уласнаручныя паказаньні Езавітава, Канстантына Барысавіча

Каля 20-га сакавіка 1945 г. я накіраваў у Беларускую штурмавую брыгаду чарговы эшалон добраахвотнікаў, што сабраліся ў Бэрліне пры Беларускім кадравым батальёне. Чарга накіраваньня была такая: штотыдзень у пятніцу і суботу складаліся сьпісы і рабіўся мэдыцынскі агляд, а затым сьпісы перадаваліся ў беларускі аддзел пры Галоўнай управе СС (ZZ Nauptamt) дзеля выдачы амуніцыі і харчоў на дарогу ад'язджаючым. Кіраваў тады беларускім аддзелам старшы лейтэнант Шміт. Калі я зь перакладчыкам прыехаў да Шміта, мне сказалі, што ён знаходзіцца на нарадзе. Я сказаў нямецкаму фельдфебелю зь беларускага аддзелу, які працаваў у канцылярыі аддзелу, схадзіць да начальніка над усімі нацыянальнымі аддзеламі, падпалкоўніка (ARLT) Арльта*, у кабінэце якога была нарада, каб даведацца ў Шміта: ці хутка ён вызваліцца і ці можа ён пакінуць нараду на 5-10 хвілінаў, каб дамовіцца аб эшалоне.

Пасланы фельдфебель зараз-жа вярнуўся і паведаміў мне, што падпалкоўнік Арльт і старшы лейтэнант Шміт запрашаюць мяне на нараду і што там ужо ёсьць прэзыдэнт Астроўскі й капітан Родзька (загад аб наданьні Родзьку рангі маёра быў выдадзены напярэдадні, але ня быў ён вядомы немцам, і таму Родзька выстіпаў у старой фроме капітана).

У кабінэце падпалкоўніка Арльта я сустрэў яго самога, старшага лейтэнанта Шміта, колішняга кіраўніка беларускага аддзелу капітана (прозьвішча не даецца — Рэд.) прэзыдэнта Астроўскага, маёра Родзьку, кіраўніка беларускага аддзелу пры Osministerium (міністэрства ўсходніх вобласьцей) доктара Люббэ й яшчэ трох незнаёмых мне афіцэраў. Падпалкоўнік Арльт адрэкамендаваў мне незнаёмых. Выявілася, што адзін быў лётчык падпалкоўнік Skorceni (Скарцэні), а дваіх іншых былі ягонымі супрацоўнікамі, прозьвішчы якіх я не запамятаў.

У момант майго прыходу маёр Родзька рабіў у нямецкай мове даклад. Пасьля перапынку, спрычыненага маім зьяўленьнем, Родзька працягваў свой даклад. Нямецкаю моваю я валодаю недастаткова, пагэтаму я сеў побач з Астроўскім, які мне ў скароце расказаў пра сутнасьць дакладу Родзькі і перакладаў тыя месцы, якіх я не зразумеў. Родзька дакладваў аб неабходнасьці перакінуць падначальны яму і маёру Гелду надзвычайны батальён «Дальвіц» на самалётах у Заходнюю Беларусь у тыл савецкіх войскаў, а зьявяцца мажлівасьці, то і глыбей, на ўсход Беларусі. Ён інфармаваў, што батальён «Дальвіц» ужо дастаткова падрыхтваны, каб падзяліць яго на некалькі самастойных зьвязаў, у 25-30 асобаў кожны, для праводжаньня самастойных апэрацыяў дывэрсыйнага характару: (разбурэньне мастоў, зьнічтажэньне транспартных сродкаў, вайсковых складаў у тыле савецкіх арміяў). Адначасна

---

* У арыгінале пададзена прозьвішча Арльдт. Таксама Езавітаў падае ўсюль імя Балеслаў Кушаль замест Франьцішак Кушаль. Гэтую акалічнасьць трэба ўлічваць пры знаёмстве з паказаньнямі Езавітава— Рэд.

Працяг. Пачатак у №6 (16), 1992 г.

людзі зьвязу падрыхтаваныя да разьведвальнай дзейнасьці, і кожны зьвяз будзе мець радыстаў, каб паведамляць праз радыё аб сваіх назіраньнях. Апроч таго маёр Родзька зазначыў яшчэ і тое, што кожны зьвяз будзе рабіць спробы згуртаваць вакол сябе мясцовых беларусаў, каб стварыць напачатку асобыя беларускія паўстанцкія цэнтры, а затым, карыстаючыся радыёсувязьзю між асобнымі зьвязамі, аб'яднаць іх у буйныя аб'яднаньні і выклікаць у Беларусі шырокі антысавецкі паўстанцкі рух, які будзе дзейнічаць пад лозунгам незалежнай Беларусі. Каб разгарнуць гэтую дывэрсыйна-паўстанцкую дзейнасьць у тыле савецкіх арміяў на тэрыторыі Беларусі, у першую чаргу патрэбен авіятранспарт, а затым адпаведная экіпіроўка людзей і забясьпечваньне іх удасканаленай лёгкай зброяю, дастатковай колькасьцю патронаў, гранатаў і выбуховых рэчываў, а гэтаксама некаторай колькасьцю прадуктаў у канцэнтраваным і кансэрваваным выглядзе. Патрэбна таксама кожны зьвяз забясьпечыць пераноснай падарожнай друкарняй, каб апроч літаратуры; якая можа быць закінута самалётамі, была-б магчымасьць друкаваць кароткія загады і звароты да насельніцтва, улічваючы мясцовыя ўмовы.

Даклад маёра Родзькі абудзіў ва ўсіх прысутных вялікае зацікаўленьне. Скарцэні выклікалі да тэлефону. Ён выйшаў і папрасіў абмеркаваць даклад безь яго. З прычыны таго, што ніхто з прысутных не выставіў ніякіх пярэчаньняў супраць агульнага пляну дзеяньняў батальёну «Дальвіц», то маёр Родзька з двума супрацоўнікамі падпалкоўніка Скарцэні перайшлі да дэталёвага абмеркаваньня рэштунку, узбраеньня, харчовага забесьпячэньня з дакладным улікам вагі, каб людзі, якіх будуць спускаць з самалётаў на парашутах, змаглі-б усю амуніцыю і запасы панесьці на сабе. Прыйшлі да згоды, што ўсе людзі зьвязу павінны мець дробнакалібэрныя аўтаматы і рэвальверы, а таксама на 1, 5 кг моцных выбуховых рэчываў, агульная-ж вага рыштунку не павінна перавысіць 25 кг.

Калі на нараду вярнуўся падпалкоўнік Скарцэні, ён паведаміў, што ён гутарыў па тэлефоне аб мажлівасьцях перакінуць батальён «Дальвіц» у Беларусь самалётамі. Яму, на жаль, паведамілі, што ў сучасны момант такіх мажлівасьцей няма: «Мы, немцы, сталі надзвычай бедныя: самалётаў— няма, бэнзіну — няма, парашутаў —няма . Хоць цяжка з гэтым згадзіцца, але на сёньняшні дзень гэта ёсьць факт. Дзеля гэтага батальён «Дальвіц» павінен зрабіць у Беларусь свой марш пехатою.

Гэтае паведамленьне зьбянтэжыла ўсіх прысутных, асабліва маёра Родзьку і прэзыдэнта Астроўскага. Родзька катэгарычна заявіў, што марш пехатой да Беларусі цалкам немагчымы, бо батальёну давялося-б прайсьці ўжо ўсю Ўсходнюю Прусію і Польшчу (батальён «Дальвіц» адступаў зь лягеру «Дальвіц» уздоўж узьбярэжжа Балтыйскага мора на захад і некалькі дзён таму дастаўлены чыгункаю ў Бэрлінскі раён і затрымаўся ў адным зь лягероў на адпачынак). Прэзыдэнт Р.Астроўскі яго падтрымаў, зазначыўшчы, што для беларусаў аніяк немагчыма пагадзіцца з такім рызыкоўным паходам і што батальён «Дальвіц» ёсьць надзвычай каштоўны для паўстанцкага руху ў Беларусі, і ягоная страта была-б зрывам паўстанцкага руху, каторому патрэбна даць кіраўніцтва і сродкі сувязі з дапамогаю радыёапаратуры зьвязу, а ў далейшым засылаць самалётамі рыштунак.

Падпалкоўнік Скацэні паўтарыў, што пры цяпершніх акалічнасьцях гэта

немагчыма і запрапанаваў маёру Родзьку абмеркаваць наступною прапанову: батальён «Дальвіц» на аўтамашынах будзе прывезены да лініі фронту, а затым будзе дабірацца пехатою ў тыя пункты, дзе яшчэ ёсьць акружаныя савецкімі вайскамі атрады немцаў і іншых нацыянальнасьцей. І, такім чынам, ад пункта да пункта прасоўвацца да Беларусі.

Маёр Родзька адказаў, што гэты плян яму выдаецца мала рэальным, бо калі-б батальён перайшоў лінію фронту, дабіраючыся да акружанай часьці, па дарозе патраціў-бы свае спэцыяльныя запасы й у акружанай часьці ня змог-бы атрымаць папаўненьня. Кіраўніцтва акружанага атраду захацела-б скарыстаць новапрыбыўшы батальён ці яго паасобныя зьвязы дзеля павелічэньня свайго гарнізону, а, магчыма, і выкарыстаньне як праваднікоў для прарыву на захад. Так што асноўная мэта батальёна, як арганізацыі дывэрсыйна-разьведвальнай і паўстанцкай работы ў Беларусі, ня толькі не была-б дасягнута ў дадзены момант, але не змагла-б быць наладжана і ў будучым, бо кадры, спэцыяльна гэтай рабоце абвучаныя, ў батальёне былі-б згублены падчас запрянаванага падп. Скарцэні пешага маршу.

Тады падп. Скарцэні прапанаваў маёру Родзьку абдумаць і зрабіць свае контрпрапановы на наступны дзень.

З прычыны позьняга часу (я прыехаў каля 11-ай, а нарада ўжо трывала гадзіны дзьве-тры), нарада закрылася.

Больш я падп. Скарцэні не сустракаў і ў нарадах маёра Родзькі зь нямецкім кіраўніцтвам не ўдзельнічаў.

Пасьля нарады я накіраваўся да Шміта, дзе былі аформлены сьпісы эшалона, а затым вярнуўся ў Галоўную ўправу вайсковых справаў БЦР, дзе мяне чакаў камандзір батальёна, катораму я даручыў, каб ён раніцою ў панядзелак адаслаў людзей, таму ў нядзелю павінен атрымаць на іх забесьпячэньне, і дзеля таго патрабавалася паслаць людзей з загадчыкам гаспадарчага аддзелу на склады і скантактавацца з чыгункаю, што яна атрымае загад падрыхтаваць вагоны ад Галоўнае ўправы СС.

Аб батальёне «Дальвіц» я ў той-жа вечар гутарыў з Шкелёнкам, які быў старшынёю вайсковае камісіі БЦР. Ён пагадзіўся са мною, што было-б найлепш батальён як нацыянальна сьвядомую адзінку адклікаць зь нямецкіх разьведвальных установаў, якім да гэтага моманту батальён падпарадкоўвася, і далучыць яго да складу Беларускай штурмавой брыгады як асобую адзінку. Астроўскага, Кушаля і Родзьку я ў той дзень у БЦР ужо не сустрэў і пагутарыць зь імі не давялося.

Праз пару дзён я абмяркоўваў гэтыя пытаньні з Астроўскім. Ён заявіў мне, што маёр Родзька ўсё яшчэ спадзяецца атрымаць авіятранспарт і абдумоўвае ўсе праэкты, але далучыцца да штурмавой брыгады ня хоча і ня можа, бо ў ягоным (батальёне— Рэд.) шмат людзей былой «Дывізіі Зыглінга», і гэтыя ўсе людзі ненавідзяць Зігмента (маецца на ўвазе Зіглінг — Рэд.) яшчэ з паходу ў Францыю, ды і Зіглінг будзе ўмешвацца ў справы батальёна, да чаго нельга дапусьціць. Калі цяпер ня будзе магчымасьці адаслаць батальён самалётамі ў Беларусь, то яго трэба зьберагчы і колькасна павялічваць новымі людзьмі, каб працэс падрыхтоўкі не спыняўся і каб батальён ня быў скарыстаны проста для ваенных дзеяньняў як звычайная пяхотная адзінка.

Яшчэ праз дзень некалькім фельдфебелям і ўньцер-афіцэрам батальёна

«Дальвіц», што прайшлі спэцыяльную афіцэрскую школу пры батальёне, былі нададзены Астроўскім рангі афіцэраў, а шэраг афіцэраў атрымалі павышэньне рангаў.

Адначасна пачаў дыскутавацца праэкт утварэньня батальёна асобага беларускага палка «Дальвіц» і зьмясьціць яго для далейшага ўкамплектаваньня дзе-небудзь па суседзтву зь Беларускай штурмавой брыгадай.

Ці зьдзейсніўся гэта праэкт, я ня ведаю, але знаю, што на пачатку красавіка маёр Родзька разаслаў у ваеннапалонныя і працоўныя лягеры сваіх афіцэраў і ўньцерафіцераў для вербаваньня новых асобаў у батальён, бо перакінуць яго самалётамі ў Беларусь не ўдалося.

1 сьнежня 1945 г.

Подпіс.

(Працяг у наступным нумары).



Прэзыдэнт Р. Астроўскі, 1944 г. Менск
Фота з архіву Раісы Галяк.

**Праграма сьвяткаваньня 1000-годзьдзя Праваслаўнае Царквы на Беларусі ў горадзе Полацке 25-27 верасьня 1992 года.**

**25 верасьня** **Чырвоныя могілкі**
14:00 Адправа па памёрлых палачанах.

**Храм Іаана Багамоўцы.**
16:00 Сьвяточны малебен.

**26 верасьня** **г. Наваполацак**
8:00 Асьвячэньне назноў уздзьвігнутага храма ў гонар Іаана Запавесьніка і Хрысьціцеля Госпадняга. Богасная Літургія.

**г. Полацак, Храм -супакойніца манастыа**
12:00 Адправа на мейсцы пахаваньня першых полацкіх епіскапаў.

14:00 Вадаасьвятны малебен і ўкладаньне памятнага каменю на падмурку адбудоўваючайся Сьвята-Пакроўскае царквы.

**в. Бельчыцы**
15:00 Малебен і ўсталяваньне памятнага знаку на мейсцы існаваўшага Барыса-Глебскага манастыра (XII ст.).

**г. Полацак, Пляц Волі**
16:30 Сустрэча гасьцей кіраўніцтвам гораду.

**г. Полацак, Спаса-Ефрасіньнеўскі манастыр**
18:00 Сьвяточнае Набажэнства ў Крыжа-Узьдзьвіжаньскім саборы.

**27 верасьня** **Спаса-Ефрасіньнеўскі манастыр**
6:00 Ранішняя Богасная Літургія ў Спаса-Прабражэнскім храме. Зьдзяйсьняе Архіепіскап Гарадзеньскі ВАЛЕНЦІН у саслужэбніцтве сьвятарства.

8.00 Сярэдняя Богасная Літургія у Крыжа Узьдзьвіжаньскім саборы. Зьдзяйсьняе Архіепіскап Магілёўскі МАКСІМ у саслужэбніцтве сьвятарства

**г. Полацак, Багаяўленскі сабор**
8:30 Вадаасьвятны малебен.

**г. Полацак, Сафійскі катедральны сабор**
9:45 Сустрэча Мітрапаліта.

10:00 Сьвяточная Богасная Літургія ў Сафійскім саборы.

12:30 Крыжовая хада да Спаса-Ефасіньнеўскага манастыра.

**Спаса-Ефрасіньнеўскі манастыр, Саборны пляц**
14:00 Малебен і Крыжовая хада з машчамі Вялебнае Е фрасіньні Полацкае.
14:30 Сьвяточныя прывітаньні.

15:00 Прэс-канферэнцыя для сродкаў масовае інфармацыі (манастырская трапезная).

16:00 Сьвяточны прыём.

20:00 Ад'езд у Менск.

## Запрашаем наведаць:

**27 верасьня**
**бібліятэка імя Францішка(Георгія) Скарыны**
11:00 Адкрыцьцё выставы твораў мастака Г.П.Лебедзева аб старажытным Полацку.

15:30 Сустрэча сьвятарства з палачанамі і гасьцямі гораду.

**Сафійскі сабор**
13:30 Канцэрт духоўнае музыкі.

# Тысячагодзьдзе

Ала Белая

Ёсьць у сусьветнай гісторыі такія даты, якія вяртаюць нас да нашых вытокаў.

Ёсьць у памяці людзкой такія падзеі, якія выводзілі на правільны шлях або пацьвярджалі вернасьць кірунку.

Ёсьць у жыцьці чалавецтва такія моманты, якія застаўляюць адыйсьці ад штодзённай мітусьні і задумацца над адвечнымі пытаньнямі, якія хвалявалі людзей ўчора, сто, пяцьсот, тысячу год назад.

Тысячагодзьдзе Полацкай япархіі для многіх беларусаў стала менавіта такой падзеяй, такім момантам у жыцьці. І сьвятло, якое запалілі мы ў сваёй душы у час гэтага сьвяткаваньня, ужо не патухне ніколі.

Урачыстасьці, з нагоды 1000-годзьдзя Полацкай япархіі, адбываліся 25-27 верасьня ў Менску, Полацку, Заслаўі і па ўсёй Беларусі.

Сьвяткаваньне ў Менску пачалося 24 верасьня сустрэчаю гасьцей, якія прыехалі зь Віленшчыны, Беласточчыны, Расеі, Украіны, Амэрыкі (Ньюёркская дэлегацыя была ў складзе ігумена Рыгора, настаяцеля прыходу сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл, старшыні царкоўнай управы гэтага прыходу Канстанціна Мерляка й яго сына Данілы Мерляка, сакратара царкоўнай управы Васіля Шчэцькі, сэмінарыста Міхаіла Эргета), Канады (старшыня ЗБК Мікола Ганько), Англіі (а. Міхаіл Іскрыцкі) і іншых дзяржаваў. Госьці мелі мажлівасьць зрабіць экскурсію па Менску, наведаць выстаўку мастака Е.Ждана. Вечарам перад цудатворнай іконай Менскай Божае Маці ў Сьвята-Духавым катэдральным саборы адбыўся малебен.

Раніцай 25 верасьня ў будынку Акадэміі Навук пачалася навуковая канфэрэнцыя, прысьвечаная 1000-годзьдзю Полацкай япіскопіі і Праваслаўнай царквы ў Беларусі. Канфэрэнцыю адкрыў прэзыдэнт Акадэміі Навук Беларусі, акадэмік Л.Сушчэня. Таксама выступілі паэт Н. Гілевіч і мітрапаліт Філарэт, Першаярарх Беларускае Праваслаўнае Царквы.

Каля 10-й гадзіны пачалося пленарнае паседжаньне. На ім выступілі з рэфэратамі пратаярэй Сяргей Гардун (выкладчык Духоўнае сэмінарыі ў Жыровічах)—«Тысячагадовы шлях Праваслаўя ў Беларусі», Г.Штыхаў,доктар гістарычных навук, Менск —«Асноўныя этапы гісторыі Праваслаўнай царквы ў Беларусі»; Ю.Лабынцаў, доктар філёлягічных навук, Масква—«Полоцк, колыбель Православия на Белоруссии»; А.Мельнікаў, кандыдат філёлягічных навук Менск—«Исторические свидетельства о святости в Белой Руси»; япіскап Канстанцін Наваградзкі і Лідзкі—«Наваградзкая япархія»; япіскап Пётр Тураўскі і Мазырскі—«Тураўская япархія»; М.Гайдук, Беласток—«Праваслаўная царква на Беласточчыне»; М.Ганько, Таронта— «Тысяча год Праваслаўя на Беларусі»: В.Дышыневіч, Менск—«Белорусская тематика в диссертациях Московской Санкт-Петербургской Духовной Академии»; архіяпіскап Максім Магілеўскі і Мсьціслаўскі— «Архиепископ Георгий Конисский. К вопросу о канонизации».

Пасьля пленарнага паседжаньня, у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь адбылася сустрэча з удзельнікамі юбілейнай урачыстасьці, а ў Акадэміі Навук на пяці сэкцыях працягвала сваю працу навуковая канфэрэнцыя.

## СЕКЦЫЯ 1

### Багаслоўская і рэлігійна-філасофская думка на Беларусі

1. Единая Соборная Апостольская Христова Церковь. - Пратаіерэй Яўгеній Парфянюк, г.Брэст.

2. Полацкі Сафійскі сабор як святыня беларускага народа. - М.А.Ткачоў, доктар гістарычных навук, прафесар, г.Мінск.

3. Царква і праблемы нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. - А.Я.Белы, г.Мінск.

4. Праваслаўе ў сістэме этнічнай самасвядомасці беларусаў. - Г.І.Каспяровіч, г.Мінск.

5. Вобразы хрысціянскіх святых у беларускім фальклоры. - У.М.Конан, доктар філасофскіх навук, г.Мінск.

6. Дэкалог і пошук жыццёвых ісцін. - А.Е.Міхневіч, доктар філалагічных навук, прафесар, г.Мінск.

7. "Поки солнце землю видети будет". Слово о белорусских Златоустах. - Л.В.Ляўшун, г.Минск.

8. Борьба епископа Кирилла Туровского против арианской ереси. - А.С.Кляўчэня, доктар філасофскіх навук, прафесар, г.Минск.

9. К характеристике духовно-нравственной позиции Ефросинии Полоцкой. - В.Б.Евароўскі, г.Мінск.

10. Праваслаўная Царква і нацыянальная самасвядомасць беларусаў у XIV-XVI ст. - Г.Я.Галенчанка, кандыдат гістарычных навук, г.Мінск.

11. Полацкая епархія - калыска Вялікага Палачаніна. Праблема імя Скарыны. - У.У.Агіевіч, кандыдат філасофскіх навук, г.Мінск.

12. Этический идеал Георгия-Франциска Скорины и христианский гуманизм. - А.А.Мельнікаў, кандыдат філалагічных навук, г.Мінск.

13. О названии Белоруссии и о самоназвании ее населения в IX-XII вв. - А.П.Ігнаценка, доктар гістарычных навук, прафесар, г.Мінск.

14. Три богословские проблемы катехизации. - А.С.Радоўскі, г.Мінск.

15. Религиозно-этическая проблематика в церковной печати Беларуси начала XX века. - Т.П.Кароткая, кандыдат філасофскіх навук г.Мінск.

16. Православие и литература. - А.А.Звознікаў, кандыдат філалагічных навук, дацэнт, г.Мінск.

17. В единстве религии и науки - путь к прогрессу и спасению. - В.Н.Барыкін, кандыдат фізіка-матэматычных навук, г.Мінск.

## СЕКЦЫЯ 2

### Царкоўная гісторыя і гістарыяграфія

1. Беларуская Праваслаўная Царква сьвятой Еўфрасіні Полацкай. - Пратаіерэй Павел Вялікі, г.Таронта (Канада).

2. У імя Бога і Айчыны. - М.І.Ермаловіч, г.Маладзечна.

3. Распространение христианства в городах Полоцкой земли. - Ю.А.Заяц, кандыдат гістарычных навук, г.Мінск.

4. Усяслаў Полацкі - язычнік ці хрысціянін? - С.В.Палуцкая, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, г.Гродна.

5. Пинская епархия от монголо-татарского нашествия до заключения Брестской унии. - Пратаіерэй Міхаіл Пінчук, г.Пінск.

6. Царкоўнае краязнаўства. - Г.А.Каханоўскі, кандыдат гістарычных навук, г.Маладзечна.

7. Праваслаўная Царква і каталіцтва на Беларусі (X-XVI ст.). - Пратаіерэй Стэфан Гладышчук, г.Гомель.

8. Каталіцызм на землях Полацкага княства да XIV ст. - А.А.Жлутко, кандыдат філалагічных навук, г.Мінск.

9. История Православия на Белосточчине.- Пратаіерэй Грыгорый Сосна, г.Беласток (Польшча).

10. Мітрапаліт Сільвестр Косаў: рэлігійная і асветніцкая дзейнасць. - І.В.Саверчанка, кандыдат філалагічных навук, г.Мінск.

11. Архиепископ Георгий Конисский - защитник Православия и просветитель.- Пратаіерэй Генадзій Вейга, г.Бабруйск.

12. Архиепископ Георгий Конисский - подвижник веры и благочестия. - Ю.Сакалоў, студэнт Мінскай Духонай Семінарыі, г.п..Жыровічы.

13. Іаан Грыгаровіч (1790-1852) - гісторык

Беларускай Праваслаўнай Царквы. - М.В.Нікалаеў, кандыдат гістарычных навук, г.Санкт-Пецярбург.

14. Гомельский протоиерей Иоанн Григорович и начало белорусской археографии (к 200-летию со дня рождения ученого). - Л.Л.Талкачова, г.Масква.

15. О вере белорусов и унии. - Свяшчэннік Уладзімір Дораш, в.Дубна Гродзенскай вобласці.

16. Преподобномученик Афанасий Брестский и уния. - Свяшчэннік Вячаслаў Мандрык, Брэстская епархія.

17. Брестская церковная уния: прошлое и настоящее. - Л.Е.Крыштаповіч, кандыдат філасофскіх навук, г.Мінск.

18. Крупецкая церковь Покрова Пресвятой Богородицы. - Свяшчэннік Павел Баянкоў, в.Плешчаніцы.

19. Минский Свято-Духов кафедральный собор. - Л.І.Вішнеўская, г.Мінск.

20. Основные вехи христианской культуры Полоцкой епархии домонгольского времени. - Л.В.Аляксееў, доктар гістарычных навук, прафесар, г.Масква.

21. Митрополит Иосиф Семашко. К истории воссоединения западнорусских униатов с Православной Церковью. - Пратаіерэй Вячаслаў Скавародка, г.Вільнюс.

## СЕКЦЫЯ 3

### Царква і дзяржаўна-палітычнае жыццё на Беларусі

1. Да пытання аб хрышчэнні беларускіх зямель і ўтварэння епархій. - А.П.Грыцкевіч, доктар гістарычных навук, прафесар, г.Мінск.

2. Полацкая зямля і хрысціянізацыя Эўропы. - С.В.Тарасаў, г.Мінск.

3. Полоцкая земля и русские княжества. - Э.М.Загарульскі, доктар гістарычных навук, прафесар, г.Мінск.

4. "Жыціе" прападобнай Еўфрасінні як крыніца для вывучэння гісторыі Полацка. - Г.В.Штыхаў, доктар гістарычных навук, прафесар, г.Мінск.

5. Праваслаўная Царква ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве за часы Вялікага князя Альгерда. - А.І.Анціпенка, кандыдат філасофскіх навук, Мінск.

6. Православная Церковь Литвы и Малой Руси и религиозная политика Великих князей Литовских в XIV-начале XV вв. - Ігумен Нікан (Лысенка), кандыдат багаслоўя, г.п.Жыровічы.

7. Рэлігійная падаплёка дыпламатычных акцый Маскоўскай дзяржавы ў адносінах да Вялікага княства Літоўскага (канец XV -XVI ст.). - А.А.Яноўскі, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, г.Мінск.

8. Землеўладанне Праваслаўнай Царквы на Полаччыне ў сярэдзіне XVI ст. - М.Ф.Спірыдонаў, кандыдат гістарычных навук, г.Мінск.

9. Становішча Праваслаўнай Царквы ў другой палове XVII ст. - Г.М.Сагановіч, кандыдат гістарычных навук, г.Мінск.

10. Белорусская Православная епархия в 60-70-е годы XVIII в. - А.Н.Філатава, г.Мінск.

11. Прекращение деятельности иезуитов и ликвидация их землевладения на Беларуси. - У.А.Сосна, кандыдат гістарычных навук, г.Мінск.

12. "Польский вопрос" и национально-религиозная политика в Белоруссии (конец XVIII-первая половина XIX века). - В.А.Цяплова, кандыдат гістарычных навук, г.Мінск.

13. Взаимоотношения двух христианских конфессий на Беларуси: взгляд на проблему через восстание 1863 года. - В.В.Грыгор'ева, кандыдат гістарычных навук, г.Мінск.

14. Адносіны савецкай дзяржавы да Царквы (1917-1941 г.). - Т.С.Процька, кандыдат гістарычных навук, г.Мінск.

15. Религия и Церковь на Гродненщине в годы Великой Отечественной войны. - С.В.Дзяйкалава, г.Гродна.

16. Дело об изъятии ценностей из Смоленского собора (август-октябрь 1922 г.). - Л.М.Турбіна, кандыдат біялагічных навук, г.Мінск.

17. Новая хваля вандалізму да Царквы на Беларусі ў савецкі час (50-60 гг.). - У.Я.Навіцкі, доктар гістарычных навук, г.Мінск.

## СЕКЦЫЯ 4

### Традыцыі Праваслаўя ў архітэктуры і мастацтве Беларусі

1. Храмавы Полацк. - А.М.Кулагін, кандыдат мастацтвазнаўства, г.Мінск.

2. Софийский собор в Полоцке (история и фрески). - А.А.Сяліцкі, кандыдат мастацтвазнаўства, г.Мінск.

3. Полацкая школа дойлідства і яе гістарычны лёс. - Ю.А.Якімовіч, кандыдат архітэктуры, г.Віцебск.

4. Первый храм Витебска. - Л.В.Калядзінскі, кандыдат гістарычных навук, г.Мінск.

5. Древняя Коложская церковь во имя святых князей Бориса и Глеба в г.Гродно - наша память, наша история. - Свяшчэннік Георгий Свірын, г.Гродна.

6. Ретроспективно-русский стиль в Православном церковном строительстве Беларуси второй половины XIX - начала XX вв. - Г.А.Лаўрэцкі, г.Мінск.

7. Ars sacra древней Полоцкой земли. - В.Р.Пуцко, кандыдат мастацтвазнаўства, г.Калуга.

8. Источники художественных традиций белорусской иконописи. - Э.Р.Вецер, кандыдат мастацтвазнаўства, г.Мінск.

9. Об иконе Богоматери Торопецкой. - І.А.Шаліна, г.Санкт-Пецярбург.

10. Технологические исследования древнебелорусской темперной живописи XVI-начала XVII вв. - М.М.Цейтліна, Н.П.Мельнікаў, г.Мінск.

11. Преподобная игумения Евфросиния Полоцкая - заказчица креста 1161 года. У истоков белорусского церковного патроната. - Э.С.Максімава, кандыдат мастацтвазнаўства, г.Мінск.

12. Архимандрит Мартирий (Горбачевич) - крупный ученый в области церковного пения (1801-1873 гг.). - В.В.Пратапопаў, прафесар, г.Масква.

13. Два белорусских духовных канта (псальмы). - Л.Ф.Касцюкавец, кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт, г.Мінск.

14. О новом стилистическом направлении в современной белорусской профессиональной музыке. - Т.Г.Мдзівані, кандыдат мастацтвазнаўства, г.Мінск.

15. Изображения Евфросинии Полоцкой на территории Беларуси. - Н.Ф.Высоцкая, кандыдат мастацтвазнаўства, г.Мінск.

## СЕКЦЫЯ 5

### Беларуская літаратура і мовазнаўства ў рэлігійным кантэксце

1. Царкоўнаславянская мова ў старажытнай Беларусі. - А.І.Жураўскі, доктар філалагічных навук, г.Мінск.

2. Хрысціянства і развіццё беларускай літаратуры. - А.І.Мальдзіс, доктар філалагічных навук, г.Мінск.

3. Международная славяноведческая программа и книжная культура Подляшья. - Ю.А.Лабынцаў, доктар філалагічных навук, г.Масква.

4. Беларуская літаратура ў рэлігійным кантэксце. - А.К.Каўка, доктар філалагічных навук, г.Масква.

5. Значение деятельности Белорусской Библейской Комиссии для библейской работы в Восточной Европе и Северной Азии. - К.І.Лагачоў, г.Санкт-Пецярбург.

6. Молитвословное наследие Кирилла Туровского. - Е.Б.Рагачэўская, г.Масква.

7. Христианское просвещение в Скорининскую эпоху. Скорина-переводчик. - А.С.Яскевіч, доктар філалагічных навук, г.Мінск.

8. Скарынаўскі моўны ландшафт на славянскім фоне. - У.В..Анічэнка, доктар філалагічных навук, прафесар, г.Гомель.

9. Христианский идеал женщины у Симеона Полоцкого. - Л.У.Званарова, кандыдат філалагічных навук, г.Москва.

10. Георгий Конисский. Православные реминисценции в творческой биографии А.С.Пушкина. - А.А.Варатнікова, г.Мінск.

11. Откуда есть пошел Минск. - Г.М.Рэвяка, г.Мінск.

12. Грамотность и просвещение в Полоцком княжестве XI-XIII вв. (по данным эпиграфики). - А.А.Мядынцава, доктар гістарычных навук, г.Масква.

Вечарам у Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры опэры і балета адбыўся ўрачысты вечар. Сцэну ўпрыгожвала эмблема зь Еўфрасіньнеўскім крыжам у цэнтры.

З прывітаньнямі выступілі мітрапаліт Філарэт, прэзыдэнт Беларусі Станіслаў Шушкевіч, Патрыярх Александрыйскі, Экзарх Канстантынопальскага Патрыярхату ў Эўропе мітрапаліт Дамаскін, пасланьнік Патрыярха Алексія Маскоўскага арх. Тамбоўскі, пасланьнік Першаярарха Антыахійскага, архіяп. Сава Беластоцкі, ігумен Рыгор, настаяцель прыходу сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл і іншыя асобы.

Мітрапаліт Мікалай БАПЦ, Таронта, атрымаў запрошаньне, але прыняць удзелу ў урачыстасьцях ня змог, і ягонае пісьмовае прывітаньне зачыталі. Таксама было зачытанае прывітаньне ад міністра замежных справаў П.Краўчанкі й інш. асобаў і арганізацыяў.

У сьвяточным канцэрце, у якім прынялі ўдзел лепшыя творчыя калектывы рэспублікі, а таксама хор з Балгарыі, гучала нацыянальная і духоўная музыка. Вянчала канцэрт малітва «Магутны Божа», якую разам з выканаўцамі сьпявалі ўсе прысутныя ў залі.

# КАНЦЭРТ

**Літаратурна-мастацкі пралог**

***Удзельнічаюць:***

- **Сімфанічны аркестр Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. Галоўны дырыжор - заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі Аляксандр Анісімаў**
- **Дзяржаўны камерны хор Беларусі. Мастацкі кіраўнік - Ігар Мацюхоў**
- **Хор юнакоў Музычнага ліцэя пры Беларускай Акадэміі музыкі. Мастацкі кіраўнік - Таісія Міронава**
- **Салісты Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, артысты драматычных тэатраў г.Мінска**

•

**Дзяржаўны акадэмічны народны аркестр Беларусі імя І.Жыновіча. Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор - лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, народны артыст Беларусі, прафесар Міхась Казінец**

- **В.Іваноў. "Спеў дуброў"**
- **Музыка народная на словы М.Багдановіча. "Зорка Венера". Саліст - лаўрэат міжнародных конкурсаў, заслужаны артыст Беларусі Аляксандр Рудкоўскі**
- **А.Крамко. "Кругавыя танцы"**

•

**Выступленне Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі. Дырыжор - заслужаны артыст Беларусі Міхась Штэйн**

•

**Хор Белтэлерадыёкампаніі і студэнтаў дырыжорска-харавога аддзялення Беларускай Акадэміі музыкі. Дырыжор - народны артыст СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар Віктар Роўда**

- **І.Лучанок, верш Я.Коласа. "Мой родны кут"**
- **С.Рахманінаў. "Приидите поклонимся"**
- **П.Часнакоў, верш К.Бальмонта. "Святый Боже". Салістка - народная артыстка Беларусі Любоў Каспорская**
- **С.Рахманінаў. "Хвалите имя Господне"**
- **Д.Бартнянскі. "Сей день"**

•

**Многалецце. Протадыякан Яўгеній Андронаў**

•

**М.Равенскі. "Магутны Божа"**

**Вядучы - заслужаны артыст Беларусі Валерый Анісенка**

**Галоўны рэжысёр - Рыгор Майзельс**

**Музычны рэдактар - народны артыст Расіі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Васіль Сербін**

**Мастак - заслужаны работнік культуры Беларусі Яўген Ждан**

**Гукарэжысёр - Анатоль Юзэфовіч**

**Памочнік рэжысёра - Ларыса Маеўская**

**Загадчык мастацка-пастаноўчай часткай - Мікалай Карусейчык**

26 верасьня сьвята перанеслася ў Заслаўе. Там, на сьвятой для беларусаў зямлі, заслаўскім замчышчы, быў высьвячаны двухметровы каменны крыж ў гонар Рагнеды і Ізяслава, запалена спэцыяльная лампадка і пасаджаны два дрэўцы, два сымбалі-напаміны аб Рагнедзе й яе сыне Ізяславе: белая бярозка і стройны клён. Пасьля асьвячэньня Крыжа і пасадкі дрэўцаў усе ўдзельнікі ўрачыстасьці Хрэсным ходам накіраваліся да Спаса-Праабражэнскае царквы, дзе служыўся малебен. Вечарам гэтага дня ў Полацку адбылося манастрыскае богаслужэньне.

Раніца вялікага праваслаўнага сьвята—Узьвіжаньня Крыжа Господня—застала ўсіх удзельнікаў юбілейнай урачыстасьці ў Полацку. 27 верасьня ў горадзе, калыске беларускага Праваслаўя, адбыліся богаслужэньні ў чатырох храмах: ў Спаса-Праабражэнскай царкве, у Крыжа—Ўзьвіжанскім, Богаяўленскім, Сафійскім саборах.

Пасьля сьв. Літургіі ад Сафійскага сабору пачаўся Хрэсны ход. Людзі ішлі да Спаса-Еўфрасіньнеўскага манастыру, да ракі, дзе спачываюць мошчы прэпадобнай Еўфрасіньні Полацакай, каб пакланіцца ёй, заступніцы беларускага народу. У Хрэсным ходзе ішлі ня толькі духавенства, міране, але і кіраўнікі беларускага ўраду, на чале з прэзыдэнтам Беларусі Станіславам Шушкевічам, прадстаўнікі ад урадавых замежных дэлегацыяў.

А 2-й гадзіне з Спаса—Праабражэнскай царквы была вынесена рака-грабніца з мошчамі прэпадобнае Еўфрасіньні Полацкае. Пасьля Хрэснага ходу на саборнай плошчы манастыра раку паставілі зноў у царкву, каб вернікі мелі магчымасьць яшчэ раз пакланіцца сьв. Еўфрасіньні, пацалаваць яе мошчы.

Былі ў гэты дзень і прэс-канфэрэнцыя журналістаў з гасьцямі і духавенствам. (У Полацаку сабралося толькі 17 ярархаў: япіскапаў, архіяпіскапаў, мітрапалітаў і Патрыярх). Спраўлялася ўрачытае прыняцьцё для ўдзельнікаў гэтага сьвята. Гучалі шматлікія прывітаньні. Але асноўным ўсё-ж было прычашчэньне тысячы людзей да нашай праваслаўнай веры.



Ініцыятар правядзеньня гэтага сьвята, Філарэт, мітрапаліт Менскі і Слуцкі, Першаярарх БПЦ.

Тысячагодзьдзе — гэта наш пачатак. Пачатак адраджэньня нашай духоўнасьці, свабоды, незалежнасьці, нацыянальнай царквы.

Тысячагодзьдзе — гэта нашае вяртаньне. Вяртаньне да сваіх вытокаў, сваёй рэлігіі і сумленьня.

Няхай-жа аганёк веры, запалены ў душах людзей у дні сьвяткаваньня тысячагодзьдзя, разгараецца ярчэй. Няхай ён будзе той пуцяводнай зоркай, якая вывядзе Беларусь з забыцьця на шлях духоўнага Адраджэньня.

# Прыняцьцё ў Вярхоўным Савеце Беларусі

Кастусь Мерляк

25 верасьня ў рамках сьвяткаваньня 1000-годзьдзя Полацкай япархіі ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь адбылося прыняцьцё замежных гасьцей прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь Станіславам Шушкевічам.

На гэтым прыняцьці з прывітальным сло вам ад імя беларусаў Амэрыкі выступіў Кастусь Мерляк. Зьвярнуўшыся да дастойных Ўладыкаў, Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, сябраў ураду, усіх гасьцей ён сказаў:

—Ад імя сяброў дэлегацыі прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл, Нью Ёрк, маю вялікі гонар перадаць Вам і ўсім беларусам прывітаньне ад япархіі Беларускай Праваслаўнай Царквы, Усяленскага Патрыярхату й наогул ад беларусаў, пражываючых у Амэрыцы, — найлепшыя пажаданьні, посьпеху, здароўя і шчасьця ў жыцьці кожнага з вас асабіста ды спору ў працы на ніве адраджэньня беларускае культуры, нацыянальнае сьвядомасьці, ажыўленьня рэлігійнага жыцьця, маралі й сацыяльнай справядлівасьці. Гэтае ўсё ёсьць неабходным, каб незалежная Беларусь сапраўды сталася дзяржавай вольнага й дэмакратычнага народу.

Мы ўсе, сябры дэлегацыі, вельмі ўдзячныя за запрошаньне юбілейнай камісіі й за багаславенства яго прэасьвяшчества Філарэта ўзяць удзел у сьвяткаваьні 1000-гадовага існаваньня Полацкае япархіі Беларускае Праваслаўнае Царквы. Мы ўдзячны за мажлівасьць нааведаць старажытны Полацак, пакланіцца сьвятым мошчам апякункі Беларусі сьв.Еўфрасіньні Полацкай, падзякаваць ёй за ласку, аказаную нашаму народу, памаліцца, каб праз ёйнае заступніцтва Бог паслаў мудрасьць нашаму Вярхоўнаму Савету, ураду, інтэлігенцыі й ўсяму народу вывесьці наш гаротны й пакрыўджаны народ зь цяжкога сучаснага палажэньня на шлях багатага й шчасьлівага жыцьця.

Нашая ўдзячнасьць пашыраецца й на тых, хто спрычыніўся, каб мы змаглі вярнуцца да сваіх родных мясьцінаў, наведаць магілы сваіх родзічаў, а перадусім пабачыцца з сваімі людзьмі ды зразумець, чым яны сёньня жывуць, якія іхнія імкненьні, ды чым, яны дыхаюць пасьля чарнобыльскай трагедыі, нанесенай злою рукою бязьлітасных людзей.

Для нас сёньня, пасьля доўгае 49-гадовай вандроўкі па сьвьце, жыцьця сярод людзей з чужой мовай і культурай, гэта ёсьць вялікае шчасьце.

Усё гэта застанецца ў памяці й сэрцы да канца нашага жыцьця. Мы хоць за кароткі час прабываньня ў Беларусі пабачылі вялікія зьмены ў гарадах і сёлах, а самае галоўнае, зьмены ў людзях.

Доўгі пэрыяд, які раўняецца жыцьцю цэлага пакаленьня, сваімі пяцігодкамі, грандыёзнымі пабудовамі камунізму ды хлусьлівай прапагандай змог ператварыць нямалую колькасьць людзей у савецкага чалавека. Толькі мы бачым сёньня і людзей зь верай у Бога, зь верай у лепшую будучыню, якія ўсімі сіламі стараюцца ўва ўсіх дзялянках грамадзкага жыцьця, ажыцьцявіць векавыя імкненьні: быць вольным народам і гаспадаром свае дзяржавы —Беларусі.

Мы вернмся ў Амэрыку зь вялікім задавальненьнем, бо мы навочна пераканаліся, што Беларусы любяць сваю зямлю, шануюць самі сябе й паважаюць адзін аднаго. Яны

вяртаюцца да веры, да традыцыяў, да мовы, да культуры і, галоўнае, да працы, каб збудаваць свой дом, сваю сям'ю, вярнуць нацыянальную годнасьць, каб быць гаспадаром свае дзяржавы.

Мы будзем аб усім убачаным намі расказываць і пісаць у сваёй прэсе, каб нашыя суродзічы паверылі, што сталінскага прасьледу ўжо больш няма. Што людзі на Бацькаўшчыне, у цяжкіх абставінах, намагаюцца ажыцьцявіць спрадвечную мару беларусаў «Людзьмі звацца».

Мы ведаем, што ўсе мы павінны выявіць разуменьне, аказаць маральную і матар'яльную помач, а перадусім, мэдыцынскую дапамогу, каб ратаваць дзяцей ад загубы, нанесенай чарнобыльскай катастрофай.

Калі мы ўсе, беларусы на Бацькаўшчыне й тыя, куды іх злы лёс закінуў: у Казахстан, Магадан, Салаўкі ці ў Амэрыку,Канаду, Аўстралію,—калі мы ўсе разам шчыра возьмемся за працу, то наш народ будзе ўзнагароджаны—Беларусь будзе жыць, бо яе народ гэтага заслугоўвае.



*На здымку: старшыня царкоўнай управы царквы сьв. Кірылы Тураўскага Кастусь Мерляк уручае Прэзыдэнту Рэспублікі Беларусь Станіславу Шушкевічу сваю кнігу «Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі», якая нядаўна выйшла ў сьвет. Гэтая кніга ня толькі ўспаміны аднаго чалавека, але і гісторыя цэлага пакаленьня людзей, гісторыя другой хвалі беларускай эміграцыі ў Амэрыцы, лёс якой накаваў жыць далёка ад Бацькаўшчыны.*

*Кніга мае 480 бачынак, багата ілюстраваная, мае многа фактычнага матэрыялу. Кошт кнігі $15, яе можна замовіць па адрасу:*

*Mr. Constant Mierlak, 146-24 27 th Avenue*
*Flushing, New York 11354, USA,*
*tel. (718) 939-7936*

# Незвычайная знаходка ў Полацку

Сяргей Тарасаў

Гэтым летам у Полацку на Вялікім пасадзе, дзе жылі рамесьнікі і гандляры ў X—XI стст. археолягічная група інстытута гісторыі АН Беларусі раскапала рэшткі абарончых умацаваньняў XУ—XУI стст. Раскопкамі дасьледавана частак вежы, якая па Полацакй Рэвізіі 1552 г. называлася Невельская. Сярод знаходак знойдзены вялікі жалезны ключ ад абарончай вежавай брамы. Месцазнаходжаньне старадаўняй вежы пацьвярджае выснову, што за стагодзьдзі існаваньня Полацка траіроўка ягоных вуліц у многім не зьмнялілася.

Аднак сапраўднай сэнсацыяй стала знаходка на Верхнем замку непасрэдна пад падмуркамі Базыліянскага кляштара рэштак невядомай раней Полацкай царквы з XII ст. Царква знаходзілася ў 50 м на захад ад Сафійскага сабору ў бок р.Палаты. Гэтая царква сталася 10-й па ліку сярод храмаў, якія існавалі ў Полацку ў X-XII стст.

Знойдзена частка падмурка і частка сьцяны, якая зложана з тонкай плінфы. Каб зразумець важнасьць знаходкі, пажадана прыпомніць, што з канца 50-х гадоў у захадняй часцы полацкага Верхняга замку археолягічных дасьледваньняў не праводзілася, бо лічылася, што ўся гэтая тэрыторыя «сапсаваная» пры пабудове вуніяцкага Базыліянскага кляштару XУII ст.

Адзначым, што на агульна вядомым «Пляне аблогі Полацка Сьцяпанам Баторыям у 1579 г.», калі Полацак вызваляўся ад Маскоўскага княства, на пляне вакол Сафійскага сабору крыжыкамі пазначаны чатыры будынкі. Мы, аналізуючы плян, прыйшлі да высновы, што гэта, праўдападобна, будуць цэрквы, якія былі пазьней разбураны. Адна з гэтых цэркваў была раскапана акад. М.Крагерам ў 1966-1967 гг. Яна была зьлева, з усходняга боку ад Сафійскага сабору ў такой самой адлегласьці,што і раскапаная намі царква.

Сафійскі сабор стаяў пэрпэндыкулярна р.Палаце, ён у 1750 г. перабудованы, кірунак галоўнага алтара зьменены. Сафійскі сабор зьяўляўся цэнтрам кампазыцыі, якая ўтварала крыж. Схэма кампазыцыі крыжа прыйшла разам з хрысьціянства ў Полацак зь Ерусаліма. Там глаўны храм абавязкава павінен быць пэрпэндыкулярным рацэ—г. зн. Іардану. Знойдзены і вядомыя раней храмы на Верхнім замку цалкам адпавядаюць гэтай схэме. Функцыю правага канца крыжа павінен быў адыгрываць храм Прадцечанскага манастыра на Востраве, што на Дзьвіне насупраць Верхняга замка. Ён пакуль ня знойдзены, але фіксуецца пісьмовымі крыніцамі з XIУ ст. Такім чынам, вельмі перспэктыўным можна лічыць будучыя пошукі яшчэ аднаго храма ў Полацку з XII ст. на тым-жа Верхнім замку. Калі-б такую царкву знайшлі, яна-б укамплектавала згаданую вышэй кампазыцыю.

Далейшыя раскопкі знойдзенай царквы будуць прадоўжывацца ў наступным годзе. Зараз мы можам сказаць, што Бог заапекаваўся намі, падараваў у час сьвяткаваньня 1000-годзьдзя Полацкай япіскопіі такую выдатную навіну і заахвоціў нас да далейшых пошукаў на Верхнім замку. Нам вельмі прыемна паведаміць, што ў раскопках царквы прыймалі ўдзел як праваслаўныя, так і вуніяты. Сам Бог падказывае нам шлях да згоды і паразуменьня на карысьць нашае Бацькаўшчыны.

# Пад зоркаю надзеі

Сьвятлана Белая

*У верасьні, калі ў Беларусі каралевы лета—прыгажуні ружы—даюць разьвітальны баль, а вяргіні яркім полымем запальваюць свае вясёлкавыя ліхтары, беларусы Замежжа зьбіраюцца ў дарогу, на традыцыйную Сустрэчу. І дзе-б не былі яны ў тыя дні, што-б не рабілі, а думкі іх з тымі, з кім лёс наканаваў апынуцца на чужыне. Таму пакідаюць беларусы на час свае хаты, мяняюць звыклы расклад жыцьця, едуць тысячы кіламетраў, каб хоць кароткі час пабыць ў роднамоўным асяродзьдзі, зноў адчуць прыцяжэньне роднай зямлі і перажыць усё нанова: успаміны дзяцінства, першыя крокі юнацтва, тыя мары і надзеі аб свабодзе Бацькаўшчыны, што не давалі і не даюць зараз пакою.*

*На кожную сустрэчу іх зьбіраецца ўсё меньш і меньш, але разам з тым усё больш новых людзей—нявестак, зяцёў, ўнукаў, гасьцей з Бацькаўшчыны—прыязджае, каб сьвяткаваць разам зь імі іх сьвята Сустрэчы, сьвята Ўдзячнасьці, сьвята Надзеі.*

*Два гады назад мой тата, старшыня менскага культурна-асьветніцкага клюбу «Спадчына» Анатоль Белы, і я мелі гонар прыняць удзел у XIX Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, што праходзіла у Кліўленьдзе (штат Агаё), у гасьцінным культурна-асьветніцкім цэнтры «Полацак». І вось новая Сустрэча Беларусаў, юбілейная, дваццатая. На гэты раз у Нью Брансьвіку (штат Нью Джэрзі). Аб ёй гэтыя кароткія абразкі.*



*6 верасьня 1992 г. у час банкету*

# Масты, што вядуць да яднаньня

*Падымаюся ў неба,*
*Бачу горад, падобны на кветку.*
*У цэнтры—венчык—сьвятая Сафія.*
*Ад яе еўфрасіньнеўскім крыжам*
*Адыходзяць масты.*
*Кажуць мне людзі:*
*Шчасны той горад.*
*Ён узрасьціў такі парастак —*
*Прэпадобную Еўфрасіньню,*
*Узгадаваў сотні мастакоў і паэтаў,*
*Змагароў і змагарак,*
*Непакорных нікому ў сусьвеце.*
*Гэты горад выхоўваў і нас з Вамі.*
*Ён калыска ўсіх беларусаў.*
*Падымаюся вышэй у неба.*
*Бачу другі горад,*
*Другі Полацак.*
*Ад яго адыходзяць*
*Еўфрасіньнеўскім крыжам масты,*
*Што вядуць да сьвятой Сафіі.*
*Па гэтых мастах ідуць*
*насустрач адзін аднаму людзі.*

І ўсё-такі ёсьць нешта сымбалічнае ў тым, што свой шлях на ХХ Сустрэчу мы пачынаем з Полацку, маленькага кавалачку беларускай зямлі ў Амэрыцы. Полацак—гэта і працяг Бацькаўшчыны ў далёкіх Злучаных Штатах. Гэта і сама Бацькаўшчына, бо тут, здаецца, нават зямля сьпявае пабеларуску.

Мы ад'язджаем з Полацку вечарам. Каля нашага аўтобуса ўжо сабраліся сябры, знаёмыя, сваякі.

—Перадавайце прывітаньні ад нас, — кажуць тыя, хто ня змог паехаць ў Нью Брансьвік, але прыйшоў нас праводзіць.

— У думках мы з Вамі, — дадаюць тыя, хто хоць і адыйшоў ад беларускага руху, але не забыўся сваіх каранёў.

—Вяртайцеся хутчэй—махаюць нам на разьвітаньне сосны, спадарожніцы Полацку.

Срэбраным вокам падміргвае люстэрка возера. Каціцца да долу чырвоная сьляза каліны. Над амэрыканскім Полацкам дагарае сонца. А над беларускім—ужо ўстае. Адзін Полацак праводзіць сваіх жыхароў на ХХ Сустрэчу, а другі сустракае іх на сьвяткаваньне 1000-годзьдзя ўтварэньня Полацкай япархіі. Беларускі Полацак сьвяткуе сёлета свой 1130-й юбілей, амэрыканскі — сваё 25-годзьдзе.

А ў вакне аўтобуса, як у нейкім сне, мяняюцца краявіды. І ўжо ня полацкая, сціплая, але такая прывабная зямля прадстае перад намі, а відокі няўмольнай Амэрыкі, дзе вельмі цяжка застацца самім сабою, не трапіць у колаварот яе стракатай абагуленай культуры.

Бягуць насустрач нам нястрымна-хуткія аўта, пераганяючы нашыя думкі, якія міжволі вяртаюць у векапомныя дні XIX Сустрэчы.

Ці верылі мы тады, што XIX Сустрэча стане па сутнасьці Першай Сусьветай Сустрэчай Беларусаў, дасьць пачатак кліўлендзкаму часопісу «Полацак», сымбалю яднаньня творчых сілаў Бацькаўшчыны і Дыяспары, а таксама дапаможа ў наладжваньні палітычных, эканамічных і гандлёвых кантактаў паміж беларусамі Амэрыкі і Беларусі. Ці маглі мы думаць, што на самой Бацькаўшчыне адбудуцца такія вялікія зьмены. Беларусь абвясьціць сваю незалежнасьць, яе бел-чырвона-белы сьцяг стане, нарэшце, дзяржаўным і будзе лунаць над галоўнай плошчай беларускай сталіцы, плошчай Незалежнасьці. Пэўна, што тады, на XIX Сустрэчы мы маглі толькі марыць аб гэ тым. І шчыра маліцца, каб Бог пачуў тыя малітвы і наблізіў дзень нашага выратаваньня.

# На ростанях

Пасьля мітусьлівага ранку ў Нью-Бранськіку, пасьля раскватэраваньня ў гасьцініцы, першых сустрэчаў пад Ньюбрансьвіцкай царквой і ў час памінальнай службы па загінуўшых беларусах на Ньюбрансьвіцкіх могілках , мы апынуліся ў гатэлі «Гаят», які стаў месцам правядзеньня XX Сустрэчы.

У холе з прыгожых мастацкіх палотнаў глядзяць на нас неўміручыя вочы Еўфрасіньні Полацкай, (мастачка Івонка Сурвілла), тыпова беларускія краявіды палеткаў і лясоў, вёсачак (мастакі а. Махнюк, Люда Махнюк, Тамара Койба), навеяныя казкамі і паданьнямі кампазыцыі Галіны Русак, прыгожыя вышыванкі Юлі Андрусышынай.

Тут-жа калекцыя часопіса Полацак», 16 нумароў якога быццам-бы своеасаблівая справаздача Кліўленда за час, што прайшоў з апошняй сустрэчы. Недалёка, роўным радком, ляжаць кнігі, выдадзеныя БІНіМ. Тут-жа новы 20 нумар «Запісаў». Крышку далей стэнд з фотаздымкамі навучэнцаў беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне і літаратура, выдадзеная на ратапрыньце ў гімназіі.

Першыя прывітаньні, віншаваньні, спатканьні з знаёмымі і сябрамі, але яны цягнуцца нядоўга. Завуць у залю, дзе і пачынаецца XX Сустрэча. Гучыць амэрыканскі гімн і малітва «Ойча наш». Вядучы сустрэчы Юрка Азарка чытае прывітаньне ад Прэзыдэнта Злучаных Штатаў Амэрыкі Джоржа Буша і перадае слова ганаровым гасьцям і гаспадарам сустрэчы: Валентыну Голубеву, Генадзю Бураўкіну, Уладзіміру Навіцкаму, Анатолю Беламу, Валянтыну Сяльвясюку, Натальлі Вярбоўскай, Янку Азарку, якія вітаюць удзельнікаў XX Сустрэчы.

Пасьля прывітаньняў пачынаецца сымпозыюм, які адкрывае сп.Галіна Русак. Яна запрашае ў прэзыдыюм асноўных прамоўцаў: міністра замежных справаў Рэспублікі Беларусь Пятра Краўчанку, дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі, заступніка старшыні БНФ «Адраджэньне» Валянтына Голубева, дырэктара беларускай рэдакцыі радыё «Свабоды» ў Мюнхене Вячку Станкевіча, сябру кансысторыі БАПЦ Васіля Русака, сябру БІНіМ Янку Запрудніка і прапануе разглядаць сымпозыюм як працоўную сэсію вялікага значэньня, бо «мэта гэтага сымпозыюму—пачуць і зарэагаваць на напрамак падзеяў у Беларусі ў розных галінах жыцьця, на ролю маладога ўраду ў рэалізацыі ідэяў незалежнай Беларусі».

Першы прамоўца сымпозыюму, міністр замежных справаў П. Краўчанка зазначыў:

*— 1992 год — гэта час пераходны, складаныЎнейкім сэньсе трагічны. Нашая Бацькаўшчына на ростанях, на перакрыжаваньнях. І зараз Беларусь рыхтуецца да таго, каб стаць новай зямлёй, зямлёй, на якой мы ўсе будзем адчуваць сябе сапраўднымі гаспадарамі.*

*8 сьнежня 1991 г. мы зрабілі ўмовы для выхаду Беларусі на шлях сувэрэнітэту. Гэта рабілася тады, калі большасьць беларусаў можа і не разумела гістарычнасьці гэтага моманту. Бо яшчэ ў красавіку 1991 г. пераважная колькасьць беларускага насельніцтва галасавала за Саюз. За 9 месяцаў з часу абвешчаньня незалежнасьці нам удалося зрэалізаваць паласу дыпляматычнага прызнаньня. Сёньня незалежнасьць Беларусі прызналі больш 110 краінаў сьвету. 3 56 усталяваны дыпляматычныя адносіны, 18 паслоў замежных краінаў адкрылі ў Менску свае амбасады.*

*За апошнія месяцы мы проста ўварваліся ў міжнароднае жыцьцё. Мы першымі ў Хэльсінке ў канцы лютага ўвайшлі ў склад СБЭД, падпісаўшы адпаведнае хэльсінскае пагадненьне. У канцы сакавіка нашае кіраўніцтва падпісала ў Парыжы Парыжскую хартыю краінаў Эўропы. Ячшэ праз некалькі месяцаў у Вашынгтоне было падпісана пагадненьне, і Беларусь другая пасьля Расеі ўвайшла ў склад удзельнікаў міжнароднага банка рэканструкцыі разьвіцьця.*

*Мы аддаем вялізарную ўвагу двухбаковым адносінам. І тут бы я хацеў вылучыць 4 краіны, зь якімі складваюцца ў нас добрыя адносіны: ЗША, Ізраіль, Германія, Польшча. Мы вельмі удзячны кіраўніцтву ЗША, Джорджу Бушу, за тое, што Белы Дом літаральна праз некалькі дзён прызнаў нашую незалежнасьць. Беларускія дыпляматы першыя з дыпляматаў краінаў СНГ атрымалі мажлівасьць свабодна рухацца па тэрыторыі Амэрыкі.*

Адносна палітыкі з Расеяй і Польшчай міністр замежных справаў адзначыў, што Беларусь будзе трымацца на аднолькавай адлегласьці як ад Варшавы, так і ад Масквы, акрамя эканамічнай формы супрацоўніцтва.

*—З аднаго боку, мы разумеем значэньне Польшчы як краіны-транзіта для Беларусі на захад. Вясной гэтага году мы зрабілі вялікае намаганьне, каб заключыць новыя пагадненьні й адкрыць дадатковыя пункты на мяжы. З другога боку, мы надаем вялізарнае значэньне эканамічным кантактам з Расеяй, якая зьяўляецца галоўнай крыніцай сыравіны. Мы разглядаем садружнасьць незалежных дзяржаваў, як эканамічную неабходнасьць, рэаліі на пераходны пэрыяд, і лічым, што ў бліжэйшыя 10-15 гадоў Беларусі будзе вельмі цяжка вырвацца з сыравіннай залежнасьці ад Расеі. Мы хочам, каб усе пытаньні з Расеяй вырашаліся не на падставе залежнасьці—незалежнасьці, а вырашаліся, як ва ўсіх цывілізаваных краінах сьвету, незалежна. Толькі такім шляхам мы можам ісьці да сапраўднага сувэрэнітэту.*

*Палітычны сувэрэнітэт падразумеваецца намі як рэальна-эканамічны сувэрэнітэт,* —падкрэсьліў Пётра Краўчанка.— *І дзеля гэтага нам трэба зьмяніць структуру нашай прамысловасьці. Зрабіць гэта няпроста. У бліжэйшыя гады мы будзем прапаноўваць нашым структурам такі падыход, які можна назваць фінляндызацыяй. Так, нашая Бацькаўшчына ў пераходны пэрыяд, перад тым як рэальна інтэгравацца ў агульна-эўрапейскую супольнасьць павінна паўтарыць шлях Фінляндыі. І зрабіць, каб падтрымліваючы нядрэнныя адносіны з Расеяй, выкарыстоўваючы эканамічныя мажлівасьці такога супрацоўніцтва, мы крок за крокам рухаліся ў Эўропу. Гэта нялёгкі шлях. Мы не павінны абвастраць сваіх адносінаў ні з Захадам, ні з Усходам. Мы мусім увайсьці ў склад агульнага рынку. Гэта наша канчатковая мэта. А для гэтага трэба многа працаваць.*

*Нашая памяркоўная палітыка да ядзернай зброі, тое, што мы зьяўляемся ўдзельнікамі 5-баковага пагадненьня, падпісанага ў Лісабоне, сьведчыць аб тым, што Беларусь ня страціла свайго міжнароднага аўтарытэту, а толькі набыла яго. Пацьверджаньнем гэтага зьяўляецца тое, што наш урад ня мае ніякіх складанасьцей з атрыманьнем крэдытаў. Мы атрымалі крэдыт зь Італіі—100 млн. даляраў, крэдыт зь Нямеччыны—500 млн. даляраў. Мы, дзякуючы палітычнай стабільнасьці і таму, што мы разбураем старыя структуры і ствараем новыя, маем магчымасьць узяць у пазыку яшчэ каля 1 млрд. даляраў. Але мы лічым, што ня*

*толькі крэдыты, але непасрэдныя інвэстыцыі ў нашую эканоміку могуць ўратаваць Бацькаўшчыну.*

Сярод многіх праблемаў, якія закрануў міністр замежных справаў Рэспублікі Беларусь у сваёй прамове, былі і пытаньні нацыянальнага і культурнага жыцьця.

—*Нягледзячы на тое, што з 1 верасьня 79% вучняў Беларусі будуць вывучаць усе прадметы ў беларускай мове,*— адзначыў Пётра Краўчанка, — *ёсьць ня проста супраціўленьне рэалізацыі закону аб беларускай мове, ёсьць разьюшаная атака на закон аб мовах, на беларускасьць. У жніўні с.г. на радыё адбылася сустрэча кіраўнікоў 24 палітычных арганізацыяў, на якой прысутнічалі і некаторыя пісьменьнікі, зразумела, непатрыятычна настроеныя. Імі было прынята рашэньне ў бліжэйшай парлямэнцкай сэсіі атакаваць закон аб мовах, дабіцца яго адмены і таго, каб было ўведзена двухмоўе. Калі Вы аналізавалі нашыя газэты, Вы бачылі, як жорстка і адмоўна ставілася гэтае пытаньне. Мы гаворым і аб тым, што на Бацькаўшчыне існуе каардынацыя гэтых намаганьняў. Гэта выклікае ў нас вялізарнае пачуцьцё небясьпекі. Гэта яўны адыход назад. Гэта ганьба перад усім сьветам.*

*З другога боку, я хацеў сказаць аб тым, што нам удаецца зрабіць у гэтай справе. Мы выйшлі да кантактаў з шэрагам фірм, змаглі адкрыць у Парыжы для рэстаўрацыі Мірскага замку валютны рахунак. Мы атрымалі першыя 5 тысяч даляраў. Я зьвяртаюся да ўсіх беларусаў, каму дарагі Мірскі замак, падтрымаць нас у гэтых намаганьнях.*

*Мы таксама займаемся пытаньнем нашай гістарычнай спадчыны. У жніўні я афіцыйна запрасіў пасла Расеі сп.Сапрыкіна, і ўпершыню мы афіцыйна паставілі пытаньне аб вяртаньні нашых нацыянальных каштоўнасьцей: Скарынаўскіх першадрукаў, слуцкіх паясоў, калекцыі сфрагістыкі, бібліятэкі Хрэптовіча і ўсіх тых каштоўнасьцей, якія трэба вярнуць на Бацькаўшчыну.*

*Часамі нас абвінавачваюць, што у нас няма нацыянальнай ідэі. Давайце з Вамі разам падумаем, як жыць далей Бацькаўшчыне, куды й як рухацца? Як выпрацоўваць нацыянальную ідэю, якая яна мусіць быць? Не вырашыўшы гэтых пытаньняў, мы ня можам рухацца наперад. Я думаю, што такой нацыянальнай ідэяй можа быць ідэя нацыянальнай дзяржаўнасьці. І яе трэба распрацоўваць. А з другога боку, гаворачы пра нацыянальную ідэю, мы павінны, не страчваючы сваёй талерантнасьці, думаць перш за ўсё пра сябе, пра нашую выключнасьць, пра тое, што нам не хапае пачуцьця нацыянальнай самасьвядомасьці. Я ўпэўнены, што толькі тады дарагая кожнаму з нас Беларусь жыла, жыве і будзе жыць вечна.*

Тэма ХХ Сустрэчы «**Беларусь на шляху да незалежнасьці**»,—працягваў наступны дакладчык Валентын Голубеў,— *выразна адлюстроўвае стан нашай дзяржавы. Так, мы на шляху да вольнай беларускай дзяржавы і трэба зрабіць усё, каб ня збочыць зь яго самім і не даць ворагам Беларусі перапыніць наш рух. Аналізу сёняшняга стану Беларусі, былі прысьвечаны паседжаньні апазыцыі Вярхоўнага Савету, БНФ, мітынгі, якія прайшлі ў Менску.*

*Унутраная й эканамічная палітыка, якую праводзіць посткамуністычны ўрад Беларусі больш не задавальняе насельніцтва, таму дэмакратычныя партыі і БНФ актыўна падтрымалі ідэю аб правядзеньні рэфэрэндуму аб недаверы цяперашняму Вярхоўнаму Савету і правядзеньня новых дэмакратычных выбараў на шматпартыйнай аснове. Папярэдні дакладчык сьведчыў аб*

*дасягненьнях у справе дзяржаўнага будаўніцтва ў Беларусі. Так, ёсьць дэклярацыя незалежнасьці, вернуты наш нацыянальны сьцяг і герб. Але ці добраахвотна, па свайму жаданьню зрабіў гэта ўрад? Не. Толькі дзякуючы актыўнай дзейнасьці апазыцыі, насуперак волі апаратчыкаў, пад ціскам людзей, якія выходзілі на плошчу Незалежнасьці і патрабавалі прыняцьця рашэньняў апазыцыі.*

*Вярхоўны Савет Беларусі ня ёсьць парлямэнт. Гэта орган, які быў прызначаны не дзеля працы, а дзеля галасаваньня два разы на год прапановаў з Масквы. Ён не выбіраўся як парлямэнт сувэрэннай дзяржавы, а выбіраўся як мясцовы орган часткі Савецкага Саюза. Савет Міністраў таксама сфармаваны гэтым-жа Вярхоўным Саветам з сваіх паплечнікаў, былых сябраў ЦК КПБ. Кіраўніцтва не выйшла з КПБ, а толькі прыпыніла сваё сяброўства. Адным словам, у Беларусі застаўся той-жа самы, што і 3 гады назад, парлямэнт і ўрад, а кіруюць ім тыя, хто змагаўся супраць незалежнасьці.*

*Беларусь мае свае межы, якія зафіксаваны ў дакумэнтах, што былі перададзены пры ўступленьні Беларусі ў ААН. І мяжа з Польшчай існуе ў тым-жа стане, што і пры былым Савецкім Саюзе. Зараз мацуецца мяжа зь Летувой за кошт Расеі і то толькі таму, што Летува не ўваходзіць у СНД. Ідуць перамовы аб усталяваньні мяжы з Украінай і нічога ня робіцца па ўсталяваньню мяжы з Расеяй. А што робіцца на той мяжы? Дзякуючы адзінай валюце, вывозіцца зь Беларусі літаральна ўсё, прычым на ўзроўні гэтага-ж ураду.*

*Мытня, як прыналежнасьць незалежнай дзяржавы, існуе толькі з Польшчай і Летувой. Пакуль ня будзе мытні з Расеяй, Беларусь будзе краінай, тавары зь якой будуць вылятаць як з аэрадынамічанй трубы.*

*Ці ёсьць у дзяржавы яе асноўны закон, Канстытуцыя? Да гэтага часу існуе старая Канстытуцыя БССР. Хаця падрыхтаваны ўжо даўно праэкт новай Канстытуцыі, але яго абмеркаваньне штучна зацягваецца.*

*Зь вялікай цяжкасьцю было прынята рашэньне аб стварэньні беларускага войска. Да гэтага часу яно ўяўляе сабой вайсковыя часткі былога Савецкага Саюзу. Ім камандуюць людзі, якія не прынялі, і не жадаюць прыняць прысягі на вернасьць нашаму народу. Не прысягаў беларускаму народу нават міністр абароны Рэспублікі Беларусь. Таму 8 верасьня у Менску Беларускае Згуртаваньне Вайскоўцаў, БНФ і іншыя дэмакратычныя партыі будуць праводзіць грамадзкае прыняцьцё прысягі на вернасьць беларускаму народу, беларускай дзяржаве.*

*Няма ў нас і сваёй грашовай адзінкі, адпаведнай фінансавай сыстэмы. Затое ёсьць наступ на беларускую мову. На бліжэйшую сэсію гэтага Вярхоўнага Савета будзе вынесена пытаньне аб наданьні расейскай мове статуса дзяржаўнасьці, і я не ведаю на якіх дэпутатаў можна спадзявацца, каб абараніць закон аб дзяржаўнасьці беларускай мовы. Сябры ўраду, каб застацца на сваіх пасадах, адмовяцца ад тых прынцыпаў за якія змагаліся лепшыя сыны Бацькаўшчыны. Вопыт паказаў, што без палітычных зьменаў, бяз новага дэмакратычнага парлямэнту і ўраду Беларусі з крызысу ня выйсьці. Таму мы за рэфэрэндум, за новыя дэмакратычныя выбары, за сапраўды дэмакратычную і незалежную Беларусь.*

З прамовай пра эканоміку Беларусі з пункту гледжаньня заходніх дзяржаваў, з тлумачэньнем, чаму так адбываецца, і як эміграцыя можа дапамагчы ў тым вялізным працэсе, які адбываецца на Бацькаўшчыне,

выступіў сп. Вячка Станкевіч. Аналізу рэлігійнага працэсу на Бацькаўшчыне, праблеме беларускай мовай у богаслужэньні прысьвяціў сваё выступленьне сп. Васіль Русак. Таксама ён прыпыніўся на пытаньнях асьветы. Падвёў-жа вынікі сымпозыюму Янка Запруднік. Асноўную ўвагу ў сваім рэфэраце ён надзяліў праблеме, як выпрацаваць нацыянальньую ідэю. Але на гэтым сымпозыюм не закончыўся.

Пасьля кароткага перапынку пачалася праца пададдзелаў: эканомікі, рэлігіі, палітыкі, адукацыі, вынікаў чарнобыльскай трагедыі. Пераходжу ад аднаго «круглага» стала да другога. Усюль ідзе гаворка аб тым, як зрабіць Беларусь больш магутнай, сапраўды незалежнай і свабоднай.

А ў суседняй залі ў гэты самы час ідзе сустрэча былых вучняў і настаўнікаў Беларускай гімназіі Янкі Купалым, якая працавала ў пасьляваенныя гады ў Нямеччыне. І хаця з былых настаўнікаў прыехала толькі сп. Іна Кахаюўская, а з пары сотняў гімназістаў — 30, атмасфэра на той сустрэчы, як, набыць, і ў тыя, гімназіцкія часы, вельмі цёплая.

Успаміны, успаміны, успаміны... Ці ведаем мы, колькі значаць яны для чалавека? Яны вяртаюць нас у самыя лепшыя хвіліны жыцьця. Яны працягваюць іх, робяць непадуладнымі часу і прасторы.

Вечарам, 5 верасьня яшчэ адно падарожжа ў маладосьць. У Саўт Рывэры ладзілася забава, на якой сабралося багата беларусаў з так званага зарубежніцкага беларускага асяродка.

Саўт Рывер і на гэты раз падрыхтаваў прыемную неспадзяванку. Запрасіў на сьвята прафэсыйных артыстаў з Бацькаўшчыны: сьпявачку Іну Афанасьеву, якая летась у міжнародным конкусе «Віцебскі базар» заняла другое месца, заслужанага артыста Беларусі Мікалая Скорыкава, кампазітара Зьмітрака Яўтуховіча, які разам з паэтам Леанідам Пранчаком напісалі нямала твораў, якія палюбіліся ўдзельнікам сустрэчы. І не было раўнадушных ў гэты вечар ў залі.

*Гучыць музыка,*
*кружацца ў вальсе юныя пары.*
*Бачу танюткіх дзяўчынак, з валасамі сівымі.*
*Бачу хлопцоў маладых, з тварамі юнымі і срэбрам у вусах.*
*Няўжо ім толькі па дваццаць?*
*Няўжо шэсьцядзясят ім мінула?*
*Весела грае гармонік.*
*Сьмяюцца шчасьлівыя людзі.*
*Чую пытаньне:*
*—Адкуль Вы: з Дэтройту,*
*Саўт Рывэру, а можа зь Нью Ёрку?*
*—Хіба ёсьць розьніца?*
*Мы-ж беларусы.*
*—Пэўна, мы—беларусы.*
*Зноў гучыць песьня,*
*і зноў мы танцуем разам.*
*І няма больш падзелаў.*
*Ёсьць толькі музыка,*
*і восенькі баль.*
*Божа, чаму на зямлі*
*сваркі і звадкі,*
*боль і горыч*
*Калі ўсе мы разам*
*ляцім да зор?*

Мы вярталіся ў гатэль, калі забава была у самым разгары. Так не хацелася ад'язджаць з гасьціннага Саўт Рывера, але ўсётакі вырашылі ўстрымацца ад танцавальнага марафону. Наперадзе быў другі дзень сустрэчы, яшчэ больш насычаны й адказны.

Мы ехалі па Саўт Рывэру, які ў начы нічым не адрозьніць ад Нью Брансьвіку, Кліўленду, Дэтройту...Гадзіна язды разьдзяляе беларускія цэрквы ў Нью Брансьвіку і Саўт Рывэры. Але мяжа паміж імі пралягае, на жаль, ня ў часе.

# «Беларусь, твой народ дачакаецца...»

*Нам прадракалі: Вы мёртвыя, бо нават з Богам гаворыце чужымі словамі.*

*Нам казалі: Вы глухія, бо Вашыя дзеці ня сьпяваюць матчыны песьні.*

*З нас сьмяяліся: Вы сьляпыя, бо не пабачылі, як з рота беларуса ўкралі ягоную мову...*

*Але калі я прыходжу ў царкву і чую, як прыгожа па-беларуску моліцца сьвятар і яго прыхажане, калі ўзгадваю, як на нашай мове размаўлялі мае продкі, я веру: на ёй яшчэ загавораць і нашчадкі.*

І ў гэтае верылі ўсе, хто прыйшоў на сьв. Літургію ў царкву Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Брансьвіку. Усхвалявана гучаць у перапоўненым людзьмі храме малітвы, якія чытаюць Уладыка Мікалай, архімандрыт Карп Стар, пратаярэй Міхась Страпко, пратаярэй Васіль Андрэюк, падзіякан С.Міціч.

Хор, а разам зь ім і прысутныя, сьпяваюць «Магутны Божа». Усплывае ў памяці, як два гады назад мы ўсе разам прасілі Ўсемагутнага зрабіць свабоднай, зрабіць шчасьлівай краіну нашу і наш народ. Беларусь атрымала незалежнасьць палітычную. Але сапраўдную свабоду мы будзем мець, калі будзе эканамічна незалежнай і нацыянальна сьвядомай дзяржавай. Як зрабіць гэта—аб гэтым гаварыў на ўрачыстым банкеце П.Краўчанка і шэф беларускай місіі пры ААН Генадзь Бураўкін. Аб эканамічнай лучнасьці, садружнасьці Бацькаўшчыны з Дыяспарай гаварылі ў час банкету Антон Шукелойц, Мікола Ганько, Язэп Сажыч, Расьціслаў Завістовіч, Яўген Лецка, Яўген Цумараў, Вітаўт Кіпель, Валентына Трыгубовіч, Галіна Левашкевіч.

Асноўныя думкі прамоўцаў знайшлі адлюстраваньне ў рэзалюцыі XX Сустрэчы.




*Выступае кліўлендзкі хор «Васілёк», дырэгуе Вольга Лукашэвіч*

А пасьля банкету адбыўся канцэрт, які прынёс нямала радасных хвілінаў усім прысутным. А іх было больш за 300 асобаў.

Пад гукі прыгожай музыкі на экране мяняюцца слайды беларускіх краявідаў.

Вось тая крынічанька, у якой голуб купаўся.
А вунь зялёная вішня з-пад кораня выйшла.
Із-пад каменя, із-пад белага, цячэ рэчанька, рэчка быстрая.

Усё гэта Бацькаўшчына. Аб ёй, прыгожай і спапялёнай Чарнобылем, нашыя песьні, у якіх радасьць і боль. Гучаць крынічныя песьні ў выкананьні Валянтыны Пархоменкі, Алеся Казака,Ўладзімера Бучэля, кліўлендзкага хору «Васілёк»,Вольгі Лукашевіч. Любы Блізьнюк, Аўгена Магаліфа, Іны Афанасьевай, Мікалая Скорыкава, Зьмітра Яўтуховіча.

Шырока льецца пераплёт народных песьняў і скокаў акардыяніста Фёдара Паўлаўца. Паэму Ўладзімера Караткевіча «Паўлюк Багрым» чытае Сяржук Сокалаў-Воюш. Лявон Пранчак прысьвячае ўдзельнікам сустрэчы свае вершы. А сцэнічны абразок, у якім усё жыцьцё беларуса ад нараджэньня і да смерці, праз шлях Ісуса Хрыста паказана, адлюстроўвае Тацьцяна Мархель.

У гэтым удала падабраным паэтычна-мэлядычным вянку канцэрта цяжка выдзяліць нейкую кветку. Кожная непаўторна па-свойму, але яшчэ прыгажэй глядзяцца яны ўсе разам, у адзіным вянку, любоўна сьплеценым таленавітымі беларускімі людзьмі.



*6 верасьня, у часе банкету. Злева направа: Тацьцяна Кананчук, Марыя Патапенка, Аня Стагановіч, Вольга Лукашевіч, Люба Блізьнюк.*

І ўжо цяжка сказаць, што стала кульмінацыяй XX Сустрэчы. Прамовы Пётра Краўчанкі, які спэцыяльна прыляцеў на сьвяткаваньне, або спатканьне былых гімназістаў, якія праз ўсе гады эміграцыі пранесьлі агенчык таго сьвятла, якое запалілі яны ў гімназіі Янкі Купалы. Прывітаньне ўдзельнікаў сустрэчы ад Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі яго старшынёй Расьціславам Завістовічам ці казань Уладыкі Мікалая. А можа самым галоўным момантам сьвята было яго завяршэньне, калі наш гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» засьпявалі з артыстамі ўсе, хто прыехаў на Сустрэчу. Мы зноў былі ўсе разам адзінай вялікай сям'ёй.

Ня хочыцца верыць, што прыйшоў час расстаньня. Што зноў будзе чаканьне, надзея і спадзяваньне. Зной на календары, будуць адзначацца дні, аддзяляючыя нас ад наступнага спатканьня з сябрамі, надзеямі, маладосьцю. Сустрэча вярнула ўсіх у дні юнацтва і зрабіла зноў шчасьлівымі. Дай Божа, каб гэты запал маладосьці захаваўся да наступнай сустрэчы, чакаць якую прыйдзецца ўжо ня два гады, а толькі адзін.

І ўжо ня ў Злучаных Штатах Амэрыкі, не ў Канадзе, а ў Беларусі адбудзецца наступнае спатканьне, Першы Сусьветны Кангрэс Беларусаў на Бацькаўшчыне.

Полацак сустрэў нас ў праменьнях узыходзячага сонца. Ад яго Першай Сусьветнай Сустрэчы Беларусаў у Паўночанй Амэрыкі пачатак. Ад яго на І Сусьветны Кангрэс Беларусаў на Бацькаўшчыне мосьцік.

У маіх руках бел-чырвона-белыя гвазьдзікі. Нехта заўважае, што яны вельмі дапасуюць да нашага сьцяга, што палымнее над Полацкам. Гэтыя кветкі і гэты сьцяг прыдаюць мне новыя сілы і веру ў адраджэньне маёй Бацькаўшчны. І пакуль будзе лунаць гэты сьцяг над нашай зямлёй, пакуль матчына песьня будзе перадавацца у спадчыну, не спыніць палёту Пагоня, не сальецца ў адзіны акіян моўны беларуская мова, а значыць, будзе жыць Беларусь!

У верасьні, калі ў Беларусі каралевы лета—прыгажуні ружы—даюць свой разьвітальны баль, а вяргіны яркім полымем запальваюць свае вясёлкавыя ліхтары, беларусы Замежжа зьбіраюцца ў дарогу, на сваю традыцыйную Сустрэчу.

Яны вераць, што нават калі абарвецца шлях іх зямны, нават калі наша Зямля стане належаць на іншых Галактык, іх нашчадкі ў пачатку верасьня зноў будуць зьбірацца ў дарогу, на свае беларускія сустрэчы:

*Каб усім разам ляцець да зор.*



*«Мы выйдзем шчыльнымі радамі»*

# Прывітаньні ўдзельнікам XX Сустрэчы *

## *Джордж Буш, Прэзыдэнт Злучаных Штатаў Амэрыкі:*

THE WHITE HOUSE

WASHINGTON

September 3, 1992

I am delighted to send greetings to all those who are gathered in New Brunswick for the 20th Biennial Convention of the Belarusians of North America. A special welcome to your guests from abroad.

In the two years since you last met, maps have literally been redrawn as nations around the world have experienced a new birth of freedom and democracy. Last December, the United States was proud to recognize the independence of a newly freed Belarus and to establish the basis for increasing bilateral and multilateral cooperation. As you celebrate the bright future that awaits your friends and relatives in Belarus, I pledge to you my full and continuing support for their efforts to establish stable, democratic government and a market-oriented economy, and I add my voice to your prayers for peace throughout the region.

As I have stated to President Shushkevich, Americans share the commitment to liberty and justice that has been demonstrated by the courageous people of Belarus. We also understand the many challenges that they face in overcoming the cycle of stagnation and decline that marked decades of communist rule. Having enjoyed the benefits of freedom, along with the prosperity that has been generated by private enterprise and free markets, we remain eager to encourage and assist our Belarusian friends in their historic task. I welcomed the cooperation of President Shushkevich in efforts to fulfill international agreements on the reduction of nuclear weapons, and my Administration will continue to promote American economic and technical assistance for Belarus.

Barbara joins me in sending best wishes for a productive and enjoyable convention.

Я рады вітаць усіх, што зьехаліся ў Нью Ёрк на XX штодвухгадовую Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Асабліва вітаю Вашых гасьцей з-за мяжы.

За два гады, ад часу Вашай апошняй сустрэчы, карта сьвету была даслоўна перамалявана, у выніку таго, што сьвет перажывае Адраджэньне свабоды і дэмакратыі. У сьнежні, летась ЗША з пачуцьцём гонару прызналі незалежнасьць новавызваленай Беларусі ды заклалі базу для пашырэньня двухбаковага і шматбаковага супрацоўніцтва. У часе, калі Вашая ўвага засяроджаная на сьветлай будучыні, якая чакае вашых сяброў і сваякоў у Беларусі, я ўрачыста абяцаю мае поўнае і працяглае падтрыманьне ў іхніх намаганьнях ўстанавіць стабільны, дэмакратычны ўрад і арыентаваную на вольны рынак эканоміку. Я далучаю свой голас да Вашых малітваў за мір ў цэлым рэгіёне.

Як я сказаў прэзыдэнту Шушкевічу, амэрыканцы падзяляюць сваю адданасьць свабодзе і справядлівасьці, якую прадэманстраваў мужны народ Беларусі. Мы таксама разумеем тыя шматлікія цяжкасьці, якія стаяць перад ім, і якія трэба перамагчы, каб выйсьці са стагнацыі і заняпаду, як выніку дзесяцігодзьдзяў камуністычнага панаваньня. Цешучыся дабротамі свабоды разам з дабрабытам, які быў вынікам прыватнага прадпрынімацельства і вольнага рынку, мы гатовыя падтрымаць і дапамагаць нашым беларускім сябрам у іхнім гістарычным заданьні. Я вітаю гатоўнасьць прэзыдэнта Шушкевіча супрацоўнічаць у намаганьні выканаць міжнародныя пагадненьні аб зьніжэньні ўзроўню ядзернага ўзбраеньня. І мой урад будзе працягваць падтрымліваць справу эканамічнай і тэхнічнай дапамогі Беларусі.

Барбара далучаецца да маіх найлепшых пажаданьняў вам плённа прыемнай сустрэчы

* Частка прывітаньняў удзельнікам XX Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі была надрукаваная ў № 6(16) часопіса «Полацак».

STATE OF NEW JERSEY
OFFICE OF THE GOVERNOR
TRENTON
08625

JIM FLORIO
GOVERNOR

September 5, 1992

Dear Friends:

On behalf of the State of New Jersey, I would like to extend warm greetings to everyone attending the 20th Biennial Convention of representatives of the Belarusan American Association and Canadian Alliance.

Over the years, the Belarusan American community has developed deep roots in New Jersey. In addition to their important involvement in our state's professional and civic affairs, New Jersey's Belarusan citizens have distinguished themselves by expressing their vocal support for democratic values and human rights around the world. In fact, Americans of Belarusan descent can take great pride in knowing that their efforts have served as a moving force behind the recent reestablishment of democracy in Belarus. With the continued support of Belarusan citizens living in New Jersey and across the United States, I'm confident that Belarus will continue to grow and prosper as a proud member of the community of free nations.

Again, please accept my best wishes for a successful convention. Your achievements are a source of pride and inspiration for all of us.

Very truly yours,

Jim Florio

JIM FLORIO
Governor

JJF:me

FRANK R. LAUTENBERG
NEW JERSEY

COMMITTEE
APPROPRIATIONS

SUBCOMMITTEES
TRANSPORTATION CHAIRMAN
COMMERCE JUSTICE STATE AND JUDICIARY
DEFENSE
FOREIGN OPERATIONS
VA HUD AND INDEPENDENT AGENCIES

# United States Senate

WASHINGTON, DC 20510-3002

COMMITTEE
BUDGET

COMMITTEE
ENVIRONMENT AND PUBLIC WORKS

SUBCOMMITTEES
SUPERFUND OCEAN AND WATER PROTECTION CHAIRMAN
ENVIRONMENTAL PROTECTION
WATER RESOURCES TRANSPORTATION AND INFRASTRUCTURE

HELSINKI COMMISSION

August 31, 1992

Mr. John Azarka
President
Belarusan American Association, Inc. in NJ
9 River Road
Highland Park, New Jersey 08904

Dear Friends:

Thank you for the invitation to attend the Belarusan-American Association Convention. I regret that I will be unable to be with you.

I am pleased that for the first time you can gather to celebrate the birth of an independent Belarus. The changes that have taken place in the world have been dramatic. We've seen the collapse of communism and the end of the Cold War. Democracy and freedom have spread like wildfire over Eastern Europe and the former Soviet Union. Belarus struggled for over fifty years to achieve independence. On this occasion, I share your joy and am deeply gratified that the aspirations of the Belarusan people for self-determination have been fulfilled.

I wish you the best for this special day. Please share my regards with all in attendance.

Sincerely,

Frank R. Lautenberg

FRL:rms

REPLY TO

506 HART SENATE OFFICE BUILDING
WASHINGTON DC 20510-3002
(202) 224-4744

ONE GATEWAY CENTER SUITE 1011
NEWARK NEW JERSEY 07102-5311
(201) 645-3030

BARRINGTON COMMONS
208 WHITE HORSE PIKE
SUITES 18-19
BARRINGTON, NJ 08007-1322
(609) 757-5353

## *Станіслаў Шушкевіч, Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь:*

Шаноўнае спадараства! З радасьцю і хваляваньнем вітаю вас, удзельнікаў і гасьцей XX Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.

Мне прыемна, што сабраліся Вы неўзабаве пасьля таго, як нашая агульная гістарычная радзіма ўпершыню адзначыла сваё выдатнае сьвята—дзень Незалежнасьці. Спадзяюся, што для ўсіх беларусаў гэта была ня проста ўрачыстасьць. Гэта было сьведчаньне ажыцьцяўленьня шматгадовых мараў аб вольнай, незалежнай радзіме. Як і Вы, я шчыра ганаруся, што наша краіна стала паўнапраўным сябрам сусьветнага, цывілізаванага супольніцтва. Сувэрэнную Рэспубліку Беларусь прызналі больш за 100 дзяржаваў сьвету, 58 наладзілі зь ёю ужо дыпляматычныя адносіны. Горка нагадваць, але доўгі час гістарычная радзіма была для вас ня роднай маці, а злоснай мачыхай, якую не турбаваў лёс дзяцей, рознымі шляхамі закінутымі за яе межамі. Няма ў тым віны беларускага народу, і Беларусь шчыра ўдзячна Вам, дарагія суайчыньнікі, што Вы не забылі матчынай зямлі, што адданасьць ёй, яе гісторыі пранесьлі праз гады і пакуты. Вольны вецер перамен нясе нашай Бацькаўшчыне Адраджэньне нацыянальнай сьвядомасьці, нацыянальнай культуры, роднай мовы, але поўнае Адраджэньне Беларусі яшчэ наперадзе, для гэтага трэба шмат і напружана працаваць. У гэтай справе мы шчыра спадзяёмся на Вашае разуменьне, падтрымку і дапамогу. Прыйшоў наш час, і мы, нашчадкі Еўфрасіньні Полацкай, Франьцішка Скарыны, Кастуся Каліноўскага, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, пацьвярджаем: Беларусь, жыла, жыве і будзе жыць.

## *Зянон Пазьняк, старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»*

Дарагія суродзічы! БНФ «Адраджэньне» шчыра вітае XX Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі! Мы памятаем, што трагічныя павароты беларускай гісторыі вымусілі шмат каго з вас пакінуць Бацькаўшчыну, прайсьці пакутныя, змагарныя дарогі. Духоўная лучнасьць беларусаў на Бацькаўшчыне і на эміграцыі заўжды мацавалася вераю ў тое, што сонца незалежнасьці зазьзяе над нашай старажытнаю краінаю, што Беларусь скіне ненавіснае камуністычнае ярмо й адродзіцца да годнага жыцьця сярод іншых дзяржаваў Эўропы, сьвету. І сонца пачало ўзыходзіць, і стала ўздымацца з каленяў нашая Бацькаўшчына. Адраджаецца мова, гістарычная памяць, нацыянальная годнасьць. Але гэта толькі пачатак адраджэньня, якое ідзе надта няпроста. Так, над ўрадавымі будынкамі лунае наш сьвяты бел-чырвона-белы сьцяг, адраджаецца наш адвечны беларускі герб, няскораная Пагоня. Аднак па ранейшаму ля ўлады тыя, хто змагаўся супраць незалежнасьці, супраць мовы, культуры нашага народу, хто дзеля вяртаньня камуністычных парадкаў гатовы зноў аддаць Бацькаўшчыну ў няволю. Ды толькі народ Беларусі больш не дазволіць гэтага. У барацьбе за сапраўдную, незалежную, дэмакратычную, адроджаную Беларусь мы разам.

### *Вячаслаў Кебыч, старшыня Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:*

Шаноўныя ўдзельнікі кангрэсу! У той час, калі Беларусь набыла сувэрэнітэт і зь вялікімі намаганьнямі будуе сучасную дзяржаўнасьць, нам прыемна ўсьведамляць што яе лепшыя прадстаўнікі з-за мяжы склікалі кангрэс, каб паразважаць аб лёсе яе гістарычнай Радзімы. Урад Рэспублікі Беларусь сардэчна вітае Вас усіх і зыча багатага плёну ў дыскусіях, чакае канструктыўных прапановаў па культурнаму й эканамічнаму супрацоўніцтву ва ўмовах пераходу Беларусі да рынку. Прыміце найлепшыя пажаданьні, сардэчную падтрымку ад імя беларускага ўраду, які даручыў адпаведным установам і арганізацыям распрацаваць дзяржаўную праграму супрацоўніцтва з суайчыньнікамі. Мы лічым і надалей будзем лічыць беларускую эміграцыю адной з крыніц духоўнага адраджэньня нашай агульнай Бацькаўшчыны.

Жыве Беларусь!

### *Васіль Быкаў, пісьменьнік:*

Шаноўнае спадарства! Дазвольце ад імя аргкамітэту Першага Сусьветнага Кангрэсу Беларусаў, які плянуецца ў Менску наступным летам, павіншаваць усіх прысутных з адкрыцьцём сёньняшняга надзвычайна прадстаўнічага форуму за межамі Беларусі. Заклікаем вас аб'яднаць усе нашыя намаганьні у накірунку вываду беларускай эканомікі з крызісу, у накірунку духоўнага адраджэньня нашай Бацькаўшчны, у накірунку пошуку формулы нацыянальнай згоды. Мы з Вамі павінны скарыстаць гэты гістарычны шанс, які ўпершыню за апошнія 3 стагодзьдзі дазваляе нам пабудаваць незалежную нейтральную дзяржаву.

Жыве Беларусь!

### *Вітаўт Лазар, прэззыдэнт акцыянернага таварыства «Кросны»*
### *Ян Кабановіч, прэзыдэнт асацыяцыі «Беларускі шлях»:*

Шаноўныя суродзічы!

Адраджэньне Айчыны патрабуе яднаньня беларусаў усяго сьвету ня толькі на культурным, палітычным і нацыянальным падмурку, але й у сфэры дзелавога супрацоўніцтва бізнесмэнаў-прадпрынімальнікаў, таму што станаўленьне новых эканамічных адносін зьяўляецца асноўным фактарам сапраўднага сувэрэнітэту й незалежнасьці Беларусі.

Акцыянернае таварыства «Кросны», якое ўтворана найбольш нацыянальна сьвядомымі беларускімі прадпрымальнікамі, і асацыяцыя дзелавога супрацоўніцтва прадпрымальнікаў-беларусаў Латвіі «Беларускі шлях» прапануюць беларусам усяго сьвету наладжваць бізнез-кантакты й стварыць сусьветны бізнес-цэнтр ў Менску. А таксама маем намер стварыць гандлёвыя дамы ва ўсіх краінах сьвету.

Гэта зьявіцца таксама адным з чыньнікаў, які будзе яднаць усіх беларусаў сьвету. Няхай ў гэтай справе дапаможа нам Маці Божая-Заступніца беларускага народу.

Жыве Беларусь!

### *Валянтын Сяльвясюк, сябра рады Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня:*

Галоўная Рада упаўнаважыла мяне перадаць шчырыя прывітаньні і пажадаць усім Вам удачы. Беласточчына была першая, што навязала кантакты зь беларускай эміграцыяй асабліва тут, у Амэрыцы. Быў час, калі Вы нам усім шмат дапамаглі, і за гэта Вам вялікае дзякуй. Цяпер нашая сытуацыя палепшылася, і думаю, што сувязі будуць падтрымліваццa.

### *Янка Азарка, старшыня Ньюбрансьвіцкага аддзелу БАЗА:*

Ад імя БАЗА у штаце Нью Джэрзі жадаю, каб гэтая сустрэча прайшла памысна і прынесла карысьць у беларускай вызвольнай справе. Каб ніхто не пашкадаваў свайго высілку прыбыць і прыняць удзел у гэтай сустрэчы. Сябры БАЗА у Нью Джэрзі вельмі ганарацца, што сустрэча адбываецца у нас. Мы прыклалі ўсе намаганьні, каб яна пасьпяхова прайшла. Гэта будзе 4 сустрэча ў штаце Нью Джэрзі. У 1979 г. тут адбылася УІ сустрэча, у 1976 г.—XII, у 1982—ХУ сустрэча. Усе сустрэчы мелі заданьне яднаць суродзічаў у Амэрыцы, што удалося дасягнуць, і як мага больш узварушыць дзейнасьць беларускіх арганізацыяў Паўночнай Амэрыкі. Сёньня мы бачым, што ідэя сустрэч была добрая, і таму яна не замерла, а наадварот узмацьняецца з кожным годам. І спадзяюся, што на наступнай сустрэчы мы зноў сустрэнемся, можа нават, на незалежнай Беларусі.

### *Уладзімір Навіцкі, намесьнік старшыні таварыства «Радзіма»:*

Шаноўныя ўдзельнікі XX Сустрэчы! Праўленьне таварыства «Радзіма» і рэдакцыя газэты «Голас Радзімы» шчыра вітаюць Вас з нагоды юбілейнай XX Сустрэчы і зычаць Вам плённай працы на карысьць Бацькаўшчыны. Нам, прадстаўнікам незалежнай Беларусі, прыемна адчуваць, што нягледзячы на цяжкі час і выпрабаваньні, якія дасталіся вам, Вы змаглі захаваць традыцыі і звычаі продкаў, багатую і самабытную культуру свайго народу, выхаваць у сваіх дзяцей і ўнукаў адданасьць роднай зямлі. Карэнныя зьмены, якія адбываюцца ў Беларусі, і менавіта здабыты ёю сувэрэнітэт, сьведчаць аб зьдзяйсьненьні матаў нашых продкаў, нашых надзеяў і памкненьняў.

У апошнія гады таварыства «Радзіма» робіць пэўныя захады для наладжаньня сувязьзяў зь беларускімі грамадзкімі і культурнымі суполкамі за межамі Бацькаўшчыны. Сьведчаньнем гэтага зьяўляюцца нашыя кантакты з прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў ЗША, Канадзе, Вялікабрытаніі, Аргентыне, Польшчы, іншых краінах сьвету; прыезд ў Беларусь упершыню па нашаму запрашэньню многіх нашых суайчыньнікаў, у тым ліку маладзёжнага калектыву «Васілёк» з Амэрыкі, а таксама ўдзел дэлегацыі таварыства ў гістарычнай XIX Сустрэчы Беларусаў у Кліўлендзе. Адпаведна часу пачала працаваць і рэдакцыя газэты «Голас Радзімы», аб чым Вы самі можаце меркаваць па яе публікацыях. Мы лічым, што толькі супольнымі намаганьнямі ўсіх беларусаў сьвету і грамадзкіх арганізацыяў Беларусі, а таксама далёкага і бліжняга Замежжа можна дасягнуць прыкметных зрухаў у справе беларускага Адраджэньня.

# Казань

## на XX Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі 5-7 верасьня 1992 г. у Гайленд Парку, Нью Джэрзі

*«І пасьвяці пяцьдзесяты год, і агаласіце свабоду на зямлі ўсім жыхарам яе; хай будуць гэта ў вас угодкі, і вернецца кожны да ўладаньня свайго і кожны да радзімы свае вернецца» (Лявіт 25 10)*

Дарагія Браты й Сёстры!

У Сьвятым Пісьме сказана, што Госпад наш Ісус Хрыстос аднаго разу зьвярнуся да Габрэяў і сказаў ім: **«Пазнайце праўду, і праўда вызваліць вас»** (Ян 8:32). Але Габрэі адказалі Госпаду: **«Мы насеньне Абрагамава і нічыімі нявольнікамі ня былі ніколі; як жа Ты кажаш: 'Вы станеце вольнымі'?»** (Ян 8:32). Але ж, у той час, Габрэі фізычна былі пад панаваньнем Рымлянаў. Але тут ідзе мова пра духовую свабоду, якую Габрэі насілі ў сваім сэрцы. Падобна Габрэям і наш беларускі народ, хоць фізычна паняволены, але вынасіў свабоду й незалежнасьць у сэрцу сваім.

Дарагія мае, мы сабраліся сёньня на чарговую 20-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, што паводле нашай традыцыі адбываецца што два гады. І вельмі ўдалы й правільны, на сучасны час, выбралі кліч: **«Беларусь на шляху да незалежнасьці»**, як галоўную тэму сустрэчы.

Мы выхадцы, а лепш сказаць выгнанцы, з бацькаўшчыны, увесь час сачылі за падзеямі ў Беларусі. Пачынаючы з 1989 году, падзеі ішлі так шпарка, што мы не ўсьпявалі заўважаць усяго, што дзеілася на бацькаўшчыне. Найбольш жорсткі, бязьлітасны, насільны Сталінскі тэрор, якога людзі ад стварэньня сьвету не памяталі, і вось ён на нашых вачох валіўся і разваліўся. І ў выніку гэтага ў мінулым годзе 25 жніўня, Беларусь ізноў была агалошана незалежным гаспадарствам. У сьвятым пісьме сказана: **«І агаласіце свабоду на зямлі ўсім жыхарам яе; хай будуць гэта ў вас ўгодкі; і вернецца кожны да ўладаньня свайго і кожны да радзімы свае вернецца»**. Незалежнасьць агалошана, але шлях да незалежнасьці, яшчэ не закончаны. Бо засталіся папярэднія урадаўцы камуністы, на ўсіх узраўнях адміністрацыі Беларусі, ад найніжэйшага да самага Вярхоўнага Савета, якія робяць усё й ставяць усякія перашкоды, каб не дапусьціць да зьмены сыстэмы на дэмакратычны лад, дзе будзе ім канец. Вось гэты, яшчэ незакончаны ход да незалежнасьці й мы адзначаем сёньня

Доказаў ня трэба на тое, што царква ў народзе — ёсьць душою народу. Таму, хто уладзее царквою, тоў уладзее народам, тае царквы. Нажаль, адраджэньня царквы ў Беларусі яшчэ няма, бо яна апанаваная чужынцамі. У іншых народаў, дзе царква ёсьць пад кіраўніцтвам свайго

народу, служыць свайму народу, ейныя сьвятары бяруць удзел і дзейна уключаюцца ў справы аваіго народу, бяруць поўны ўдзел у яго адраджэньні. І ў Беларусі праваднікі цэркваў бяруць чынны ўдзел у справах нашага народу. Рыма-Каталіцкія ксяндзы ў Беларусі (Палякі-ксяндзы), вывешваюць польскія сьцягі й партрэты польскага прэзыдэнта Валенсы і пры гэтым застаўляюць рыма-каталікоў беларусаў «Мувіць панскім (польскім) ензыкем». Ува ўсіх рыма-каталіцкіх цэрквах для вернікаў рыма-каталікоў беларусаў, бо палякаў няма, багаслужбы і казань праводзяцца папольску. Праваслаўныя сьвяшчэньнікі ўсімі сіламі супрацьдзеяць адраджэньню Беларусі і ўсе багаслужбы праводзяць парасейску, ды «ізьвешчаюць» пра добрую расейскую апеку над беларусамі. Калі адзін сьвятар (Міхал Мядзелка, са Слáўгараду), беларус, адважыўся ўзяць удзел у адраджэнскім руху, дык ягоны ўдзел у адраджэньні падалі на разляд Сабору Япіскапаў. А тое, што ў Расеі расейскія сьвяшчэньнікі маюць права браць чынны ўдзел у ратаваньні Расеі, дык гэта зусім упарадку. Маскоўская Патрыярхія мае адныя царкоўныя правы для Расеі, а іншыя для Беларусі.

Некаторыя з нашых патрыётаў, каб ратаваць мову ў царкве, хапіліся аднаўляць рыма-каталіцкую царкву ўсходняга абраду, — Вунійную Царкву. Пачалі будаваць новую надбудоўку. Кажуць, яна маўляў — нашая, беларуская царква, з роднай мовай. Як нашая народная прыказка кажа: **«З полымя, проста ў вагонь».** Задумайцеся! У чым лепш падлягаць Рыму, ды яшчэ праз Варшаву, чымсьці Маскве? Яны абое рабое. Няўжо мы беларусы, маючы панад тысячагадовую слаўную гісторыю няздольныя быць самастойныя? І мусім быць пад чужацкім панаваньнем? Дзе наш беларускі гонар? Заўсёды памятайма, што наш народ, — Сьвяты Беларускі Народ. Яны абое цкуюць нас аднаго на другога. Яны абое вынарадаў-ліваць беларусаў, на што беларускі ўрад мусіў бы зьвярнуць ўвагу. Гэта ня ёсьць умешваньнем у царкоўныя справы. Гэта ёсьць сьвятым абавязкам Беларускага Ураду ратавасць і спыніць вынарадоўліваньне нашага беларускага народу. Гэта ж яны, нас дзеляць, калі беларус рыма-каталік, значыцца ён паляк, а калі праваслаўны — дык расеец. Гісторыя выразна паказала, да чаго прывяла вунійная місія ў Беларусі. Ніякія войскі — Маскоўшчыны, ані іншыя, ня здолелі зруйнаваць, але толькі вунійная місія зьнішчыла нашую магутную дзяржаву — Вялікае Княства Літоўскае. Пра вунію канцлер ВКЛ Леў Сапега ў сваім лісьце з дня 12 красавіка 1622г. зусім трапна пісаў Язапату Кунцэвічу: **«Вунія на прынесла радасьці, адно толькі нязгоду, сваркі і незлагадзь. Было б лепей, калі б яна ніколі ня мела месца сярод нас. Мы не забараняем Габрэям, ані магамэтанам мець свае дамы для багаслужбаў, а вы запіраеце хрысьціянскія сьвятыні. Сьцеражэмся, каб гэтая вунія не спрычыніла тваіго і нашага зьнішчэньня».** Але чамусьці нашыя гісторыкі прамоўчваюць місійную вуніяцкую дзейнасьць 16 і 17 сталецьця ў Вялікім Княстве Літоўскім. Мо' гэтая місія настолькі была жорсткая, безаглядная, бязьлітасная, што баяцца кранаць яе. Зруйнаваўшы Вялікае Княства Літоўскае ня вытрымала і Польшча. Словы Льва Сапегі споўніліся.

Для нас адзін выхад. Няхай кожны трымаецца сваёй веры, не пакідае свае цэрквы. Не тварыць вунійных ці іншых рэлігійных надбудовак, але шчыра ўзяцца за працу, каб адбудаваць і адрадзіць нашае, беларускае, рэлігійнае жыцьцё ў сваім родным краю. Чужынцхаў замяніць сваімі. Чужых ксяндзоў, сьвяшчэньнікаў і прапаведнікаў, замяніць беларускімі сьвятарамі, якія ня будуць вывешваць польскія сьцягі ў Менску і ня будуць «ізьвешчаць» пра харошую маскоўскую «Ісьцінную апеку», але яны будуць трымацца сваіх беларускіх народных традыцыяў, служыць і дабравесьціць слова Божае для свайго беларускага народу, на яго сьвятой роднай мове. І тады споўняцца словы: **«І вернецца кожны да ўладаньня свайго і кожны да радзімы свае вернецца»** (Лявіт. 25:10). Тады сьвятар беларус праваслаўны, сьвятар беларус рыма-каталік ці сьвятар беларус прапаведнік ня будуць цкаваць нас аднаго на аднаго. І тады беларусы, ці праваслаўны, ці рыма-каталік, ці іншай веры, будуць жыць між сабою мірна і згодна, бо як сьв. ап. Павал кажа: **«А дзе Дух Госпадавы, там свабода»**. Амін.

мітрпаліт МІКАЛАЙ





*Мітр. Мікалай на беларускім магільніку ў Нью Браньсьвіку, 5 верасьня 1992 г.*

# Некаторыя думкі ўдзельнікаў банкету

***Антон Шукелойц, старшыня БАЗА:***

Сёлета мінае 75 год ад І Усебеларускага Кангрэсу, вялічэзнай падзеі ў жыцьці беларускага Адраджэньня, і 40-год традыцыі перахоўваньня ідэі вольнай дэмакратычнай беларускай дзяржавы, 40-год палітычна-грамадзкай працы ў імя Беларускай Народнай Рэспублікі.

Дыяспара і Бацькаўшчына злучаюцца, нарэшце, ў адно цэлае праз свабоду падарожжаў, наладжваньня сумесных мерапрыемстваў і прадпрыемстваў. У Беларусі ідзе сёньня нацыянальнае і дэмакратычнае Адраджэньне, якое з самага пачатку перабудовы выпісаў на сваім сьцягу БНФ. І мы гэтае Адраджэньне поўнасьцю падтрымоўваем.

Але працэс дэмакратызацыі Беларусі, стварэньне незалежнай дзяржавы не адбываецца бязь цяжкасьцей і перашкодаў. Сёньня, калі камуністычныя сілы намагаюцца ізноў адваяваць пазыцыі, рызыка павялічваецца. А гэта значыць, што да ўсякай новай ініцыятывы, трэба ставіцца з разуменьнем сытуацыі. З другога боку трэба энергічна ўключацца ў справу адбудовы беларускай дзяржаўнасьці і нацыянальнай культуры, аб чым выказаўся Васіль Быкаў. Сёньняшняя сытуацыя можа быць апошнім шансам беларусаў, каб яны выжылі, як нацыя...

***Пётр Краўчанка, міністр замежных справаў Рэспублікі Беларусь:***

Я хацеў-бы падняць адну ідэю, якая ўжо даўно насьпела.

Каб праз год, ў Беларусі сабраўся І Сусьветны Беларускі Кангрэс Беларусаў, першы за многія дзесяцігодзьдзі. Бацькаўшчына павінна прыняць сваіх сыноў і дачок. Бацькаўшчына павінна павініцца перад многімі з Вас, хто быў пакрыўджаны. Думаю, у Бацькаўшчыны хопіць мужнасьці прызнаць памылкі сваіх структур і тых уладаў, якія некалі зьняважалі Вас і паставілі ва ўмовы, якія зрабілі Вас палітычнай і працоўнай эміграцыяй. Я хацеў давесьці да Вас, што ідэя сустрэчы ў нас канструктыўна прынята. Але яе трэба рыхтаваць і над ёй трэба працаваць. І я запрашаю ўсіх вас да такой сумеснай працы.

***Расьціслаў Завістовіч, старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі:***

Сёньня, у дзень нашае сустрэчы, мы адзначаем надыходзячую 75 гадавіну Першага Ўсебеларускага Кангрэсу. Першы Ўсебеларускі Кангрэс стаўся паваротным пунктам у гістарычнай барацьбе нашага народу за справядлівасьць і волю. Ён завяршыўся беларускаю нацыянальнай дэклярацыяй — абвешчаньнем незалежнае беларускае дзяржавы.

Ад імя братняе арганізацыі, Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, вітаю Вас. Наш народ скінуў ярмо няволі! Ён, хоць і паволі, але крочыць да поўнае свабоды! Ён перамог! Мы перамглі. А цяпер, як на Бацькаўшчыне, гэтак і на эміграцыі, мы павінны яднаць свае сілы для дабра нашае любае Беларусі й нашага народу, заўсёды, аднак, памятаючы, што канфармізм адбірае творчыя сілы, выконваючы дэструктыўную ролю ў грамадзтве. Разнастайнасьць палітычных поглядаў і рэлігійных перакананьняў ня ёсьць нечым заганым, а наадварот, яна робіць жыватворчы ўплыў на людзкія каштоўнасьці, аздараўляе ґрамадзтва, як фізычна, так і духова.

### *Генадзь Бураўкін, шэф беларускай місіі пры ААН*

Неяк так атрымалася, што гісторыя не надта цешыла нашых прашчураў, не надта спрыяла нашай роднай зямельцы. То па ёй праносіліся капыты розных захопнікаў, то пераціралі яе танкавыя тракі розных акупантаў. І мы несьлі сьвету часта, перш за ўсё, свае раны, свае пакуты, сваю боль.

Успомнім старонкі толькі нядаўняй нашай гісторыі: Курапаты, Хатынь, Чарнобыль. Вось тыя знакі, па якіх Беларусь ведаюць больш-меньш у шырокім сьвеце, знакі нашай пакуты, знакі нашай бяды. Можа таму ў нашай душы некаторыя нашы блізкія і далёкія ворагі нават добрыя нашы пачуцьці, добрыя нашы рысы здолелі перавярнуць у дрэнныя. І дабрыня беларуская стала нейкай пакорлівасьцю, і наша беларускае разуменьне іншых стала раўнадушшам для разуменьня свайго. І розныя дзяржаўныя арлы двухгаловыя выдзёўбвалі нашу душу, калі мы ўсе на гэта глядзелі чамусьці даволі спакойна. Яны выдзёўбвалі нашу мову, памяць. І даволі многае ўдалося ім у гэтым дасягнуць. І вось цяпер, калі прыйшоў шчасьлівы час, наш шанс, мы кажам пра новы рух пра Адраджэньне. А я думаю, што для вельмі многіх у Беларусі, на жаль, не адраджэньне, а абуджэньне— вось што найбольш патрэбна і найважна.

Тыя палітычная акты, якія для нашай радасьці, на наша шчасьце ужо прыняты, пра якія ведае сьвет, яны яшчэ павінны быць падмацаваныя вельмі сурьёзнымі справамі. Наша незалежнасьць беларуская будзе сапраўднай толькі тады, калі яна будзе складвацца зь незалежнасьці душ беларусаў. Вось калі ў гэтых душах будзе незалежнасьць, калі ў гэтых душах будзе годнасьць, тады наша дзяржаўная беларуская незалежнасьць будзе сапраўднай. У сувязі з гэтым я хацеў-бы папрасіць Вас, дарагія землякі, каб Вы разумелі адну асаблівасьць.Тое, што Вы з далёкага сьвету пранесяцё да матчынай роднай хаты, да нашых рачулак, сьцяжынак, нашых бароў, сваю любоў да Беларусі—гэтае будзе мець для той, неабуджанай яшчэ Беларусі, вялізарнае значэньне.

Нясіце, паказвайце, што Вы, пабыўшы ў шырокім вольным сьвеце, яшчэ больш у душы сваю радзіму зьбераглі. І яшчэ адно. Нам не хапае вопыту сьвету. Вы гэты вопыт маеце тут. Перадайце яго таксама туды, нам да хаты. Бо ён нам вельмі патрэбны.

### *Язэп Сажыч, Прэзыдэнт Рады БНР:*

Асаблівасьць гэтай сутрэчы ў тым, што мы маем прадстаўнікоў дэмакратычнай апазыцыі незалежнай Беларусі. Па-другое, што ад І Усебеларускага Кангрэсу спаўняецца 75 год. Сустрэча напаўняе аптымізмам і надзеяй, што дачакаемся і паедзем ў Беларусь на Сусьветную Сустрэчу.

### *Яўген Цумараў, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі:*

Незалежнасьць — дасягальная, калі у нас будзе незалежная палітыка, калі будзе адроджана самасьвядомасьць і культура. Менавіта апошнім і займаецца Таварыства беларускай мовы ўжо больш за 3 гады. У свой час ТБМ вымушана было заняцца палітыкай і прыняць удзел у выбарах. Яно вылучыла для балатаваньня Ніла Гілевіча, Зянона Пазьняка і інш. Мы рады, што беларусы Паўночнай Амэрыкі захавалі той правапіс, які дастойны нашай мілагутнай роднай мовы. У гэтай сувязі з хацеў-бы сказаць, што год назад ТБМ з Беларускай Акадэміяй Навук стваралі аргкамітэт па удасканаленьню і

правядзеньню рэформы беларускай мовы. Вырашана правесьці канфэрэнцыю, каб увесьці ў норму беларускай мовы новы правапіс. Гэтая канфэрэнцыя плянуецца на канец гэтага году і буду рады запрасіць Вас на гэтую канфэрэнцыю. Таксама я мушу перадаць прывітальнае слова ад Цэнтральнай Рады Сацыял-Дэмакратычнай Грамады, а таксама ад яго старшыні др. Міхася Ткачова.

### *Вітаўт Кіпель, старшыня БініМ:*

Мы незвычайная эміграцыя. Мы працаўнікі Беларусі па-за межамі Бацькаўшчны. Мы аналізуем і бачым, што робіцца на Бацькаўшчыне. Мы стаім на прынцыпах І Усебеларускага Кангрэсу і параўноўваем, чым сёняшні парлямэнт рэспублікі адрозьніваецца ад таго, што быў на І Кангрэсе. Ён адрозьніваецца народнасьцю. Сёньня Вярхоўны Савет ня мае мандату народу. І калі гаварыць аб тым, што мы будзем супрацоўнічаць з Бацькаўшчынай, то гэта так. Але будзем памятаць і аб тым, што тая апазыцыя, якая сёньня падымае голас, яна падтрымоўвае прынцыпы, выказаныя на І Усебеларускім Кангрэсе. Яна гаворыць:дайце нам выбары, дайце нам рэфэрэндум. Давайце выберам беларускі парлямэнт. І мы, прадстаўнікі таго пакаленьня, якое не разглядалася ніколі эмігрантамі, а працаўнікамі беларускай нівы на Захадзе, цалком і без ніякіх засьцярогаў далучаемся да гэтага пагляду і будзем гэты пагляд прапагандаваць, як 70 гадоў прапагандавалася ідэя БНР. Урад і парлямэнт мусяць быць выбраны народам. І датуль, пакуль урад сапраўды ня будзе выбраны народам, і дакуль, пакуль Беларусь сапраўды ня стане весьці незалежную палітыку, мы будзем працягваць сваю працу тут, на эміграцыі.

### *Валянтына Трыгубовіч, прадстаўнік БНФ «Адраджэньне»:*

Вы чулі тут прызыў выпрацоўваць беларускую ідэю, але гэтая беларуская ідэя ёсьць. Вы несьлі яе ўсе гады, цяпер мы яе бярэм для выкананьня. БНФ ня мае патрэбы нешта новае выпрацоўнваць, бо гэтая беларуская ідэя, якая была абвешчана 25 сакавіка 1919 г., павінна была рэалізавацца ў нацыянальнай дзяржаве, якой мусіла стаць Беларусь. І нічога штучнага выпрацоўваць ня трэба. Мы з вамі ведаем, што трэба будаваць.

Тое, што Вы весь гэты час трымалі бел-чырвона-белы сьцяг, тое, што Вы трымалі Беларусь на карце сьвету, мела вялікае значэньне для нас там. Кожны з тых, хто зьяўляецца актывістам БНФ, меў нейкі штуршок, які абудзіў яго. Я выказваю Вам вялікую падзяку, за тую вялікую працу, што вы тут праводзілі.

Што хацелася-б адрадзіць хутчэй? Мову, рэлігію, узгадаваць сваіх дзяцей дэмакратамі і будаўнікамі. Якая-б справа не пачыналася, аказваецца ужо нічога ў рамках гэтай дзяржавы зрабіць нельга, пакуль ня будзе зьменены палітычны лад. Таму БНФ у лучнасьці з дэмакратычнымі партыямі выйшаў на рэфэрэндум. Сабрана амаль 0,5 мільёна подпісаў. І толькі пасьля яго правядзеньня мажлівы нейкія зрухі ў бок дэмакратызацыі.

# Рэзалюцыя
# XX Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Нью Брансьвіку, Нью Джэрзі
# 5-7 верасьня 1992 г.

XX Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі сцьвярджае:

1. Дэмакратычны працэс ў Беларусі ідзе штучна запавольненымі тэмпамі, спавальняючы рэформы і спрычыняючы эканамічны спад. Галоўная прычына гэтага замаруджваньня ў тым, што структура і склад Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, які выбіраўся не як парлямэнт сувэрэннай дзяржавы, а як мясцовы орган часткі былой савецкай імпэрыі, не адпавядаюць насьпелым патрэбам мамэнту—інтэнсыўна распрацоўваць заканадаўства незалежнай дзяржавы і сачыць за яго выкананьнем.

Наяўнасьць сярод дэпутатаў Вярхоўнага Савету недэмакратычна абраных заканадаўцаў і такіх, якія займаюць адначасна адміністрацыйна-выканаўчыя пасады, ня толькі не дае аптымальных вынікаў, але пярэчыць самому прынцыпу дэмакратыі. Беларусь безадкладна патрабуе дэмакратычна абранага вышэйшага заканадаўчага органу, які працаваў-бы толькі як парлямэнт, прафэсыйна.

2. Вярхоўны Савет і ўрад Беларусі мусіліб больш актыўна праводзіць палітыку незалежнай дзяржавы ў адпаведнасьці з Дэклярацыяй аб дзяржаўным сувэрэнітэце Рэспублікі і больш энэргічна спрыяць дэмакратызацыі ейнага палітычна-грамадзкага ладу; больш клапаціцца пра інтарэсы беларусаў замежжа, спрыяць вяртаньню на Бацькаўшчыну тых, хто апынуўся вонках Беларусі на абшарах былога СССР, што ў першую чаргу датычыць беларусаў-вайскоўцаў, якія знаходзяцца на чужыне і жадаюць служыць Беларусі.

Асаблівая ўвага павінна надавацца адраджэньню нацыянальнай культуры, адукацыі, беларускай мовы. Толькі на глебе нацыянальнай сьведамасьці, у спалучэньні са справядліва аплочванай працай, можа адрадзіцца пачуцьцё грамадзянскай годнасьці, а разам зь ім пачуцьцё адказнасьці за якасьць арганізацыйнай і эканамічнай дзейнасьці, за якасьць прадукцыі працы.

3. Беларуская эміграцыя й ейныя нашчадкі ў Злучаных Штатах і ў Канадзе горача і падтрымліваюць ідэю адраджэньня сувэрэннай і дэмакратычнай беларускай дзяржавы, перабудову эканомікі Беларусі на прынцыпах вольнага рынку ды справу забясьпечаньня дэмакратычных свабодаў усім ейным грамадзянам бяз розьніцы на этнічнае паходжаньне ці сьветагляд. У сувязі з гэтым амэрыканскія і канадзкія грамадзяне беларускага паходжаньня выкарыстоўваюць свае кантакты і ўплывы, каб спрыяць адраджэньню вольнай Беларусі.

4. Апошнім часам аднак сілы старога ладу ў Беларусі аднавілі кампанію ачарненьня маральных аўтарытэтаў беларускага нацыянальнага руху, у першую чаргу лідэраў беларускай вайсковасьці. За гэтай прапагандавай кампаніяй хаваецца намаганьне паслабіць фронт нацыянальна-дэмакратычных сілаў у Беларусі і падкасіць салідарнасьць зь імі беларускай эміграцыі.

5. Афіцыйныя колы Беларусі, у тым ліку Міністэрства замежных справаў, згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» й іншыя структуры, выступілі з прапановай правесьці ў 1993 г. ў чэрвені-ліпені сусьветны зьезд («кангрэс») беларусаў. Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне і Згуртаваньне Беларусаў Канады падтрымваюць у прынцыпе гэтую насьпелую ідэю і ўдзел свой у ажыцьцяўленьні гэтага праекту абумоўліваюць далейшым ходам працэсу дэмакратызацыі ў Беларусі і нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва.

6. Беларуская эміграцыя будзе і надалей сачыць ход падзеяў у Беларусі:

а). ці ня будзе замаруджвацца працэс нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня;

б). ці будзе выкананая воля вялікае колькасьці выбаршчыкаў, выказаная ў адпаведнасьці з законам аб рэфэрэндуме,

в). ці будзе дадзены парлямэнцкай апазыцыі, дэмакратычным партыям і рухам час на пэрыядычныя выступленьні на рэспубліканскім радыё і на тэлебачаньні? (як гэта робіцца ў дэмакратычным заходнім сьвеце);

г). ці будуць спыненыя перашкоды нармальнай дзейнасьці канструктыўнай апазыцыі БНФ ў Вярхоўным Савеце.

д). ці будзе спыненыя недакумэнтаваныя абвінавачаньні беларускіх нацыянальных лідэраў.

7. Урад Беларусі мусіць зьмяніць сваю палітыку ў дачыненьні да забруджанае чарнобыльскай радыяцыяй тэрыторыі, узмацьняючы праграму перасяленьня людзей, а не фінансаваньня іхняга там перабываньня, бо такое фінансаваньне прыцягвае жыхароў з чысьцейшых раёнаў Беларусі, вядучы да росту сьмяротнасьці і захворваньняў. Мы прапануем, каб урад Беларусі рабіў большыя намаганьні запрасіць замежныя фірмы для наладжаньня вытворчасьці мэдыкамэнтаў у Рэспубліцы, якіх вельмі патрабуе беларускае жыхарства.

8. XX сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі выказвае спадзяваньне, што справа рассьледваньня камуністычнага генацыду ў Беларусі (Курапаты й усе іншыя злачынствы) ня будзе спыненая, ды што памяць ахвяраў бальшавізму будзе ўшанаваная пабудовай адпаведнага мэмарыяльнага комплексу.

9. Адраджэньне рэлігіі ў Беларусі павінна спрыяць адраджэньню беларускіх рэлігійных традыцыяў, беларускай мовы, культуры, духовасьці, а ня быць прыладаю паланізацыі, русыфікацыі ці іншай формы дэнацыяналізацыі беларусаў.

10. Для прысьпешваньня адраджэнскага і дэмакратычнага працэсу ў Беларусі, для ўздыму эканомікі і матар'яльнага дабрабыту патрэбны як мага шырэйшыя культурныя і дзелавыя сувязі паміж грамадзянамі Беларусі і грамадзянамі заходніх краін. Беларуская эміграцыя гатовая прыкласьці ўсе сілы, каб гэткія сувязі пашыраліся і замацоўваліся на агульнае дабро беларускага народу.

Жыве Беларусь!



*Я. Ціхановіч*

# Сустрэчы з міністрам замежных справаў

Сьвятлана Анатольева

Такой сустрэчы полацкая зямля яшчэ ня бачыла. Прыязджалі ў кліўлендзкі «Полацак» амэрыканскія палітыкі й урадаўцы, прадстаўнікі беларускай амбасады пры ААН. Выступала багата артыстаў і гасьцей з Бацькаўшчыны, адбываліся сустрэчы зь лідэрамі БНФ, дэпутатамі Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь. Але каб у Полацак прыехалі адразу міністр замежных справаў Пётр Краўчанка, беларускі пасол у Амэрыцы Сяргей Мартынаў, намесьнік шэфа беларускай амбасады пры ААН Уладзімір Герасімовіч —такога яшчэ не было.

Прыехаўшы позьнім вечарам 18 верасьня ў Кліўленд, Пётр Краўчанка, Уладзімір Герасімовіч, Сяргей Мартынаў наступным днём наведалі рэдакцыю часопіса «Полацак». У хаце Міхася Белямука адбылося прыняцьцё і знаёмства гасьцей з калекцыяй медалёў і бібліятэкай. Пабывалі госьці і на вячэры, якую арганізавала Вольга Лукашэвіч у сваёй хаце. Вечарам на Полацку адбылася зборка, у якой прынялі ўдзел шаноўныя госьці, кліўлендцы і беларусы з Дэтройту— др. Язэп Сажыч, Каця Мазура, Людміла Бакуновіч, з Чыкага—Міхась Каленік, Юрка Каленік, сп-ва Махнач, сп-ва Рамукоў, сп-ва Шышкі, сп-ва Яканюк, зь Мілвокаў—Уладзімір Варатаеў. Яны спэцыяльна прыехалі на гэтую сустрэчу.

*—Колькі-б мы не займаліся палітыкай і эканомікай, але мы ніколі ня зможам стаць сапраўды нацыянальнай дзяржавай, без выхаваньня маладога пакаленьня, без уздыму нацыянальнай самасьвядомасьці,* — пачаў сваю прамову Пётр Краўчанка. — *Таму я хацеў бы прыпыніцца больш падрабязна на пытаньнях нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва.*

*Працэс нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва немажлівы без Канстытуцыі. І трэба сказаць, што лепшыя нямецкія юрысты высока ацанілі праэкт будучай Канстытуцыі Беларусі, назвалі яго адным з самых дэмакратычных. Але праэкт ёсьць толькі праэкт. 20 кастрычніка пачнецца новая сэсія Вярхоўнага Савету, і асноўным яе пытаньнем будзе пытаньне прыняцьця Канстытуцыі, якая павінна замацаваць непаваротнасьць падзеяў, што прывялі Беларусь да незалежнасьці. Новая Канстытуцыя дасьць мажлівасьць пачаць інтэграцыю ў Эўропу. Вяртаньне ў Эўропу—гэта гістарычны шлях. Пачынаць-жа трэба з палітычнага напрамку. І тут вялікае значэньне для нас мае ўступленьне ў Савет Эўропы. У 1993 г. у нас ёсьць такі шанс. Пазыцыя Беларусі ацэньваецца зараз даволі высока.*

*Сярод важнейшых кампанентаў нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва хацеў-бы выдзяліць сыстэму нацыянальных каштоўнасьцей. Мы ня можам выхоўваць маладое пакаленьне, калі нам няма чым ганарыцца. І тут мы мусім займацца пошукамі грошаў. Мы дабіліся таго, каб у ЮНЕСКА разглядзелі пытаньне аб уключэньні Мірскага замку і Белавежскай пушчы ў склад сусьветнай архітэктурнай спадчыны. На першым этапе мы не атрымалі перамогі, таму зараз пільна рыхтуем новыя дакумэнты, каб вырашыць гэтае вельмі важнае для нас пытаньне. Для рэстаўрацыі Мірскага замку нам трэба 500 тыс. даляраў. За гэтыя грошы мы павінны запрасіць славутых майстраў з Польшчы або Чэхіі, пераняць ад іх лепшае і стварыць нацыянальную школу рэстаўратараў, якой у нас няма, каб у 1996 годзе ўрачыста адзначыць 500-годзьдзе*

*Мірскага замку, славутага помніка Эўропы.*

*Нам беларусам,*—падкрэсьліў Пётр Краўчанка,—*патрэбна свая Мэка, каштоўнасьцямі якой можа ганарыцца кожны беларус. Мы павінны ўзьняць людзей, паказаць, якая багатая ў нас спадчына. На ролю такой Мэкі прэтэндуюць Вільня і Прага, а таксама Падуя, зь якой у беларусаў столькі зьвязана.*

*Працэс нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва не мажлівы без нацыянальнага школьніцтва. Першыя зьмены ёсьць. З 1 верасьня 70% усіх вучняў школаў вывучаюць усе прадметы па-беларуску. А яшчэ 10 год назад толькі адна Надзейка Лісіцына ў Менску вывучала агульнадукацыйныя прадметы на роднай мове. Вельмі многае залежыць ад нашай творчай інтэлігенцыі. Праз талент—да нацыянальнага. Я-б так назваў гэты працэс. Зараз у нас выйшлі зь «няведаньня» многія таленавітыя людзі. Я хацеў бы назваць сьпявака Марата Грыгорчыка, я думаю гэта наш новы Забэйда, мастакоў братоў Басалыгаў, Аляксея Марачкіна, скульптараў А.Дранца, В.Янушкевіча і многіх іншых.*

*Да нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва мусіць далучыцца ўсё тое, што было зроблена на эміграцыі. Мы хочам, каб ўся спадчына вярнулася беларускаму народу. Зараз у Беларусі друкуюцца кнігі Натальлі Арсеньневай, Масея Сяднёва, рыхтуюцца да выданьня творы іншых беларусаў Замежжа. Беларуская нацыянальная літаратура ня можа быць поўнай безь літаратуры эміграцыі.*

*Адносна Беласточчыны. Беласточчына ў стратэгічным пляне вельмі важны для нас рэгіён. Гэта для нас прыклад, як стагодзьдзямі пад шалёным польскім уціскам захоўвалася беларускасьць. Мы разглядаем Беласточчыну як стратэгічны бастыён. Калі мы страцім яе ў нацыянальна-этнічным сэнсе, наша дзяржава будзе пастаўлена на хвалю зьнічтажэньня. Зьліквідаваўшы гэты бастыён, польская хваля пракоціцца па Заходняй Беларусі і будзе накіравана зьнічтажаць усё нацыянальнае.*

*Мы мусім падтрымоўваць школьніцтва на Беласточчыне, разьвіцьцё культуры. Мы не павінны забывацца і аб беларусах, якія жывуць у Маскве, Якутыі, Казахстане, вонках Беларусі. Толькі калі беларусы ўсяго сьвету аб'яднаюць свае намаганьні, мы зможам пабудаваць сапраўды нацыянальную Беларусь.*

Пасьля прамовы,якая працягвалася больш за паўтары гадзіны, Пётр Краўчанка адказаў на шматлікія пытаньні, якія датычыліся праблемаў культуры, беларускіх візаў, захаваньня гістарычнай памяці.

Назаўтра, 20 верасьня, пасьля сьв. літургіі ў царвке Жыровіцкай Божай Маці, на «Полацку» адбылася ўрачыстая сустрэча, з удзелам Пятра Краўчанкі, Сяргея Мартынава, Уладзіміра Герасімовіча.

Прывітаць шаноўных гасьцей прыйшлі August B Pust, Special Assistan for Multicultural Affairs Office of Governor George V.Voinovich; Richard Koniesiewicz, упаўнаважаны ад мэра г.Кліўленд; Ralth Perk, былы мэр Кліўленда, прэзыдэнт руху нацыянальнасьцей у Кліўленьдзе, разам з сынам Ralh Perk Jr., які ёсьць судзьдзёй; V.Brown, G.Pitro, прадстаўнікі ад уладаў Кліўлендскай акругі; M.Hoke, кандыдат у дэпутаты ў Кангрэс ад рэспубліканскай партыі, таксама сябры беларусаў—украінцы, расейцы,палякі. Праграму сустрэчы вялі Пол Васілеўскі й Янка Ханенка. Старшыня культурна-асьветніцкага цэнтру прывітаў удзельнікаў сустрэчы і перадаў Пятру Краўчанку сувэнірны ключ—сымбаль гасьціннасьці і павагі беларусаў Кліўленду

да шаноўных гасцьей. Міністр замежных справаў па добрай беларускай традыцыі перавязаў Янку Ханенку слуцкім пасам і перадаў культурна-асьветніцкаму цэнтру «Полацак» беларускія кнігі.

Пасьля прывітаньня гасьцей сустрэчы R.Konisiewicz, прадстаўніком адмэра горада Кліўленд і уручэньня міністру замежных справаў спэцыяльнай дэклярацыі, слова ўзяў Пётр Краўчанка.

*—Міжнароднае становішча Беларусі,—* адзначыў ён у сваёй прамове,— *палепшаецца. Мы рэальна рухаемся да незалежнасьці. Мы ўвайшлі ў міжнародны валютны фонд, дзе нашая агульная доля склала 0,5%. Без гэтага ўваходу нельга-б было стварыць нацыянальнай валюты, якую мы ўжо друкуем у адной з заходніх дзяржаваў. Справа толькі за тым як, дзе, калі уводзіць яе, каб не паставіць Беларусь у крытычную сытуацыю. Мы ўвялі свае грашовыя знакі, але гэта толькі пераход да валюты. Каб поўнасьцю перайсьці да нацыянальнай валюты, нам трэба мець у актыве 5 млрд. даляраў. Ніхто нам такіх грошаў не дасьць, і таму несваячасовае ўвядзеньне валюты можа прывесьці да таго, што мы скампрамятуем нашую сьвятую справу, зьвязаную зь пераходам да незалежнасьці. Таму мы мусім дзейнічаць памяркоўна. Не забягаць наперад, але не адставаць ад нашых суседзяў.*

*З другога боку, нам трэба стварыць нацыянальнае войска. Беларусь адзіная з краінаў СНД, якая пайшла на тое, каб фінансаваць войска, а гэта 246 тыс. вайскоўцаў, 140 тыс. зь якіх мы ўзялі пад свой кантроль. Гэта нашая будучая беларуская армія. Па сутнасьці яна яшчэ не нацыянальная, бо 80% вайскоўцаў, якія служаць у ёй, не беларусы. У бліжэйшы час у Беларусі будзе адбывацца скарачэньне войска, якое мы давядзем да 50-80 тыс., як у іншых эўрапейскіх краінах. Гэта будзе невялікае, але вельмі апэратыўнае войска, каб мы не залежалі ад тых працэсаў, што могуць адбывацца ў Заходняй Эўропе. Ход разьвіцьця падзеяў у Эўропе паказвае, што зараз ня можа быць абсалютна нейтральнай дзяржавы. Сёньня назіраецца працэс адыходу ад клясычнага нейтралітэту, аб'ядналньне Эўропы і стварэньне агульнага эўрапейскага дому. Я думаю, што і Беларусь паступова будзе ўцягвацца ў гэты працэс, будзе рухацца на Захад, уступаць у агульную эўрапейскую супольнасьць. Але гэта адбудзецца не адразу, і ўсе мы мусім многа яшчэ папрацаваць, каб зрабіць нашую Беларусь вольнай, незалежнай дзяржавай.*

*—Я вельмі ўзрушаны, —* сказаў Сяргей Мартынаў, *—бо пасьля некалькіх гадзінаў падарожжа з Вашынгтону ў Кліўленд, я апынуўся ў беларускім навакольлі. Я на свае вочы пабачыў беларусаў, што здолелі пабудаваць цэнтр «Полацак», што самаахвярна і зь вялікімі намаганьнямі выдаюць цудоўны і патрэбны нам часопіс «Полацак», якія сумелі захаваць нашую мову і традыцыі.*

*Пакуль нас, у беларускім пасольстве ў Вашынгтоне, працуе няшмат асобаў, але мы плённа працуем. Над пасольствам лунае бел-чырвона-белы сьцяг. Мы пачалі выдаваць свае беларускія візы. Калі ласка, зьвяртайцеся да нас, калі вы зьбіраецеся ў Беларусь і па ўсіх іншых пытаньнях.*

З нагоды першага наведваньня цэнтру «Полацак» Сяргей Мартынаў перадаў кліўлендцам беларускі абрус і кнігу пра нашую Бацькаўшчыну.

Др. Сажыч, старшыня Рады БНР, сказаў:

*—Я прамаўляю ня толькі як старшыня Рады БНР, але як і бліжэйшы сусед кліўлендцаў. Я вельмі рады бачыць, што Кліў-*

*ленд жыве, што ў Вас расьце зьмена. Я вельмі ўзрушаны ўчарашнім і сёньняшнім днём. Я бачу, што гэтае спатканьне ёсьць працяг XX Сустрэчы, якая адбывалася ў Нью Брансьвіку.*

Зь цёплым прывітаньнем да кліўлендцаў і шаноўных гасьцей зьвярнуўся прадстаўнік ад губэрнатара штата Агаё August Pust.

*—Беларуская калёнія ў Кліўлендзе ня ёсьць вельмі вялікая, але затое яна вельмі якасная. Мы часта з маімі сябрамі беларусамі гаварылі, як наладзіць партнёрства паміж Агаё і Беларусьсю. І гэты час прыйшоў. Мы будзем гэтае эканамічнае партнёрства разьвіваць. Гэты год выбараў, і я магу сказаць, за што-б я аддаў свой голас: «Сталічная—не, Белавежская—так». Мы глядзім з аптымізам у будучае. Жыве Беларусь!*

A.Pust перадаў П.Краўчанку грамату ад губэрнатара штату Агаё Джорджа Вайновіча.

З адаказным словам выступіў Пётра Краўчанка.

*—Я хацеў, бы ў вашай асобые шаноўны сп.Пуст, падзякаваць губэрнатара штату Агаё за падтрымку. Я спадзяюся, што губэрнатар і Вы наведаеце Беларусь. І мы будзем ня толькі сябрамі, але пачнем вялікі бізнес паміж штатам Агаё і Рэспублікай Беларусь.*

*Таксама я хацеў сказаць аб адной важнай справе.*

*У Кліўлендзе выдаецца часопіс «Полацак».Гэта вельмі патрэбы часопіс для нас, беларусаў Бацькаўшчыны. Гэты гістарычна-мастацкі альманах дае мажлівасьць лепш разумець Вас, ведаць Вас. Гісторыя Вашага жыцьця, апісаньне падзеяў, якія адбываюцца ў Вас, находзіць сваё адлюстраваньне ў часопісе. Дык давайце ўсё зробім, каб гэты часопіс і далей распаўсюджваўся ў Беларусі.*

З прывітальным словам выступілі таксама R.Perk, M.Hoke, а. Міхась Страпко. Усе яны выказалі надзею што працэсы дэмакратызацыі, якія адбываюцца ў Беларусі прывядуць да яе сапраўднай свабоды і незалежнасьці.

Пасьля перапынку, у час якога міністр замежных справаў даў інтэрв'ю кліўлендзкай газэце « The Plain Dealer», адбыўся канцэрт, у якім прынялі ўдзел Тацьцяна Мархель, Мікола Скорыкаў, Іна Афанасьева, Зьмітрок Яўтуховіч, Лявон Пранчак. Але на гэтым сустрэча з гасьцямі не закончылася. Да позьняга вечару гарэла на Полацку сьвятло, працягваліся размовы і абмен думак зь Пятрам Краўчанкам, Сяргеем Мартынавым, Уладзімерам Герасімовічам. Працяг гэтай сустрэчы — наперадзе.





20 верасьня, «Полацак«. У часе сустрэчы

# Беларускае сьвята ў ААН

Сьвятлана Менская

...І стаяла над Беларусьсю ноч, жудасная, глухая. Толькі балотныя агні асьвяшчалі старажытныя пушчы ды ціхі жалосны стогн стаяў над імі. Не было ратаваньня ад таго мраку. Не было мажлівасьці вырвацца з дрыгвы яго цяжкага сну. Таму Гасподзь паслаў на тую зямлю сваіх пракрокаў, сваіх волатаў Янку і Якуба, каб ішлі яны й абуджалі яе народ, глухі, сьляпы, людзьмі звацца. І тыя сыйшлі на зямлю і сваімі песьнямі звалі беларусаў к свабодзе, незалежнасьці, праўдзе. І народ той абудзіўся, панёс на плячах усяму сьвету сваю крыўду, сваі пакуты, надзею. Наперадзе яго ішлі Янка Купала і Якуб Колас. І хоць загінулі яны ў той барацьбе, але зерне, кінутае імі ў людзкія душы, дало добры ўраджай, і рунее збожжа на зямле беларускай. Памяцьжа аб нацыянальных героях прадаўжае жыць. І сёньня мы сьвяткуем іх юбілей, іх 110-гадавіну з часу нараджэньня.

Пасьля сьвяткаваньняў у Мікалаеўшчыне, Менску, Вязанцы, Акімчыцах, Купалаколасаўскае сьвята прыйшло і на амэрыканскі кантынэнт. У Нью Ёрку, у ААН, 22 верасьня сабраліся дыпляматы, консулы, супрацоўнікі амбасадаў, каб ўрачыста адсьвяткаваць 110-годзьдзе з часу нараджэньня беларускіх песьняроў. З Кліўленду, Саўт Рывэру, Нью Брансьвіку, Нью Ёрку зьехаліся беларусы, каб пакланіцца памяці сваіх нацыянальных герояў, Янкі Купалы й Якуба Коласа.

*—Кожнаму з нас лёс адводзіць свой зямны куток, дзе дае бясцэнны дар жыцьця, і непаўторную матчыну ласку, родную мову і сьвятое адчуваньне ўласнай годнасьці.* — сказаў у сваёй прамове шэф беларускай місіі ў ААН, паэт Генадзь Бураўкі —*А вось неба над намі даецца на ўсіх адно: неабдымнае і загадкавае, глыбокае і неспазнанае, адкуль зоркі сьвецяць, не зважаючы на дзяржаўныя межы, розьніцу ў людзкіх характарах, ня слухаючыся розных валадароў і хуткаплынных зьмен. Нібы адчуваючы нейкую віну за шматвяковую цяжкую маркотлівую долю беларуса, 110 гадоў назад Бог шчодра кінуў сваю зыркую іскру адразу ў дзьве душы мужычых сыноў. І ў сьвет прыйшлі два нацыянальныя геніі, а на небасхіле культуры і людзтва ўспыхнулі дзьве ярчэйшыя зоркі беларускай літаратуры.*

*Колькі ў іх было родаснага і аднолькавага: і ў трывогах, і ў парываньнях, і ў горкіх развагах. Горача і самаахвярна любілі яны і пяшчаную сваю зямельку, і цягавітага ды маўклівага свайго братку беларуса, і поўную хараства і замілаваньня матчыну песьню.*

*Дзеля гэтай любові спазналі іператрывалі яны і крывавыя песягі царскай цэнзуры, і абразьлівыя зьдзекі сталінскіх катаў, і палынёвую гаркоту расчараваньня й адчаю.*

*Бог даў ім рэдкі талент, але і дастаткова выпрабаваў на трывушчасьць і адданасьць Бацькаўшчыне. Можа таму часам і здаюцца іх чыстя зоркі дзьвюмя яснымі сьлязінамі...*

*Геніі могуць быць незразуметымі або недаацэненымі пры жыцьці. Але шчасьце народнага прызнаньня і пакланеньне ніколі не абмінае іх, бо ёсьць-жа і ў сьвеце, якім мы жывём, найвышэйшая справядлівасьць.*

*Яна можа запазьніцца, але яна ёсьць. І тады шчасьце паэтаў становіцца шчасьцем радзімы, якой яны аддалі ўсё, што мелі, і нават болей таго.*

*Янка Купала й Якуб Колас пры жыцьці пасьпелі адчуць народную любовь і ўдзячнасьць. Ім пашанцавала, іх асабістае шчасьце ўжо тады станавілася шчасьцем Радзімы. Але толькі з гадамі пачынаем мы разумець глыбіню іх азарэньня і вышыню іх узьлёту.*

*І калі Вам пакарціць паўзірацца ў прасторнае неба духоўнасьці, якое й атуляе ўсіх нас, і кліча да вышыні, успомніце, што ў сузор'і Пушкіна, Шаўчэнкі, Міцкевіча ёсьць і зоркі з прос тымі беларускімі імёнамі Янка й Якуб. Пакланіцеся ім. Яны вартыя.*

Цёплае слова аб нашых нацыянальных волатах сказаў міністр замежных справаў Рэспублікі Беларусь Пётра Краўчанка. Ён нагадаў асноўныя вехі жыцьця і творчасьці паэта Янкі Купалы, адзначыў, што ніводны паэт ня быў акружаны такой пашанай. *Але ў той-жа час ніводнага паэта так не зьвішчалі, як аўтара неўміручых «Паўлінкі», «Тутэйшых», «Раскіданага гнязда». На Бацькаўшчыне расьце пераканаьне, што Купала загінуў невыпадкова. Бэрыя проста ня мог дапусьціць сьвяткаваньня шасьцідзесяцігадовага юбілея паэта. Ён не хацеў, каб быў яшчэ адзін форум, бо гэтыя людзі не хацелі праслаўляць Беларусь.*

*— У маім сёньняшнім разуменьні, галоўнае ў Купалы—гэта ягоная дзяржаўная філязофія, дзяржаўная мудрасьць і дума пра нас з Вамі. І пра ўсё гэтае сьведчыць ягоная творчасьць.*

Працягам размовы пра Купалу і Коласа стаў цудоўны канцэрт, у якім прынялі ўдзел народная артыстка Беларусі Тацьцяна Мархель, паэты Сяржук Сокалаў-Воюш, Лявон Пранчак, кампазітары Зьмітрук Яўтуховіч і Аўген Магаліф, сьпевакі Іна Афанасьева і Мікалай Скорыкаў. У канцэрце прагучалі песьні на вершы славутых юбіляраў, а так-сама на словы Максіма Багдановіча, Гена-дзя Бураўкіна, Лявона Пранчака.І слухаю-чы, кранаючыя душу беларускія песьні, уз-гадваліся словы Янкі Купалы, напісаныя з нагоды 15-годзьдзя творчай дзейнасьці паэта. Словы, напісаныя больш за 60 гадоў назад, але зьвернутыя і да нас, нашчадкаў.

*Не адно на сьвеце Адраджэньне народу, не адна вялікая ідэя не пачыналася так шпарка, як ідэя Адраджэньня беларускага народу. І сапраўды, што было 15 гадоў назад, што мы бачым цяпер? 15 год таму назад некалькі шалёных галоў захацелі галовамі мур прабіваць, адбудоўваць сваю закаваную у многавекавыя кайданы Бацькаўшчыну. А сёньня без малага увесь народ усімі сіламі дамагаецца свайго вызваленьня.*

*15 год назад аб незалежнасьці і падумаць было небясьпечна. Сягоньняшнія нашыя бліжэйшыя суседзі самі аб гэтым падзяржаўнаму гавораць з намі, як з народам, каторы заслужыў па-людзкаму і божаму праву гэтую незалежнасьць. Адзіным узмахам агняцьветнай думкі, аб нашай волі мы скінулі і патапталі даўгавечную брахню, што Беларусі не было і няма. Сваім векапомным і магутным духам народным, што адважна сягае да сонца, мы паказалі сьвету, што Беларусь ёсьць, была і будзе!*

Словы прарока Янкі Купалы актуальны і сёньня. Беларусь жыла, жыве і будзе жыць!

# ЗЬ ЖЫЦЬЦЯ ЭМІГРАЦЫІ

## Верасьнёўскі пікнік

Як -жа дакладна мудрасьць народная кажа: «Добра ў гасьцях, а дома яшчэ лепш». Пасьля насычанай XX Сустрэчы ў Нью Брансьвіку, пасьля шумных магістраляў Нью Джэрзі, ціхі і спакойны куточак Полацку паказаўся ўсім маленькім раем. І пікнік, які адбыўся тут 13 верасьня, можна лічыць адным з найбольш удалых за гэты летні сэзон. Колькі было расказаў, усьмешак, жартаў у гэты нядзельны дзень! Колькі ўспамінаў і песьняў!

Узрушанасьць павялічвалася яшчэ і тым, што на Полацак прыехла кіназьёмачная група, якая здымала шматсэрыйны дакумэнтальны фільм аб пісьменьніках, паэтах, мастаках, бізнесмэнах, працаўніках беларускага Замежжа, з рабочай назвай «Беларусы, што жывуць у Амэрыцы» (аўтарка сцэнарыя Вацлава Вярбоўская, рэжысёр Натальля Вярбоўская, дырэктар карціны Ірына Дварнічэнка, кінаапэратар Валянтын Леановіч).

У гэты-ж дзень гасьцямі «Полацку» былі прачытаны рэфэраты аб падзеях на Бацькаўшчыне.

**Яўген Цумараў**, дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі, намесьнік старшыні ТБМ, праінфармаваў кліўлендцаў аб дзейнасьці ТБМ, якое ўзьнікла больш за 3 гады назад аб выдавецкай дзейнасьці Таварыства (ТБМ выдае газэту «Роднае слова», перавыдала пару кніг эмігрантаў). Падзяліўся ўражаньнямі аб апошніх падзеях на Бацькаўшчыне, падкрэсьліў, якое вялікае значэньне для беларусаў Бацькаўшчыны аказвае той факт, што ў далёкай Амэрыцы беларусы захавалі сваю мову, традыцыі. Таксама ён запрасіў прыязджаць кліўлендцаў у Беларусь па запрошаньням ТБМ.

—Мы маем цудоўную базу для адпачынку. Дом творчасьці Саюза пісьменьнікаў, які знаходзіцца ў жывапісных мясьцінах у Каралішчывіцах, цяпер перададзены ТБМ. Мы можам арганізаваць цікавую культурную і гістарычную праграму, курс лекцыяў і выступленьняў.

Яўген Цумараў таксама прапанаваў кліўлендцам сумеснымі намаганьнямі паставіць у Беларусь друкарню, каб выпускаць беларускія кнігі для беларусаў Бацькаўшчыны і Замежжа. І як напамін аб гэтай сустрэчы перадаў Янку Ханенку бел-чырнова-белы сьцяг, які удзельнічаў ва многіх гістарычных мітынгах, а усім прысутным на гэтай сустрэчы зборнік вершаў Ніла Гілевіча «Незалежнасьць», выдадзены ТБМ, а таксама памятныя календары і значкі.

**Яўген Лецка**, старшыня згуртаваньня «Бацькаўшчына» расказаў аб дзейнасьці згуртаваньня і пэрспэктывах правядзеньня Сусьветнага Кангрэсу Беларусаў, які

плянуецца адбыцца ў чэрвені—ліпені наступнага году ў Менску. Ён запрасіў усіх прысутных прыязджаць на гэты ўрачысты форум. Ад імя згуртаваньня «Бацькаўшчына» сп. Лецка перадаў на «Полацак» праэкт скульптуры сьв. Еўфрасіньні Полацкай, якая зь цягам часу будзе ўпрыгожваць полацкую зямлю ў Кліўленьдзе.

З прамовай аб сёньняшняй сытуацыі ў Беларусі, аб выніках збору подпісаў для рэфэрэндуму, аб растаноўцы палітычных сілаў на Бацькаўшчыне выступіў **Анатоль Белы**, старшыня клюбу «Спадчына». Таксама ён падзякаваў усіх, хто фінансава і маральна дапамагаў клюбу ў стварэньні помніка Максіма Багдановіча, і праінфармаваў, што бронзавая скульптура ўжо канчаткова зроблена і пасьля ўсіх пагадненьняў яраслаўскіх уладаў зь беларускімі і яраслаўскімі архітэктарамі будзе ўстаноўлена ля будынку былой мужчынскай гімназіі, дзе ў 1909-1911 гадах вучыўся клясык беларускай літаратуры.

# Навіны культурнага жыцьця

13 верасьня, пасьля сьв. Літургіі, якую служылі а. Міхась Страпко й а. Якуб, у падцаркоўнай залі адбыўся канцэрт народнай артысткі Беларусі Тацьцяны Мархель.

Тацьцяна Мархель паказала сцэнічны абразок на біблейскія матывы. У гэтым філязоўскім творы, дзе жыцьцё Хрыста, ад нараджэньня і да сьмерці, праходзіць праз прызму традыцыяў, вераваньняў беларуса, было многа нацыянальных песьняў. У маленькім абразку адбілася ўсё гаротнае жыцьцё беларуса, ягоныя радасьці і пакуты: нараджэньня дзіцяці, турботы бацькоў, шчасьце маладых на вясельлі, цяжкасьці жыцьця, хваробы, горыч сьмерці. Сцэнічны абразак выклікаў вялікую цікавасьць у гледачоў і не пакінуў нікога раўнадушным.

20 верасьня пасьля сьв. Літургіі ў падцаркоўнай залі адбыўся прагляд аматарскага відэафільма Міхася Калядкі аб сустрэчы кліўлендцаў з міністрам замежных справаў Пятром Краўчанкам, беларускім паслом у Амэрыцы Сяргеем Мартынавым, намесьнікам шэфа беларускай місіі пры ААН Уладзімірам Герасімовічам. Прысутныя зь цікавасьцю аднавілі ў памяці некаторыя моманты спатканьня з шаноўнымі гасьцямі, а таксама прагледзелі канцэрт, у якім прымалі ўдзел Тацьцяна Мархель, Іна Афанасьева, Мікалай Скорыкаў, Лявон Пранчак, Зьмітрок Яўтуховіч.

# Перавыбарчы сход

адбыўся на Полацку 27 верасьня. Пасьля справаздачы старшыні цэнтру Янкі Ханенкі і дэбатаў, была выбрана новая ўправа «Полацку», у якую ўвайшлі: Я. Ханенка — старшыня, В. Лукашэвіч—заступнік старшыні, К. Каваленка — сакратар, Я. Каваленка — скарбнік, В.Дубаневіч, П.Васілеўскі, Д.Яраховіч —сябры.

# Сустрэча ў Белым Доме

прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў з амэрыканскімі палітыкамі адбылася 10 кастрычніка

Беларуская дэлегацыя была ў складзе: Пол Васілеўскі, Янка Раковіч, Янка Ханенка, Астап Яраховіч—Кліўленд, Вера Бартуль, Янка Запруднік, Зора і Вітаў Кіпель, Томас Бэрд—Нью Ёрк, Вера і Вітаўт Рамук і— Чыкага, Багуслаў Станкевіч — Вашынгтон, Мікола Пруські—Грэнд Рапідс.

Амэрыканскі бок прадстаўлялі: Jim Schaefer, Associate Director Office of Public Liaison; Cathy Nivelli, Director for Eastern Europe and New Independent States Office of the United States Trade Representative; Nicholas Burns, Director of Russian and Eurasia Affairs National Security Council; Paul Timmer, Belarus Desk Officer, Departmen of State.

У часе палутарагадзіннай гутаркі былі паднятыя пытаньні: беларускай мовы ў праграме «Голас Амэрыкі»; абмену студэнтаў паміж Рэспублікай Беларусь і ЗША, выдачы беларускіх візаў у Беларусі, а не ў Маскве; квоты на эміграцыю зь Беларусі ў ЗША, дапамогі ў Чарнобыльскай бядзе; правільнага правапісу назоваў *Беларусь, беларускі* ў амэрыканскіх дакумэнтах, прэсе (правільна Belarus, Belarusian).

Прадстаўнікі амэрыканскага ўраду выказалі зацікаўленасьць у разьвіцьці ўзаемаадносінаў зь Беларусьсю. Амэрыканцы падкрэсьлілі, што яны сочаць за тымі працэсамі, якія адбываюцца зараз ў Беларусі. Яны разумеюць, што цяперашні парлямэнт больш чым 80% складаюць былыя камуністы, і таму Амэрыка з надзеяй глядзіць на правядзеньне рэфэрэндуму, бо яна хоча мець справу з дэмакратычным урадам. Таксама было выказана разуменьне па праблеме Чарнобыля. Амэрыканскі ўрад плянуе выдзяліць Беларусі вялікі крэдыт пад мінімальныя працэнты, для ажыцьцяўленьня дзяржаўнай праграмы па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай трагедыі. Адносна квоты для эміграцыі зь Беларусі ў ЗША было сказана, што Беларусі будзе прадастаўлена квота на ўезд 20 тысячы чалавек.

На завяршэньні гутаркі амэрыканскія палітыкі выказалі гатоўнасьць у навязаньні больш цесных кантактаў зь беларусамі і беларускімі арганізацыямі ў ЗША і прапанавалі сустракацца разам часьцей, для абмеркаваньня агульных пытаньняў і супрацоўніцтва.

# Сьв.памяці Сяргея Хмары

У канцы ліпеня выйшаў чарговы нумар газэты «Беларускі Голас», а 5 верасьня прыйшла вестка, што яе рэдактар і выдаўца Сяргей Хмара памёр на 87 годзе жыцьця пасьля працяглай хваробы. Лекары яшчэ ў 1987 годзе сказалі яму, што хвароба ягоная незьлячымая, што трэба праводзіць ашчадны рэжым жыцьця. Толькі Сяргей Хмара грамадзкай працы не прыпыніў і рэгулярна працягваў выдаваць газэту, укладаючы ў выдавецкую справу ня толькі столь для патрэбныя сілы і рэшткі здароўя, але і нямалыя фінансавыя сродкі.

Ягоная газэта не была палулярнай сярод беларускае эміграцыі, бо завостра рэагавала на нашае эміграцыйнае жыцьцё. Затое на Бацькаўшчыне ў яго было нямала прыхільнікаў — сьведчаньнем таго лісты, якія ён атрымоўваў кожны дзень.

Мы часта былі вельмі абураныя за ягоныя артыкулы і мелі розныя падазрэньні. Але варта прыгадаць, што Сяргей Хмара, маючы ўсяго 17 год (ён нарадзіўся 25 травеня 1905 г. ў Пінску) пабываў у польскай турме за беларускую нацыянальную справу. Ён адведаў польскія турмы ў Каранове, Гурдзяндзу, Лукішкі, Вронкі, Бярозу Картузку. Каля 10 год свайго жыцьця правёў за кратамі ў Польшчы. Савецкая ўлада пасадзіла яго ў баранавіцкую турму. Гады зьняволеньня ўплылі на ягоны характар. Але з гадамі ягоная ранейшая зласьлівасьць перарадзілася ў спачувальнасьць. Мы таксама мусім яго прабачыць, хай будзе яму вечная памяць.



*С.Хмара.*



# Узнагарода

Бел-чырвона-белая «Тройка» Янкі Салавянюка заняла 2 места ў выстаўцы «Great Lake Wood Carving Exhibit», якая адбывалася 19-20 верасьня ў Кліленьдзе. У гэтай выстаўцы, якая штогод зьбірае мастакоў, што працуюць па дрэву, прынялі ўдзел 90 творцаў з 6 штатаў Амэрыкі.

Янка Салавянюк нарадзіўся 10.2.1945 г. у в.Насады, на Беласточчыне. Пасьля заканчэньня беларускага ліцэю працаваў у 1962-1964 гг. настаўнікам пачатковых клясаў у в.Курашаве, в.Соцы. У 1964 г. паступіў на мастацкае аддзяленьне Торунскага ўнівэрсытэту, які закончыў у 1969 г. У гэтым-жа годзе прыняты ў Саюз мастакоў Польшчы. Удзельнічаў у шматлікіх мастацкіх выстаўках і 6 плэнэрах. Меў пэрсанальную выстаўку жывапісу і графікі ў Беластоку. У 1988 г. удзельнічаў у выстаўцы мастакоў усходняй Эўропы. Многія ягоныя творы, знаходзяцца у прыватных калекцыях у Швэйцарыі, Фінляндыі, Францыі, Нямеччыне, Польшчы.

У 1971 г. пераехаў у Гайнаўку. Працаваў настаўнікам у школе. Актыўна ўдзельнічаў у пабудове беларускага музэю ў Гайнаўцы. Цікавасьць да старажытнай беларускай культуры адбіваецца на ягоным мастацкім стылі. Спалучаючы разьбу па дрэву і жывапіс, зрабіў іканастасы для Гайнаўскай царквы Сьв. Тройцы й іншых цэркваў Беласточчыны.

З 1990 г. жыве ў Кліўлендзе. Працуе ў галіне царкоўнага жывапісу, разьбе па дрэву. 11 верасьня ў царкве сьв. Сьцяпана адбылося высьвячэньне мітр. Канстантынам УАПЦ іканастасу, які спраэктаваў і выканаў мастак Янка Салавянюк

# 15th Annual
# GREAT LAKES
# WOOD CARVING EXHIBIT

GREAT LAKES WOOD CARVING EXHIBIT



